Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

№6 (570) ЧЭРВЕНЬ 1986 г.

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.

## У НУМАРЫ













На першай старонцы вокладкі: мадэлі адзення ў нацыянальным стылі, распрацаваныя мастакамі Беларускага Дома мадэлей (нататкі аб навінках моды лета-86 глядзіце на 26—27-й стар.).

Фота Ігара ЗОЦІНА і Уладзіміра МЯЖЭВІЧА.

На другой старонцы вокладкі: «Трэці працоўны — цудоўны семестр»,— лічыць баец атрада «Рытм» студэнтка другога курса музычна-педагагічнага факультэта Мінскага педінстытута Таццяна Калініна.
Яна на фотаздымку, які бачыце на другой старонцы вокладкі. А кароткі расказ пра будатрадаўскае лета вас чакае на 3-й стар.

Фота Генадзя СЛЕСАРОНКА.



Мастацкі рэдактар Н. І. БАГАМОЛАВА. Карэктар М. У. ВАСІЛЕЎСКАЯ. Афармленне Л. А. КАРНЕЕВАЙ.

Журнал «Беларусь» на белорусском языке.
Здадзена ў набор 14.04.86. Падпісана да друку 26.05.86. АТ 00570. Фармат 70×108 1/8. Глыбокі друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 10,9. Ум. фарбаадб. 12,6. Т 13 293 экз. Зак. 906.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вуліца Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01, намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



## IX З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**23—24 сакавіка 1986 года ў Мінску праходзіў IX з'езд пісьменнікаў БССР.**

**З'езд адкрыў народны пісьменнік БССР, лаўрэат Ленінскай прэміі Васіль Быкаў.**

**Са справаздачным дакладам выступіў старшыня праўлення СП БССР, народны паэт БССР, лаўрэат Ленінскай прэміі Максім Танк.**

**Са справаздачным дакладам рэвізійнай камісіі СП БССР выступіў пісьменнік Эрнест Ялугін.**

**У спрэчках па справаздачнаму дакладу выступілі пісьменнікі — А. Дудараў, В. Каваленка, М. Лужанін, А. Адамовіч, Г. Бураўкін, Р. Барадулін, А. Кудравец, Д. Бугаёў, Г. Каржанеўская, А. Мальдзіс, А. Грачанікаў, А. Клышка, Я. Лецка, У. Дамашэвіч, М. Мятліцкі, А. Карпюк. З'езд віталі — А. Чакоўскі (Масква), Л. Навічэнка (Украіна), Б. Ісаеў (Казахстан), І. Рахім (Узбекістан), У. Гардзейчаў (Варонеж).**

**Ад імя беларускіх кампазітараў выступілі народны артыст рэспублікі І. Лучанок, ад камсамола і моладзі рэспублікі — першы сакратар ЦК ЛКСМБ В. Гурын. Выступіў старшыня Дзяржкамвыда БССР М. Дзялец.**

**Аб даўняй і трывалай дружбе, якая звязвае воінаў Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі і пісьменнікаў, гаварыў у сваім выступленні першы намеснік начальніка Палітупраўлення ЧБВА генерал-маёр Б. Аляксандраў.**

**Перад дэлегатамі з'езда з прамовай выступіў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ тав. Слюнькоў М. М.**

**З'езд прыняў рэзалюцыю, у якой вызначана дакладная праграма дзейнасці пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі па выкананні рашэнняў XXVII з'езда КПСС.**

**З вялікім уздымам удзельнікі з'езда прынялі прывітальнае пісьмо Цэнтральнаму Камітэту КПСС.**

**Выбран новы састаў праўлення і рэвізійнай камісіі Саюза пісьменнікаў БССР, дэлегаты на VIII Усесаюзны з'езд пісьменнікаў.**

**Старшынёй праўлення СП БССР выбраны народны паэт Беларусі Максім Танк, першым сакратаром — Ніл Гілевіч, сакратарамі — Алесь Жук, Васіль Зуёнак і Віктар Казько.**



**Васіль БЫКАЎ**

# НА СЛУЖБЕ ГРАМАДСТВУ І РАДЗІМЕ



Дарагія таварышы, нашы паважаныя госці! Мы жывём у знамянальны і велічны час грандыёзных матэрыяльных дасягненняў, час навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, якая паступова і няўхільна вызваляе чалавецтва ад спрадвечнай цяжкой чорнай працы, дае новыя радасці матэрыяльнага карыстання. Час вялікіх даброт, але і яшчэ большых трывог ад страшэннай пагрозы вайны на знішчэнне, час-рысу, якая падзяляе існаванне чалавецтва на ДА і ПАСЛЯ-атамную эпоху і тоіць у сабе пытанне: ці наступіць наогул гэтая ПАСЛЯ-эпоха? Менавіта такі клопат-трывога нязбыўна жыве ў душах людзей, свядомасці цэлых народаў і накладвае незвычайны па ступені адказнасці абавязак на нас, працаўнікоў культуры.

Але культура можа нармальна развівацца толькі ва ўмовах міру, бо яна — прадукт цярпімасці, суіснавання і адначасна фермент высокай чалавечай духоўнасці, якая толькі і можа цяпер супрацьстаяць усяленскаму ядзернаму шаленству. Яна — тое, што тонкай, але надта жывой і неабходнай ніткай злучае ў жыцці мінулае з будучым. Здаўна вядома, што сувязь часоў — не абстрактнае паняцце, гэта катэгарычная перадумова міру і пастулальнага развіцця грамадства, і гора таму грамадству, дзе гэтая сувязь ірвецца. Утвараецца пустка, якую, як вядома, не трывае прырода, духоўная ж пустка не толькі спыняе развіццё нацыі,— яна адкідвае яе да нуля. І тады зноў патрэбны стагоддзі высілкаў, подзвігаў апосталаў духу, каб вярнуць нацыю і грамадства ў іх гістарычны рад. Прыкладаў такога роду безліч у гісторыі, мы мелі магчымасць назіраць іх на працягу нашага жыцця — у Азіі, Еўропе, у Лацінскай Амерыцы.

Так, сёння мы з'яўляемся сведкамі небывала развітой эканомікі нашай рэспублікі, багатай сельскай гаспадаркі, з'яўляемся ўдзельнікамі бурнага развіцця нацыянальнай культуры. Мы маем поўнае права ганарыцца дасягнутым, але дух часу, велічныя задачы пераўтварэння, якія стаяць перад краінай, нарэшце гістарычныя рашэнні XXVII з'езда КПСС абавязваюць нас найбольш гаварыць пра нашыя недахопы, якіх у нас таксама нямала.

Я хацеў бы перш за ўсё звярнуць увагу шаноўных калег на тую несумненную ісціну, што нашыя поспехі і няўдачы найперш звязаны з вечнаю праблемай літаратуры, якая хвалявала майстроў слова ўсіх часоў і народаў: для каго пісаць? Хто нас чытае? І калі ў чыста рытарычным плане заўжды ёсць выразны адказ на гэта пытанне, дык часам яго не стае ў свядомасці, у практычных справах пісьменнікаў. Канечне, на тое ёсць шмат прычын: гэта і яўнае зніжэнне ў наш час значнасці друкаванага слова, якое знаходзіцца ў стане жорсткай канкурэнцыі з тэлебачаннем і відэаэлектроннымі сродкамі, гэта і пэўнае звужэнне моўнага нацыянальнага арэала, і павышаны тэмп жыцця, і славуты паток інфармацыі, ад якога ўжо нікому і нідзе няма паратунку. І тады шмат каму пачынае здавацца, што даволі абстрактнае паняцце народ найлепш атаясамліваецца з надзвычай канкрэтным паняццем бюракратычных інстанцый — ва ўсёй багацейшай разнастайнасці іх праяўлення. Асабліва яшчэ, калі тыя інстанцыі могуць даволі адчувальна ўшчуваць прыгожае, але і далікатнае пісьменства. І з'яўляюцца творы, яўна разлічаныя на лёгкую «прахадзімасць», на тое, каб хутка дагадзіць тым, ад каго залежыць іхняя ацэнка да друку, у друку і пасля выхаду з друку. Але ў жыцці, на шчасце ці на бяду, шмат што адбываецца не так, як плануецца: чаргуюцца кампаніі, мяняецца начальства і ягоныя густы, а самае, можа, галоўнае,— мяняецца сам час, і тво-



**Народныя пісьменнікі Беларусі Максім Танк і Іван Шамякін у прэзідыуме з'езда.**

**Народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль сярод удзельнікаў з'езда.**

**Народны пісьменнік Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк і Валянцін Тарас (злева направа).**

**Дэлегаты з'езда Кастусь Кірэнка, Алена Руцкая, Ніна Загорская і Ніна Маеўская (справа налева).**

ры такога роду канчаюць сваё жыццё ў літаратуры раней, чым паспее выйсці збор твораў іх паважанага аўтара. І гэта зразумела, бо падобныя творы — не што іншае, як прадукт кан'юнктурнага разліку, сезонны тавар шырспажыву, акт ператварэння высокае творчасці ў рамяство. Менавіта ў гэтым мне бачыцца прырода той самай шэрасці, параднасці і алілуйшчыны, якія з нейкага часу сталі пагрозаю для літаратуры і аб якіх нямала гаварылася з трыбуны XXVII партыйнага з'езда. Канечне, гэта не адзіная прычына нашых заган, ёсць і некаторыя іншыя, але гэтая — безумоўны вынік разліку, аглядкі на ласку рэдактара.

Аднак, што ж вынікае з дадзенай акалічнасці, які ўрок можа засвоіць з яе літаратура? Мне думаецца, найперш той, што свой кожны радок, кожнае слова і вобраз пісьменнік павінен адрасаваць народу, выказваць ягоныя клопаты і ягоны боль і рабіць гэта з гранічнай праўдзівасцю. Могуць запытацца: а як уведаць пра гэтыя клопаты і гэты народны боль — з народам жа не параішся? На жаль, не параішся, гэта праўда, але тут трэба даверыцца таленту, калі толькі ён ёсць. (Талент, між іншым, тым і адрозніваецца ад няталенту, што выдатна адчувае народны клопат, бо сам ім жыве, а зусім не тым, што ўмее прыгожа апісаць усход сонца ці зіхаценне расы на аксамітнай траве, як нядаўна яшчэ лічылі некаторыя вучоныя кніжнікі). Яшчэ трэба памятаць, што талент мае права гаварыць народу ўсю праўду пра ягонае існаванне, часам горкую і балючую праўду, якая ёсць у гісторыі кожнага народа. Канечне, няма ніякай гарантыі таго, што аўтара неадкладна засыплюць кветкамі (могуць закідаць і каменнем), але калі ягоная праўда з вялікай літары, дык пройдзе час, і яму паставяць прыгожы помнік на самай прыгожай плошчы сваёго сталічнага горада.

Калі гаварыць яшчэ пра нашу беларускую літаратуру, дык мне здаецца, што пры наяўнасці несумненных талентаў і сапраўды значных твораў ёй усё ж моцна шкодзіць пэўны рацыяналізм, галаўны, калі можна так сказаць, падыход да многіх з'яў жыцця мастацтва. Асабліва прыкра, што гэты недахоп паступова, але няўхільна запаноўвае таксама і ў нашай паэзіі. Мала непасрэднасці светаўспрымання, арганічнасці пачуцця. Сярод вялікае колькасці паэтычных радкоў зборнікаў апошніх гадоў дужа мала, аднак, водбліскаў той страсці, якая хвалюе свет і грамадства і якая заўжды так ярка вызначае вяршы нашых сапраўдных майстроў паэтычнага слова. Што датычыць прозы, дык, нягледзячы на паяўленне цэлага рада сапраўды добрых кніг на тэмы сучаснасці, вайны, публіцыстычных і драматургічных твораў, галоўная кніга накшталт мележаўскай эпапеі яшчэ ўсё наперадзе. У нашай літаратуры застаецца белая пляма на месцы незабыўнага Уладзіміра Караткевіча, чалавечы лёс да якога, дарэчы, паставіўся так няўдзячна. Але, мабыць, так ужо заведзена на белым свеце, што да сапраўдных апосталаў дабра і справядлівасці лёс амаль заўжды ставіцца няўдзячна.

І тут можна кінуць папрок маладым, тым, што ўвайшлі ў літаратуру і ўжо набылі літаратурнае імя, а таксама тым, што яшчэ ўваходзяць. Здаўна было так у нашай літаратуры, што яе аблічча ў значнай меры абнаўлялі маладыя, якія нярэдка, часам, можа, і залішне катэгарычна, адвяргалі пісьменніцкі кансерватызм старэйшых, па-рэвалюцыйнаму смела ўрываліся ў трудную сацыяльнасць жыцця, даволі плённа для сябе, а галоўнае для літаратуры ўступалі ў жыццёвыя канфлікты сучаснасці. На жаль, цяпер гэтая справа выглядае інакш: некаторыя нашы маладыя самі дужа лёгка і ахвотна засвойваюць ахраніцельскі кансерватызм, уласцівы старэйшым пакаленням, і калі распачынаюць канфлікты са старэйшымі, дык зусім не на літаратурнай глебе.

Аднак будзем аптымістамі і не пакінем спадзявацца, што, перамогшы шмат што, пераможам і ўласныя заганы. Адмовімся ад разліку, заўжды несумяшчальнага з высокім мастацтвам. Набудзем непасрэднасці і безагляднасці. Запомнім пры гэтым, што сапраўдны талент рэдка разлічвае на міласэрнасць і палёгку, у сваім мастакоўскім лёсе ён мусіць прымаць усё, як належнае. Урэшце час і народ ацэняць па справядлівасці. Жыццё зменлівае, але народ вечны, як вечныя законы чалавечага існавання, над якімі мы не ўладарны. Мы можам хіба імкнуцца спасцігнуць іх логіку і адлюстраваць яе ў мастацкіх вобразах, тым саслужыўшы сваю духоўную службу грамадству, да якога належым, і Радзіме, у якой жывём.

**РЭТРАСПЕКТЫЎНЫ РЭПАРТАЖ**

# ЕДЗЕМ МЫ, СЯБРЫ!

Вы ведаеце, як перакласці з лацінскай мовы слова «сесія»? «Час бяздзейнасці»... Менавіта той выпадак, калі ад здзіўлення можна ўпусціць з рук слоўнік.

Але для 34 тысяч студэнтаў рэспублікі, якія выязджаюць у розныя раёны краіны са сваімі будатрадамі, гарачы час залікаў і экзаменаў застаўся ззаду. Ужо сабраны старыя рукзакі. Адпрасавана новая форма з эмблемамі і значкамі. Усё гатова для дальняй дарогі.

Праўда, некаторыя атрады пачынаюць «трэці працоўны» раней за іншых. На некалькі дзён усяго, але раней.

Яны ўжо працуюць.

Па якіх адрасах будуць летам дасылаць пісьмы бацькі і сябры беларускіх студэнтаў-будатрадаўцаў?

У рэспубліканскім штабе студэнцкіх будаўнічых атрадаў нам паказваюць карту краіны. Вялікую, як у школах на ўроках геаграфіі, з пунсовымі флажкамі на ёй. Кожны флажок — месца дыслакацыі аднаго або — што часцей — некалькіх атрадаў.

Цюмень, Гагарын, Казахстан, Малдавія, Пскоўская вобласць, Карэлія... Восем тысяч будучых выпускнікоў беларускіх ВНУ там чакае загартоўка ў працоўных буднях — самаэкзамен на цвёрдасць характару. Дарэчы, усё гэта чакае і 26 тысяч іх равеснікаў з атрадаў, што за межы рэспублікі не выязджаюць.

Вось названа лічба «26», і адразу ж успамінаецца наступнае: 26 мільёнаў рублёў капіталаўкладанняў асвоена студэнтамі ў восемдзесят пятым. Якраз тымі студэнтамі, якія працавалі на тэрыторыі Беларусі.

А цяпер угледзьцеся ў фотаздымкі рэпартажу.

Гэтыя хлопцы і дзяўчаты — байцы Лепельскага занальнага будатрада. У краі партызанскай славы летась яны ўзводзілі жывёлагадоўчы комплекс на 24 тысячы галоў, займаліся рэканструкцыяй малочнатаварнага комплексу, нарыхтавалі дзесяткі тон сена... Ды ўсяго і не пералічыш, што зроблена іх працавітымі рукамі. А ў вольны ад работы час агітбрыгады радавалі сваімі выступленнямі рабочых, працаўнікоў вёскі. Студэнты аказвалі дапамогу ветэранам вайны і працы, сем'ям загінуўшых у ваеннае ліхалецце. Яны шэфствавалі над Ушацкім музеем народнай славы, мемарыяльным комплексам «Прарыў». Імі добраўпарадкавана зона адпачынку «Лясныя азёры», пабудаваны новыя і адрамантаваны наяўныя спортпляцоўкі.

Цікава, што па рашэнню будатрадаўцаў Мінскага РТІ было створана атэлье рамонту бытавой радыёапаратуры, якое назвалі «Дзякуй».

Так, не толькі добра папрацавалі, але і навучыліся весела адпачываць будучыя маладыя спецыялісты. Сярод іх былі і тыя, хто ўпершыню прымераў будатрадаўскую форму, і — ветэраны руху. Напрыклад, камісар занальнага Ігар Сцепанюк у мінулым баец атрада «Няміга», па назве якога атрымаў сваё імя пасёлак у далёкім Ніжнявартаўскім раёне. Там беларускія студэнты пабудавалі магазін, дзве сталовыя, 16-кватэрны дом, некалькі дамоў 4—6-кватэрных. У гэтага атрада, які існуе ўжо дзесяць гадоў, ёсць такая традыцыя: пасля завяршэння кожнага працоўнага семестра дабаўляць колькі радкоў да атраднай песні.

Цікава, якія радкі дабавяць байцы «Нямігі» ў сваю песню гэтым летам?







□ **Скончыўся працоўны дзень. А цяпер добра паглядзець канцэрт самадзейных артыстаў і падзякаваць ім шчырымі апладысментамі.**

□ **Ганаровыя граматы за ўдарную працу ў будаўнічым атрадзе — добрая памяць аб трэцім працоўным семестры.**

□ **Пабудаваць дом! Калі ласка!**

**Фота Генадзя СЛЕСАРОНКА.**



ЛІТАРАТУРНЫ ПОСТ «БЕЛАРУСІ» Ў ПАДШЭФНЫМ КАЛГАСЕ

# ВЫТОКІ ШЧАСЦЯ

**Гэта — не толькі больш якасныя і сучасныя па вонкаваму выгляду механізмы.**
**Гэта — прынцыпова новыя, «разумныя» і высокапрадукцыйныя машыны:**
**— аўтаматызаваныя тэхналагічныя лініі;**
**— станкі з лічбавым праграмным кіраваннем;**
**— робаты-маніпулятары;**
**— электронна-вылічальныя машыны новых пакаленняў.**
**На XXVII з'ездзе КПСС было сказана:**
**— трэба хутчэй мяняць непрадукцыйнае абсталяванне на прагрэсіўнае;**
**— больш інтэнсіўна развіваць прамысловасць рэспублікі;**
**— узмацніць інтэграцыю навукі і вытворчасці;**
**— апераджальнымі тэмпамі развіваць галіны і вытворчасці, якія вызначаюць навукова-тэхнічны прагрэс і вырашэнне сацыяльных задач.**
**Сам час дыктуе гэтыя грандыёзныя змены: наша гаспадарчая дзейнасць будзе развівацца выключна на базе навукова-тэхнічных дасягненняў, без павелічэння працоўных рэсурсаў.**
**За пяць гадоў у прамысловасць рэспублікі трэба ўкараніць:**
**— звыш 600 аўтаматычных ліній;**
**— 122 так званыя гібкія сістэмы, якія будуць хутка і аператыўна пераналаджвацца на выпуск новай прадукцыі;**
**— 145 сістэм аўтаматызаванага праектавання;**
**— 493 аўтаматызаваныя сістэмы кіравання тэхналагічнымі працэсамі, абсталяваннем і агрэгатамі;**
**— у 3—4 разы павысіць узровень аўтаматызацыі праектных і канструктарскіх работ.**
**За пяцігодку ў лабараторыях і на прадпрыемствах рэспублікі належыць распрацаваць і ўкараніць больш як 1100 новых відаў машын, вырабаў і абсталявання.**
**Гэта дазволіць павялічыць нацыянальны даход на 24 працэнты, вытворчасць прамысловай прадукцыі на 22—25 працэнтаў, вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі на 12—14 працэнтаў.**
**Колькасць рабочых, занятых ручной працай, будзе скарочана на 208 тысяч чалавек.**

У народзе кажуць: «Па працы і гонар!» Гэта значыць, што ў нашым грамадстве праца з'яўляецца прывілеяй усіх грамадзян, а тыя, хто працуе выдатна, карыстаюцца асаблівай пашанай і любоўю людзей. Менавіта ў працы выяўляецца існасць чалавечай асобы як творцы, патрыёта і грамадзяніна.

Такія людзі з'яўляюцца нацыянальным багаццем краіны. Іх высокая грамадзянская свядомасць і адданасць працы — гарантыя нашага паспяховага руху наперад. У Палітычным дакладзе XXVII з'езду партыі Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў падкрэсліваў: «Рашаючая ўмова дасягнення пастаўленай мэты — працавітасць і талент савецкіх людзей».

Працавітасць і талент... Найперш, працавітасць — лічыць звеннявая льнаводчага звяна калгаса імя П. А. Жалезнякові́ча Яўгенія Іосіфаўна Юшко.

«Нялёгка прыйшлося калісьці нам, дзяўчатам-ільнаводам,— успамінае Яўгенія Іосіфаўна,— тэхнікі амаль што не было. Затое работы ўдосталь. Адно, што аралі і сеялі з дапамогай тэхнікі. А так: рабілі кампост, угнойвалі глебу, палолі лён, убіралі, мачылі, трапалі — усё ўручную. Канечне, і ўраджаі былі адпаведныя — каля чатырох цэнтнераў ільнowалакна з гектара, а то і менш. Але з кожным годам справа ішла лепш і лепш. Набываўся вопыт вырошчвання лёну, гэтай важнейшай сельскагаспадарчай культуры, паявілася тэхніка, пачалі расці ўраджаі. У пачатку шасцідзесятых гадоў збор ільновалакна склаў больш як 10 цэнтнераў і каля 9 цэнтнераў льнасемя з гектара. Працаваць сталі з размахам, з верай у свае сілы і здольнасці, усё шырэй выкарыстоўвалі агранамічныя прыёмы і перадавую навуку. Вялікую дапамогу аказваў нам тады наш калгасны агроном Аляксей Уладзіміравіч Мамончык. І як вынік — прыйшоў поспех, што ўсіх нас і радавала і задавальняла».

Удакладнім: менавіта тады, у 1966 годзе, за вялікія поспехі, за самаадданую працу Яўгенія Іосіфаўна Юшко была ўзнагароджана Залатой Зоркай і ёй было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы.

Добра працавала яе звяно, стаўшы лідэрам у сацыялістычным спаборніцтве. Ураджаі выраслі да чатырнаццаці цэнтнераў ільновалакна з гектара.

Сёння звяно ўзначальвае вучаніца Яўгеніі Іосіфаўны — Елак Яўгенія Васільеўна, якая працягвае добрыя працоўныя традыцыі настаўніцы: у 1985 годзе, вырасціўшы па 14,4 цэнтнера льновалакна з гектара, яна стала пераможцам сацыялістычнага спаборніцтва ў раёне.

«Што мне заўсёды падабалася ў Яўгеніі Іосіфаўне,— гаворыць Яўгенія Васільеўна,— дык гэта яе дабрата і бескарыслівасць. Не толькі да мяне, але і да ўсіх жанчын у звяне яна адносілася з разуменнем, з заўсёднай спагадай, шчодра дзялячыся сваімі ведамі, багатым вопытам. Яна ніколі не адмаўлялася дапамагчы добрым словам, парадай. Не з тых яна людзей, што нешта прыхоўваюць для сябе, каб пасля паказаць, што яны ведаюць справу лепш, што яны больш вопытныя і ўмелыя. Не было ў Яўгеніі Іосіфаўны ад нас сакрэтаў. Усім, што яна ведала, дзялілася з намі. Таму і любім мы яе і паважаем глыбока. І ведаем, што ў нашым сённяшнім поспеху ёсць вялікая доля яе, нашай настаўніцы».

«Гэта чалавек з пачуццём вялікай адказнасці да даручанай справы,— гаворыць сакратар партыйнай арганізацыі калгаса Адам Вітольдавіч Раманоўскі.— Што ні папрасі, усё зробіць. Не лічыцца ні з часам, ні з цяжкасцямі. Менавіта такія рысы характару дазволілі ёй выдатна спалучаць ударную працу на калгасных палетках з актыўнай грамадскай дзейнасцю. Яўгенія Іосіфаўна член праўлення калгаса і парткома, неаднаразова выбіралася дэпутатам сельскага, раённага і абласнога Саветаў народных дэпутатаў, членам Карэліцкага райкома і Гродзенскага абкома КПБ. Яна была дэлегатам XXV з'езда Камуністычнай партыі Беларусі».

Што ж, дадаць можна толькі адно: хаця і стан здароўя пахіснуўся, і сілы ўжо не тыя, але цвёрдасць духу, адданасць працы, справам роднага калгаса ў Яўгеніі Іосіфаўны не змяніліся. І цяпер, калі яна ўжо амаль чатыры гады на пенсіі, цяжка застаць яе дома. Яна — загадчык калгаснага склада. І дзяўчат сваіх не забывае, часта цікавіцца, як ідуць справы ў ільнаводчым звяне.

І сям'я моцная і працавітая ў Яўгеніі Іосіфаўны. З мужам Леанідам Ігнатавічам яны вырасцілі сына Сашу і дачку Люду. Саша працуе трактарыстам, Люда — бухгалтарам. Нявестка Галя — у калгасным цэху пластмасавых вырабаў. Зяць Вячаслаў — механізатарам. Калгас выдзеліў маладым добрыя кватэры. Ужо ёсць і ўнукі. Адны ходзяць у школу, іншыя робяць першыя крокі па зямлі, што ўзрасціла і дала сілу старэйшым.

Завяршаючы наш расказ пра Яўгенію Іосіфаўну і яе сям'ю, хочацца сказаць, што такіх сем'яў у калгасе імя Жалезняковіча многа. Менавіта іх сумленная праца вывела родны калгас на адно з першых месц у Гродзенскай вобласці.

**Віктар ВЯЛЕСЬКА.**

□ На здымку: Яўгенія Іосіфаўна Юшко.

Фота Віктара ЖЫЛІНА.



З'езд партыі, які нядаўна прайшоў, азнаменаваў уступленне савецкага грамадства ў новы этап развіцця, намеціў важныя палітычныя задачы на бліжэйшы перыяд і на даўгачасную перспектыву. Прагграма партыі, распрацаваная пры актыўным удзеле народа, нацэльвае на ўсебаковае выяўленне і выкарыстанне пераваг сацыялізму ў інтарэсах больш паспяховага камуністычнага будаўніцтва.

Адразу ж, па адзінай камандзе, ландскнехты заходняй прапаганды ўзнялі шуміху аб тым, што камунізм нібыта ўжо не актуальны, што Савецкі Саюз нібыта практычна адмовіўся ад галоўнай мэты Кастрычніцкай рэвалюцыі, мэты, якую абвясцілі вялікі Ленін, ленінская партыя і ўвесь працоўны народ, мэты, дзеля якой былі прынесены нябачаныя ахвяры, у імя якой былі здзейснены нягаснучыя ў гісторыі подзвігі.

Старт чарговай кампаніі псіхалагічнай вайны, якая заклікана аслабіць сілу рэвалюцыйнага стваральнага прыкладу савецкага народа, буржуазная прапагандысцкая машына дала яшчэ ў перадз'ездаўскія дні. Выступаючы на юбілейнай 40-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, прэзідэнт ЗША Рэйган зрабіў вельмі нечаканую заяву: «Мы аддалі б перавагу змаганню з нашымі праціўнікамі ў галіне ідэалаў і ідэй аб будучыні...»

У апошні час абывацелю на Захадзе настойліва ўнушаецца, быццам наскрозь прагнілы, дыскрэдытаваны ў вачах народаў імперыялістычны лад здольны цягацца з сацыялізмам у галіне сацыяльных і гуманітарных правоў чалавека. Менавіта ў гэтых мэтах робяцца «адкрыцці» аб нібыта крызісным характары развіцця СССР, аб тым, што новыя пакаленні ў нашай краіне сталі быццам бы цалкам «набытчыкамі» і страчваюць цікавасць да ідэалаў камунізму.

Каварныя, але наіўныя прапагандысцкія разлікі!

Народ і партыя ведаюць і шчыра гавораць пра сапраўдныя цяжкасці сучаснага этапа ў развіцці прынцыпова новай эканамічнай і сацыяльнай структуры грамадства, у тым ліку і пра апалітычнасць устаноўак асобных грамадзян на максімум правоў без мінімуму абавязкаў, на бязмежнае спажыванне,— гэтыя з'явы парадзжаюцца перш за ўсё разбэшчвальным уплывам буржуазнай ідэалогіі і на гэтай глебе некаторым ажыўленнем неамяшчанскага асяроддзя. Аднак савецкі народ не толькі не дэманціруе сваіх рэвалюцыйных мэт, але падводзіць пад іх усё больш грунтоўную эканамічную і сацыяльную базу,— у гэтым сэнс гіганцкай перабудовы, якая пачалася ў краіне жыватворнымі рашэннямі красавіцкага Пленума ЦК КПСС.

Імперыялізм не быў і ніколі не будзе здольны зраўняцца з сацыялізмам «у галіне ідэалаў і ідэй аб будучыні», таму што сацыялізм пароджан імкненнем да сапраўднай роўнасці і свабоды, а імперыялізм толькі ўсё больш вытанчанымі метадамі спрабуе замаскіраваць сваю антычалавечую сутнасць.

У сваіх поглядах на камунізм савецкія людзі апіраюцца на багацці марксісцка-ленінскай тэарэтычнай спадчыны, на асноватворныя прынцыпы камунізму, якія былі сфармуляваны найбуйнейшым палітычным мысліцелем нашага веку У. І. Леніным, на рашэнні ЦК КПСС. Нам чужы наіўны і пошлы погляд на будучыню як на галіну рэалізацыі фантастычных уяўленняў аб бесклапотнасці і бяздзейнасці ў нейкіх райскіх шатах. Камуністычная будучыня бачыцца нам як зусім немінучая і неабходная ступень у развіцці цывілізацыі, як адзіны спосаб вырашэння практычна невырашальных сёння глабальных праблем экалогіі, дэмаграфіі, максімальнай эканамічнасці сацыяльнага арганізма, гарманізацыі чалавека і чалавечых адносін. Даўно і беспаваротна пераадолены вульгарныя ўяўленні пра камунізм як пра агульны лабаз, які пачынае сваё функцыяніраванне з бясплатнай солі і газы, ці як пра рог дастатку, якім кіруюць пры дапамозе кнопак.

У. І. Ленін распрацаваў рэальнае ўяўленне пра камунізм як пра каапераціўю паступова ствараемых вытворча-збытавых камун, гэта значыць такіх калектываў, якія вырашаюць практычна ўсе праблемы матэрыяльнага і духоўнага ўзнаўлення — у рамках адзінага агульнага палітычнага, эканамічнага і ідэалагічнага плана і адзіных агульных маральна-культурных каштоўнасцей.

Наш класавы вораг сцвярджае, быццам у СССР не ўяўляюць сабе таго, да чаго імкнуцца. Злыя, беспадстаўныя нагаворы! Усе параметры камуністычнага грамадства ўкладваюцца ў дакладны прынцып, у галоўны закон яго жыццядзейнасці: «Ад кожнага па здольнасці, кожнаму па патрэбнасці». Што ж датычыцца канкрэтных форм камуністычнага быцця, іх канчаткова вызначыць толькі непасрэдная стваральная практыка мас,— і на гэта неаднакратна ўказвалася ў тэарэтычных партыйных дакументах.

Нашы перспектывы аб'ектыўна аднаначныя, і гэта даказваюць шматлікія і надзвычай важныя зрухі ў развіцці сучасных форм і структур сацыяльнай дзейнасці мас. Расткі камунізму мы прыкмячаем у няхільным працэсе ўмацавання маральна-палітычнай супольнасці савецкіх людзей, у паслядоўнай рэалізацыі прынцыпу гаспадарчага разліку, у пашырэнні сацыяльных функцый прадпрыемстваў, у авалоданні людзьмі сумежнымі прафесіямі, у беспярапынным развіцці сацыялістычнай дэмакратыі, у замацаванні прынцыпаў сацыяльнай роўнасці і павышэнні патэнцыялу агульначалавечай культуры...

Прынцыповае значэнне камунізму асабліва наглядна раскрываецца перад намі пры аналізе чэсавага фактару. Каштоўнасць вольнага творчага часу беспярапынна ўзрастае па меры ўдасканальвання новай цывілізацыі, асабісты творчы час становіцца ўсё больш істотным паказчыкам сталасці сацыяльных адносін.

Як праводзіць сучасны чалавек свой дзень? Схематызуючы, у сярэднім ён 7 гадзін працуе, 7 гадзін спіць, 2 гадзіны — рыхтуецца да працы і да сну, есць, займаецца туалетам. Астатнія 8 гадзін чалавек траціць прыкладна так: 1,5 гадзіны на паездкі рознага роду, 2 гадзіны на пакупкі і адносіны па-за сферай вытворчасці, 3 гадзіны — быт, сям'я, дзеці і госці, 1,5 гадзіны — заняткі, якія можна ахарактарызаваць як фізічную і псіхічную разрадку; прагляд тэлеперадач, прагулкі, заняткі спортам, чытанне неабходнай літаратуры.

Пры такой раскладцы сутак чалавеку цяжка дабівацца гарманічнага развіцця, самаўдасканальвацца. Адно магчыма толькі за кошт іншага, і талент, як правіла, толькі ўзмацнее аднабаковасць. Абмежаванасць часу на самаразвіццё не садзейнічае паўсюднаму выкараненню разумовага і духоўнага застою, беспярапыннаму павышэнню майстэрства, якое недарэчна атаясамліваць з развіццём толькі адных якіх-небудзь здольнасцей чалавека,— яно заўжды выяўляе сумеснае імкненне і магчымасці асобы.

Такім чынам, з пункту погляду часу жыцця камунізм азначае рэвалюцыйны паварот у бок выслабанення асобы для развіцця ўсіх яе патэнцыяльных магчымасцей. Пераадоленнем многіх супярэчнасцей, якія зніжаюць эфектыўнасць жыцця, камуністычныя адносіны нязмерна пашыраюць час камфортнага быцця,— чалавек з радасцю адчувае гармонію між агульнымі інтарэсамі, асабістымі мэтамі і магчымасцямі іх рэалізацыі.

Калі ўявіць сабе камуны нават на базе сучаснай тэхнікі і тэхналогіі, абавязковая прадукцыйная праца ў іх наўрад ці перавысіць 6 гадзін. Калі дапусціць, што добраахвотная праца на агульную гаспадарку складзе 2 гадзіны, мы ўбачым, што асабісты вольны час павялічыцца з 1,5 гадзіны, як цяпер, да 4,5—6 гадзін, гэта значыць узрасце ў 3—4 разы супраць узроўню, які існуе! І справа не столькі ў тым, што істотным чынам пашырыцца асабісты творчы час, колькі ў прынцыпова новым самаадчуванні асобы, у забеспячэнні яе ўсім неабходным для паўнацэннага выкарыстання вольнага часу, у гарантаванай патрэбнасці новага грамадства ва ўсім плёне самаўдасканалення, у прасторы для прызвання і ў натуральнасці прызнання.

Хто з нас не адпраўляўся ў думках у будучыню, хто не ўяўляў сабе часы ўжо ажыццёўленых ідэалаў? Гэта ўласціва чалавеку — марыць. Мара — крылы асобы. І калі мара апіраецца на навуковыя прагнозы і ўяўленні, яна не толькі ўзвышае быццё асобы, але і пераўтварае яе штодзённае жыццё. Успомніце словы Леніна аб значэнні рэвалюцыйнай мары ці словы Маркса аб ідэі, якая авалодала масамі і стала матэрыяльнай сілай...

Камунізм, вучэнне аб камунізме, нашы ўяўленні аб камунізме — гэта ўсё матэрыяльныя сілы, якія вызначаюць аблічча сённяшняй планеты. Камуністычны ідэал хвалюе, заахвочвае ісці наперад, браць на сябе дадатковую сацыяльную адказнасць, пераадольваць перашкоды на шляху ўсё больш свабоднага развіцця грамадства...

Мы ўсе спяшаемся, і спешка адлюстроўвае нашу асабістую недасканаласць. Мы вымушаны пераадольваць шматлікія перашкоды ўласнай неарганізаванасці і бюракратычных тэндэнцый, як выніку абмежаванасці ў сваім духоўным развіцці і націску неамяшчанскай псіхалогіі.

Мешчанін не ведае і не можа ведаць сапраўднай каштоўнасці вольнага часу, таму што волю мешчанін разумее як волю спажывання, тады як сапраўдная чароўнасць волі адкрываецца толькі творцу.

Глыбока і безнадзейна некультурны той чалавек, які не ўсведамляе вялікі, агульначалавечы сэнс кожнай мінуты свайго асабістага часу!

Разыходзячыся з мешчанінам у разуменні сутнасці жыцця, мы разыходзімся з ім і ў адносінах да ідэала. Сталы савецкі чалавек успрымае ідэал як будучую форму практычнага ажыццяўлення сваіх патрэб і вырашэння праблем, ён звязвае ідэал і сваё штодзённае жыццё ў адно неразрыўнае цэлае. Для мешчаніна характэрна іншае. Для яго ідэал — нейкі ціхамірны стан, які характэрны не агульнай працай, не агульнымі радасцямі, не агульнымі маральнымі каштоўнасцямі, а неабмежаванымі магчымасцямі для свайго індывідуальнага спажывання. Таму мешчаніну патрэбен не навуковы, не рэальны, а як мага больш фантастычны ідэал. І таму, што такі ідэал казыча ўбогае спажывецкае ўяўленне мешчаніна. Але яшчэ больш таму, што мешчанін і не ставіць пытанне аб практычным увасабленні ідэала, лічыць яго па сутнасці нейкай хімерай індывідуальнай і грамадскай свядомасці.

Нехта, паслухаўшы пра камунізм, высакамерна вымавіў: «Я і цяпер маю больш!». Я адказваю яму, як адказаў бы ўсякаму буржую, бо буржуазнасць самой пастаноўкі пытання ў дадзеным выпадку не выклікае ніякага сумнення: «Камунізм — гэта не толькі тое, чым буду вало-

дэць «я» асабіста, гэта тое, чым будуць валодаць усе без выключэння члены абшчыны, і ў гэтым прынцыповая розніца!»

Працоўныя ніколі не імкнуліся зрабіць свае ідэалы прыцягальнымі для буржуя і мешчаніна, разумеючы, што гэта немагчыма, што ідэал не можа быць агульны для эксплуататара і для эксплуатуемага, для гвалтаўніка і для ахвяры, для спажыўца і для стваральніка. Камуністычны ідэал, адкрываючы перспектыву для ўсіх людзей без выключэння, арыентуецца перш за ўсё на людзей працы, высокай грамадзянскай адказнасці, шырокага культурнага дыяпазону...

Уяўленне нясе мяне ў камуну,— я бачу жыццё дзейнае і змястоўнае, якое гарманічна вырашае тыя праблемы, якія патрабуюць ад мяне зараз часам нялёгкага выбару...

Такім чынам, я ўжо не турбуюся ні аб жыллі, ні аб харчаванні, ні аб тым, як задаволіць тыя ці іншыя свае патрэбнасці, жаданні ці нават капрызы, калі яны не парушаюць чужых правоў і годнасці. Я атрымліваю літаральна ўсё ад камуны,— па навукова абгрунтаваных нормах,— я ганаруся сваёй камунай, яна для мяне другая, але не менш дарагая сям'я. Мне хочацца рабіць дабро, шмат дабра, і як яго не зрабіць, калі рукі мае і думка вызваліліся для творчасці сярод роўных?..

У мяне цудоўная, як і ў кожнага, кватэра сярод дуброў і лужкоў. Мая новая сяброўка разумее ўсе парывы маёй душы. Вядома, і я разумею яе з паўслова: якую радасць нясуць такія зносіны!

Двое маіх дзяцей выхоўваюцца ў інтэрнаце пры школе, дзе на дзесяць вучняў — таленавіты выхавальнік. Мае дзеці займаюцца музыкай, маляваннем, канструяваннем робатаў, гімнастыкай і літаратурай, яны даглядаюць школьны сад і агарод, набываюць карысныя працоўныя навыкі ў спецыяльнай майстэрні — рамантуюць і вырабляюць найпрасцейшы гаспадарчы інвентар, робяць некаторыя дэталі для нашага завода.

Я наведваю дзяцей нараўне з маёй былой жонкай, якая таксама, як і я, знайшла сабе ў камуне больш вартага сябра. Мы размаўляем, як даўнія сябры: у нас няма ўзаемных крыўд і спрэчак, мы нічога не дзялілі, калі рассталіся, і ўсе нашы абавязкі ў адносінах да дзяцей і камуны ніяк не змяніліся. Жыццё ў камуне робіць сям'ю моцнай як ніколі.

Мой старэйшы сын вучыцца ва універсітэце, які стварыла асацыяцыя камун. Ён жадае быць аграномам, але адначасова вывучае рэдкія замежныя мовы і найноўшую сельскагаспадарчую тэхніку. Пасля заканчэння універсітэта ён гады тры — чатыры папрацуе аграномам, а пасля паедзе ў адну з афрыканскіх краін, якая купляе вялікія партыі сельгасмашын, што вырабляюцца ў нашай камуне. Дзве-тры спецыяльнасці — гэта тут заахвочваецца: рознабаковыя веды і навыкі лепш стымулююць творчую думку.

Дарэчы, я таксама набыў яшчэ адну спецыяльнасць — працую будаўніком-мантажнікам. Частка маёй грамадскай працы — весці гурткі аматараў паэзіі для дарослых і моладзі. Астатняе — што прызначыць Цэнтр па размеркаванню грамадскіх работ.

Некалькі гадзін на тыдзень я праводжу ў інтэрнаце сярод дзяцей дашкольнага ўзросту. Заняткі з дзецьмі маіх сяброў па камуне — гэта для мяне вялікая асалода. І дзеці рады: я вялікі мастак прыдумляць калектыўныя гульні, ім смешна і весела.

Я б вельмі хацеў мець яшчэ адно дзіця. Але ў мяне іх трое ад першага шлюбу. І ў маёй новай жонкі — трое. Трое дзяцей у нашай камуне лічыцца нормай. Вядома, я магу перабрацца ў камуну, дзе дэмаграфічнае планаванне пакуль не такое строгае...

Да месца работы камунары дабіраюцца пяшком ці на веласіпедзе: мы беражом сваё асяроддзе і здароўе. Тры кіламетры па лясной дарозе — карысна. Праўда, калі дождж ці снег, мы ездзім электравагонамі, якія нагадваюць сучасны трамвай.

Ад маёй кватэры да Палаца Адпачынку пятнаццаць хвілін хады. Тут цудоўная агульная сталовая. Па колькасці страў, іх гатаванні, па гігіене з ёй не можа канкурыраваць ні адзін самы цудоўны рэстаран. У кожнага з нас сваё пастаяннае месца і свае пажаданні, з якімі, вядома, лічацца.

Карысная праца была і застаецца маёй галоўнай радасцю, галоўнай формай самавыяўлення. Але гэта зусім не азначае, што кожны з нас, камунараў, функцыяніруе як механізм. Сапраўдная свабода, якой мы карыстаемся і якую цэнім, мае на ўвазе не толькі роўнасць, але і ўлік індывідуальных магчымасцей.

Сёння пасля абеду мне захацелася гадзінку — дзве паляжаць дома — рэдкае жаданне. Уласна кажучы, я збіраўся ў чытальную залу — рыхтаваць лекцыю па гісторыі антычнага тэатра, а пасля пайсці на расчыстку лесу. Але я чамусьці адчуваю стомленасць і раздражненне.

Званю ў Цэнтр па размеркаванню работ, кажу, што на расчыстку лесу не выйду.

— Дрэнна сябе адчуваеце? Прысланы доктара?

— Не, не трэба. Проста я хачу адпачыць.

— Добра. Заменім вас з рэзерву. Прыемнага адпачынку!

Чагосьці я злуюся. Шкадую, што не пайшоў працаваць? Трачу час?.. Адчуваю, што хацеў бы паспрачацца пра свае правы. На жаль, спрачацца няма з кім, ніхто мяне не няволіць: усе ведаюць, які я працавіты, як шаную агульныя інтарэсы. Зрэшты, у камунах няма гультаёў. Усе, хто яшчэ не дасягнуў пэўнага ўзроўню маралі, працуюць па-за камунамі і, зразумела, імкнуцца хутчэй стаць паўнапраўнымі членамі якой-небудзь з іх.

Звоніць мой сябар.

— Што з табой здарылася?

— Напаў дур.

Ён смяецца.

— Адпачні, гэта пройдзе!

Звоніць жонка. Яна закончыла працоўны дзень, але хоча яшчэ праехацца на аўтамабілі. У яе хобі, а, хутчэй, спосаб разрадкі: прамчацца па аўтастрадзе, якая звязвае наш пасёлак з суседняй камунай.

Раніцай ці вечарам яна пакідае заяўку і бярэ падрыхтаваную ўжо машыну ў аўтапарку ў механіка.

— Што з табою, дружа? — ласкава пытае жонка.— Можа, ты забярэш сваіх і маіх малышоў і мы разам з імі правядзём вечар? Я ўжо заказала яблычны пірог на дом.

— Не, я хацеў бы паехаць з табой.

— Калі ласка. Толькі май на ўвазе, я абяцала давезці да возера рыбакоў. Яны баяцца спазніцца на вячэрні клёў...

«Чорт ведае што! — абурана думаю я.— Гэтай падавай аўтамабіль, а тым вуды! Чаму ў мяне няма такіх схільнасцей?..»

Прыкрасці няма мяжы. Я, мусіць, крыху раўную сваю жонку, але мне сорамна ў гэтым прызнацца. Звязваюся з Цэнтрам па размеркаванню работ.

— Гэта я... Так, адчуваю сябе ўжо лепш... Хацеў бы з 17 да 18 папрацаваць у кароўніку ці на якім-небудзь складзе.

— На жаль, усё забіта. Магу запісаць толькі на паслязаўтра. Але для абавязковага выканання...

Цэнтр па размеркаванню работ — галоўны нерв камуны. Кожны з нас, працаздольных камунараў, апрача асноўнай работы па галоўнай ці дапаможнай спецыяльнасці, адпрацоўвае пэўныя гадзіны на «гаспадарчых», інакш кажучы, грамадскіх работах. Гэта здымае ўсе нашы ўнутраныя праблемы. Хоць тэхніка, якой мы карыстаемся, самая дасканалая, яна не можа ўзяць на сябе абслугоўванне ўсіх разнастайных патрэбнасцей.

Гаспадарка камуны надзвычай прыбытковая, таму што непрадукцыйныя выдаткі зведзены да мінімуму. У нас няма самастойнай міліцыі, суда, пракуратуры, натарыята, няма грашовага абароту — усе тавары мы заказваем па навукова абгрунтаваных нормах, якія, я лічу, усё яшчэ празмерныя.

Але галоўнае, чаго дасягнула камуна,— мы жывём практычна без страт выкарыстаных рэсурсаў. У справу ідуць кожны слоік, кожнае лязо брытвы, кожны кавалачак паперы і, зразумела, усе харчовыя адходы...

Турысты са штата Кентукі, якія нядаўна гасцявалі ў нашай камуне, былі асабліва ўражаны квітнеючым выглядам камунараў, іх жыццярадаснасцю, самай высокай у свеце працягласцю актыўнага творчага жыцця і поўнай адсутнасцю злачыннасці. Іх прыемна здзівіла, што старыя і інваліды не толькі не ізаляваны ад актыўнага ўдзелу ў агульным жыцці, але і карыстаюцца ганаровымі прывілеямі, якія робяць больш лёгкімі іх асабістыя праблемы...

Не, на канапе мне не ляжалася. Чалавек жадае адпачынку, калі ўмовы яго бесперспектыўныя, калі праца знясільваючая і няплённая, калі надарвана здароўе і прыгнечаны дух. Я ўскочыў з канапы і памчаўся ў Палац Мастацтваў. У адной зале першага паверха аматары слухалі класічную музыку, у другой рэпеціравала харавая капэла. На ўтульнай тэрасе другога паверха, як заўжды, сабраліся за кубачкам кавы аматары пагаманіць аб агульных справах камуны і недасканаласці некаторых яе законаў.

— Учора я зарэгістраваў у Савеце Мудрацоў два свае законы аб вольным часе моладзі і пашырэнні зімовых адпачынкаў,— гаварыў кандытар Н.— Прашу маіх сяброў, калі прапановы будуць апублікаваны для ўсеагульнай дыскусіі, прывесці мне ўсе магчымыя пярэчанні. Я маю намер адстойваць свае ініцыятывы...

З экрана тэлевізара нагадалі, што заўтра склікаецца сход камуны. Старшыня камуны, які выступіў па тэлевізары, азнаёміў з праблемамі, якія падлягаюць абмеркаванню. Форум нашай камуны — лепшы ў вобласці. Ён зроблен па тыпу рымскага. Месцы імянныя — пазначаны спецыяльнай шыльдачкай. Табло камп'ютэра для галасавання размешчана на купале.

Сходу была пададзена бягучая справаздача аб эканоміцы. Па рэкамендацыі Савета Мудрацоў, пасля прадстаўлення сваёй праграмы дзеяння і адказаў на пытанні камунараў, быў выбраны новы Галоўны спецыяліст па сельскай гаспадарцы. Але кандыдатура Галоўнага спецыяліста Цэнтра па размеркаванню работ была адхілена: ён не пацвердзіў дастатковай кампетэнтнасці, не адказаўшы на адно з пытанняў. Затым старшыня паведаміў, што тэрмін яго старшынскіх паўнамоцтваў канчаецца, згодна статуту, праз тры месяцы і што праз месяц на агульным сходзе будуць праведзены экзамены для тых, хто жадае быць выбраным на новую легіслатуру.

«Можа мне выставіць сваю кандыдатуру?» — падумаў я, апанаваны хвілінным славалюбствам...

Салодкая плынь думак была перапынена, калі я даведаўся, што камуна набыла два невялікія самалёты і што ў ліку пілотаў, залічаных у авіяшколу гарадской камуны Н., значыцца мая першая жонка...

Але мяне засмуціла прапанова суправаджаць у якасці гіда групу эколагаў з Італіі. «Каб яго чорт узяў,— падумаў я,— наступны тыдзень я павінен выконваць функцыі брыгадзіра на будоўлі. Улічваючы, што мяне выбралі таксама ў Савет па перспектыўнаму планаванню, мне будзе цяжкавата. І ў гэтыя дні якраз прыязджаюць шахматысты з Венгрыі, не хацелася б прапускаць выпадак бліснуць сваімі здольнасцямі...»

Зусім недарэчы спрачацца, адпавядаюць ці не адпавядаюць малюнкі маёй мары будучай рэальнасці. Важна тое, што мая мара, мара савецкіх людзей набывае ўсё больш магутныя сродкі для свайго ўвасаблення. На прымнажэнне гэтых сродкаў накіраваны рашэнні XXVII з'езда партыі.

Ясна, што такому грамадскаму ідэалу, як камунізм, імперыялізм не можа супрацьпаставіць сацыяльнай мадэлі, дзе не было б няроўнасці, дыскрымінацыі, эксплуатацыі, яўнага ці скрытага панавання алігархічных груп.

Хочацца жыць, хочацца працаваць — нашы перспектывы цудоўныя, і кожны дзень сумленнага жыцця набліжае нас да запаветнай мэты, замацаванай у Праграме Камуністычнай партыі!




**Анатоль ГРАЧАНІКАЎ**





А век чалавечы кароткі.
Па кім гэта звоняць званы?
Старэюць мае аднагодкі,
Няшчасныя дзеці вайны.

Не ў лузе,
Не ў лесе зязюлі —
Гаротныя нашы гады
Лічылі варожыя кулі,
Салютаў у небе сляды.

Нам выпала ўдачы падкова,
Як свет захадзіў хадуном.
Так, выжылі мы выпадкова,
Ды не выпадкова жывём.

Мы так наглыталіся дыму
На гэтай пакутнай зямлі,
Што змалку свой дом і Радзіму
Ад новых пакут збераглі.

Дзяцей падрасцілі.
Унукі
Нам просяцца сёння на рукі.
І той-сёй, абпалены, з нас —
Згас.

І можа, сівеем так рана,
І чуем так рана званы
Не слынныя ветэраны —
Звычайныя дзеці...
Вайны.

## Мораны дуб

Ланцугом зацуглялі яго цесляры.
Пыхкаў трактар натужна
на ўскраі сяла.
Гэты мораны дуб
спрасаваўся ў віры.
Ні сякера яго не бярэ, ні піла.

І круцілі яго, і вярцелі яго,
Цыркулярцы ён вострыя
зубы скрышыў.
Пад бакі падкладалі
з саляркай агонь.
І агонь адхінуўся,
знямелы наўздзіў.

І майстры пакланіліся
нізка яму —
Звычай даўні шануецца
ў палешукоў.
Наваколлю акрасай
хай будзе ўсяму
Ацяжэла-ўчарнелы равеснік вякоў.

Ён, як помнік,
Узняўся на кручы крутой,
Помнік долі цяжкой,
Помнік долі людской.

А як змрок набяжыць
напрасткі па карчах
Да халодна-свінцовага
берага Сожа,
Кажуць людзі,
ён стогне ў асенніх начах,
Нешта хоча сказаць,
ды прамовіць не можа.

## Завод

Завод рамонтна-механічны.
Узлёт мой мройна-рамантычны
Да вабных інжынерных сфер,
Дзе цэняць справы, а не словы,
Дзе праз накачкі і вымовы
Расце сапраўдны інжынер.

Чаму ён сніцца мне начамі,
Завод з бяссоннымі вачамі,
Дзе сябар, Ігар Паляшук,
Ірве фантазіяй, разлікам,
Загадам, просьбай, часам крыкам
Палон штодзённых творчых мук?

Як з маладосці загрузілі,—
Яго падводзіць дабрыня,—
То і паклажу зняць забылі,
Нібы з цягучага каня.

Аднак Арсенавіч не плача,
Без клопатаў не можа жыць.
І з маладзёнкамі паскача,
І ветэранна пашуміць.

На сходах сумных і бурлістых
Не лічыць лішнім нагадаць:
Такіх, як ён, спецыялістаў
Начальству трэба шанаваць!

Прыгрозіць:
— Звольніцца хачу я!
Ні дня спакойна не пражыў!
І зноў у цэху заначуе,
Каб новы залатаць прарыў.



*Леаніду*

Я прыехаў дадому здалёк,
Перажыўшы і смутак, і страты.
Ды ніхто тут не крыкне:
— Сынок!
І насустрач не кінецца з хаты.

Без бацькоў замурожыўся двор,
Жуpавель над калодзежам стыне.
Скасабочыўся плот без падпор
У загуслай крапіўнай націне.

— Добры дзень!
Я не трачу надзей.
Добры дзень!
Чуеш, родная хата?
Можа раптам з далёкіх гасцей
Зараз вернуцца мама і тата.

Трэба ж грубку паспець натапіць,
Зараснелы калодзеж адліць,
Трэба ж хату і сенцы прыбраць
І аеру ля ганку паслаць.

І прыбраў,
І паслаў,
Натапіў
І зварыў я вячэру, вядома.
І гаросныя слёзы праліў —
Мне саромецца некага дома...

## Вароны

Як яны над поплавам гулі,
Як яны над поплавам крычалі...
Сокала вароны задзяўблі,
У лазу на ўзболатку загналі.

Абляпіўшы дрэвы і кусты,
Чысцячы прытупленыя дзюбы,
Ведалі, што сокал малады
Не ўцячэ ад немінучай згубы.

Чым жа зграю сокал угнявіў,
Чым жа ён яе раз'юшыў, сокал?
Можа тым, што незалежна жыў
І над вараннём лунаў высока?

Мяккі змрок струменіўся ў лазе,
Сокала даконваючы зморам,
Каркалі вароны па чарзе,
Каркалі і ўсім бязладным хорам.

І, рвучы аблюжнае сіло,—
Хай жа хоць надзея узаўецца,—
Заваліўся сокал на крыло,
Каркання не вытрымала сэрца.

Ціха хмаркі сонныя плылі,
За ракою чырванелі далі.
А вароны, як раней, гулі,
А вароны, як раней, крычалі.

## Ліпень

На глухіх выжарынах лясных
Пахнуць пераспелыя суніцы.
Разамлела хмеляць медуніцы
На глухіх выжарынах лясных.

Сочыцца жывіца з-пад кары,
Па ігліцы на траву страсецца.
Сонна сойка ўскрыкне
ў гушчары,
Поблізу ёй дзяцел адгукнецца.

Зварухне і перагорне ліст
На асінцы сытая спякота.
Дрэмле заяц.
Дрэмле дзік і ліс,
Дрэмлюць і ласі сярод балота.

Я і сам, згрызот сваіх пастух,
Чарамі лясными разагрэты,
Ад лянотнай млявасці распух
Пасярод суквецістага лета.

Тут, у сховах дрэў, кустоў
і траў,
Свет сябе выспельваў
і пладзіўся,
Нібы я ні жыў, ні бедаваў,
Нібы я яшчэ не нарадзіўся.

Быў я свой між соснаў і ялін,
Родзічам табе, мураш рухавы.
Нібы той далёкі славянін,
Што яшчэ не знаў пакут і славы—
Неба і зямлі слухмяны сын.
І яму, пад бок паслаўшы травы,
Мяккі ліпень лашчыў зрок
і слых
На глухіх выжарынах лясных.

## Шэршні

Напалі шэршні на мяне
І ў лазняку ўзвіліся.
Нібы шпрыцы, ў маёй спіне
Іх джалы засталіся.

Брат іх вышморгваў, я стагнаў,
Глядзеў на плёс пахмура
І, перазяблы, адчуваў:
Расце тэмпература.

З галін пахілага дубка
Сябры мае ныралі
І варанога жарабка
На водмелі купалі.

Ніхто на боль мой не зважаў
Ні людзі, ні прырода.
Нібы не я узбоч ляжаў,
А нейкая калода.

Ад крыўды, мабыць, я ўваскрэс.
Хоць быў мне свет нямілы,
Хістаючыся, я палез
На той дубок пахілы.

Такога даў адтуль нырца,—
Каб не сябры, не брацік,
На дне застаўся б да канца,
Не вынырнуў бы... ў хаце.

Пасля і мне іх ратаваць
Прыйшлося ў дні цяжкія,
Як шэршні сталі іх кусаць
Не тыя, дык другія.



«У кожнага сваё па печы...» —
Суседку маці суцяшала.
Сама ж, падумаўшы аб нечым,
Слязу хусцінкай выцірала.

Не разумеў я тыя словы,
Глядзеў на цётку непрыветна.
Мне толькі б з хаты, ды не
ў дровы,—
Да рэчкі шмыгнуць непрыкметна.

Пасля я скардзіўся:
— Зняверчыў
Я сам свой шлях,
Жыць цяжка стала...
«У кожнага сваё па печы...» —
Матуля ціха адказала.

Ні спачування-шкадавання,
Ні суцяшэння, асуджэння.
Але было яе маўчанне,
Як на дарогу блаславенне.

Жывому ад жыцця не збегчы.
Яно — не пухам прад табою.
«У кожнага сваё па печы» —
Я знаю, што гэта такое.

Але, на жаль, прыходзіць вопыт,
Як на яго слабее попыт.




# ХЛЕБ НОВАГА ГАТУНКУ



У цяплічным комплексе фітатрона малодшыя навуковыя супрацоўнікі лабараторыі генетыкі і цыталогіі Лілія Фёдараўна Федарцова і Алёна Эсхатаўна Старавойтава займаюцца скрыжоўваннем жыта і пшаніцы — ствараюць трыцікале.



Лазернае абпраменьванне дапамагае змяняць у патрэбным напрамку генетычныя ўласцівасці раслін.

Вось яно, трыцікале — новы перспектыўны гатунак, які не сустракаецца ў прыродзе, а створаны рукамі і розумам чалавека.




Дзеля таго, каб заўсёды быў пышны наш каравай, і працуюць вучоныя.

# ПОЛЬСКІЯ ПАЛІМЕРЫ

Хлеб... Якое кароткае, але ёмістае слова. А які ў ім закладзены сэнс! Гэта і насенне ў сеялцы, і кволыя зялёныя ўсходы, і спелая ніва, што шуміць важкім коласам, і само зерне, якое струменіць у элеватары. Гэта, нарэшце, каравай на нашым стале.

«Даўно заўважана,— пісаў К. А. Ціміразеў,— што мы не звяртаем увагі на самыя выдатныя факты толькі таму, што яны вельмі звычайныя. Ці многім, сапраўды, прыходзіла ў галаву думка, што луста добра выпечанага пшанічнага хлеба... складае адно з найвялікшых вынаходніцтваў чалавечага розуму?»

І адна з асноўных задач, пастаўленых перад сельскай гаспадаркай,— павышэнне ўраджайнасці, інтэнсіфікацыя земляробства. Вядома, што для атрымання высокіх ураджаяў патрэбны і дастатковая колькасць угнаенняў, і навукова абгрунтаваная агратэхніка, і ўмелае кіраванне гаспадаркай, і дастатковая колькасць розных сельскагаспадарчай тэхнікі, і многае-многае іншае. Але найперш патрэбны новыя высокаўраджайныя гатункі аўса, ячменю, жыта, пшаніцы... Менавіта ад гатунку ў першую чаргу залежыць ураджай.

І тут на дапамогу сельскім працаўнікам прыходзіць навука. Ролю навуковай селекцыі цяжка пераацаніць: яна з'яўляецца найбольш эфектыўным, эканамічна выгадным і хуткім сродкам павышэння прадукцыйнасці зямлі і працы тых, хто на ёй працуе.

Слова «селекцыя» азначае адбор, выдзяленне лепшага. Але сённяшняе разуменне яе значна шырэйшае — гэта стварэнне новых гатункаў і гібрыдаў раслін шляхам накіраванага ўздзеяння на іх рознымі біялагічнымі, хімічнымі, фізічнымі і агратэхнічнымі сродкамі.

— Новыя гатункі павінны быць не толькі высокапрадукцыйнымі, але і багатымі на бялок, мець добрыя хлебапякарскія якасці,— гаворыць вядомы беларускі селекцыянер, загадчык аддзела насенняводства азімых зерневых культур Беларускага навукова-даследчага інстытута земляробства Герой Сацыялістычнай Працы прафесар Мікалай Дзмітрыевіч Мухін.— І што асабліва важна — быць устойлівымі да хвароб, да шкоднікаў, да палягання.

Толькі за гады адзінаццатай пяцігодкі селекцыянеры гэтага інстытута ў садружнасці з фізіёлагамі, генетыкамі, біяхімікамі і другімі спецыялістамі стварылі і перадалі на дзяржаўныя выпрабаванні 28 новых гатункаў інтэнсіўнага тыпу.

Будуць удзячныя хлебаробы вучоным за гатунак ячменю Заазерскі 85. Выпрабаванні яго праводзіліся на ўсіх зонах рэспублікі — ураджайнасць дасягае 70 цэнтнераў з гектара.

Дзесяць гадоў навуковы калектыў пад кіраўніцтвам М. Д. Мухіна працаваў над стварэннем новых гатункаў азімага жыта Пухаўчанка і Крыжачок. У гэтай пяцігодцы яны прыйдуць на змену вядомаму гатунку Белта, які займае цяпер значную частку ўсіх пасяўных плошчаў. Пухаўчанка і Крыжачок абяцаюць па 64—68 цэнтнераў збожжа з гектара, што на 5—8 цэнтнераў больш, чым могуць даць самыя ўраджайныя на сённяшні дзень гатункі. Да таго ж яны маюць добрыя мукамольныя, хлебапякарскія і смакавыя якасці. Новыя гатункі добра пераносяць зіму, маюць кароткае ўстойлівае да палягання сцябло, не паддаюцца захворванням.

Няцяжка падлічыць, якую высокую прыбаўку дадуць гэтыя дадатковыя 5—8 цэнтнераў на мільёнах гектараў пасяўных плошчаў нашай рэспублікі і Нечарназёмнай зоны Расіі.

А на чарзе яшчэ больш перспектыўныя гатункі Верасень і Радзіма, над якімі працуюць зараз вучоныя. У апошнія гады тэрміны стварэння новых гатункаў значна скараціліся. На дапамогу селекцыянерам прыйшла сучасная тэхніка — фітатроны, цяпліцы, камеры штучнага клімату, лазерныя ўстаноўкі, што дазваляе атрымліваць на доследных дзялянках па 2—3 ураджаі ў год.

Атрымліваць расліны «па заказу», навучыцца кіраваць генетычнымі працэсамі — вось асноўная мэта, якую ставяць перад сабой вучоныя. Хлебны колас бачыцца ім яшчэ больш буйным і важкім.

**Тэкст і фота Дзмітрыя ЛУПАЧА.**

**І. НА НЕПАДМАЗАНЫХ КОЛАХ**

Што ласкай ды змазкай любую машыну ўлагодзіць можна, ведаюць не толькі спецыялісты. Але найперш яны...

— Да станка з-за яе не падступіцца. Столькі каляровых плям на падлозе — ступаеш бы па хісткай кладцы,— скардзіўся мне на адным заводзе знаёмы станочнік.— А змазваць агрэгат думаеце проста? Гэта ж колькі гаечак розных ды вінцікаў трэба адкруціць, каб дабрацца да вузлоў. Нізка пакланюся таму, хто «сухі» станок для мяне прыдумае.

Такая вось мара ў станочніка. Камбайнер з трактарыстам таксама незадаволены. Пыл, што ўецца за тэхнікай на полі, ліпне да змазаных дэталей, бы муха да мёду. Уперамешку з дробным пясочкам машыннае масла — што тая наждачная папера. Замест таго, каб араць ды жаць, мітусіцца механізатар ля сваёй машыны з маслёнкай у руках.

Што ўжо казаць пра ткача. У ягонай справе без змазкі цяжка, а з ёю яшчэ горш. Можна так «пафарбаваць» тканіну плямамі, што яе потым ніводзін магазін не возьме.

Словам, праблема змазкі ў сучаснай тэхніцы — адна з самых складаных. Над рашэннем яе разам з прадстаўнікамі іншых навуковых калектываў працуюць і даследчыкі Інстытута механікі металапалімерных сістэм Акадэміі навук БССР.

Прапанаваная беларускімі вучонымі ідэя — цікавая, смелая і, як і ўсё таленавітае, простая. Вядома, што ў зоне трэння заўсёды павышаецца тэмпература. А ці нельга выкарыстаць дармавое цяпло? Такое пытанне задалі сабе супрацоўнікі інстытута і пачалі шукаць на яго адказ. Вынайдзеным у выніку лабараторных даследаванняў легкаплаўкім палімерам яны пакрылі паверхню падшыпніка з разлікам на тое, што цяпло, якое выдзяляецца пры трэнні, ператворыць гэты матэрыял у плёнку-змазку. Так яно і атрымалася. Прычым, дастаткова механізму спыніцца, як тонкая плёнка адразу ж цвярдзее.

«Сам» — так назвалі навукоўцы новы антыфрыкцыйны матэрыял — дае значную эканомію металу. Тую колькасць падшыпнікаў, якую машынабудаўнікі выраблялі раней з трох — пяці тон высокагатунковай сталі, цяпер з лёгкасцю можна атрымаць з адной тоны. Распрацоўку вучоных, не марудзячы, укаранілі пінскія трыкатажнікі. Яны выкарысталі новы матэрыял для вырабу верацён прадзільнай машыны і толькі на адной гэтай аперацыі з'эканомяць 240 тысяч рублёў.

— Даследчыкі прапаноўваюць больш як трыццаць дэталей з новага матэрыялу «сам», атрыманага, па сутнасці, з адходаў вытворчасці,— гаворыць адзін з аўтараў распрацоўкі, кандыдат тэхнічных навук Васіль Аляксандравіч Струк.— Дэталі з яго надзейныя, даўгавечныя і — што вельмі важна — могуць працаваць без усялякай змазкі.







☐ **Інстытут механікі металапалімерных сістэм АН БССР. Тут «гартуюцца» палімеры.**

☐ **На рахунку доктара тэхнічных навук Леаніда Пінчука некалькі цікавых вынаходніцтваў.**

☐ **Шасцярэнькі з матэрыялаў, «прыгатаваных» у колбе.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

На стэндах інстытуцкай выстаўкі сотні высокаэфектыўных матэрыялаў і вырабаў з іх. Некаторыя ўжо знайшлі шырокае прымяненне, іншыя яшчэ толькі чакаюць, калі на іх нарэшце зверне ўвагу вытворчасць.

Тут, на выстаўцы, можна пазнаёміцца і з гісторыяй інстытута механікі металапалімерных сістэм. Гадоў дваццаць назад група студэнтаў Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту, што ў Гомелі, захапілася новай праблематыкай — вывучэннем умоў, у якіх адбываецца трэнне неметалічных матэрыялаў. Вынікі студэнцкіх даследаванняў зацікавілі Акадэмію навук БССР. На яе выязной сесіі было прынята рашэнне адкрыць лабараторыю, якая ў хуткім часе перарасла ў інстытут.

Узрост у інстытута, як бачым, юнацкі, а вось вынікам яго дзейнасці могуць пазайздросціць і некаторыя навуковыя ўстановы са значна большым стажам. Загадчык інстытуцкага аддзела арганізацыі ўкаранення навукова-тэхнічных распрацовак і інфармацыі Аляксандр Сцяпанавіч Крачко паведаміў, што на рахунку гамяльчан звыш тысячы вынаходніцтваў, больш як дваццаць пяць патэнтаў. Гадавы эканамічны эфект ад укаранення навуковых распрацовак дасягнуў сямі мільёнаў рублёў.

## II. ЖАЛЕЗА ЦІ ДРЭВА!

Які матэрыял больш трывалы — жалеза ці дрэва? Дзіўнае пытанне. Здаецца, тут і спрачацца няма аб чым — канечне, жалеза. І ўсё ж, нягледзячы на непахіснасць гэтай відавочнай для ўсіх нас ісціны, вучоныя з Гомеля рашылі яе аспрэчыць. І атрымалі ў выніку драўнянапалімерныя падшыпнікі, якія сёння шырока прымяняюцца ў дарожным і сельскагаспадарчым машынабудаванні, а таксама ў хімічнай прамысловасці. Па надзейнасці яны значна пераўзыходзяць падшыпнікі з металу — служаць у тры-чатыры разы даўжэй за іх.

На інстытуцкай выстаўцы прадстаўлена шмат вырабаў з так званых «драўляных кампазітаў» — розныя шківы, утулкі, фланцы. Атрыманы яны галоўным чынам з таго, што раней выкідвалася ў смецце — з пілавіння, трэсак, абрэзкаў малакаштоўных парод дрэва. Вось, напрыклад, ролікі для стужачных транспарцёраў. Даследчыкі пакінулі стальнымі толькі іх восі, а падшыпнікі і корпус зрабілі з «драўляных кампазітаў». Прымяненне такіх ролікаў на прадпрыемствах краіны дазволіла з'эканоміць пяць тысяч тон дэфіцытных матэрыялаў.

А чым яшчэ парадуюць нас гомельскія вучоныя ўжо ў самай недалёкай будучыні?

— Ужо сёння закладваюцца навуковыя асновы стварэння матэрыялаў так званага пятага пакалення,— гаворыць дырэктар інстытута, член-карэспандэнт АН БССР Анатоль Іванавіч Свірыдзёнак.— Яны будуць здольны прыстасоўвацца да розных знешніх уздзеянняў, нададуць канструкцыям большую трываласць, змогуць працаваць у экстрэмальных рэжымах. Словам, новыя матэрыялы, у залежнасці ад знешніх умоў, самі будуць мяняць свае якасці і дзякуючы гэтаму выкарыстоўвацца з большай эфектыўнасцю. Напрыклад, палімеры ў падшыпніках, акрамя асноўных сваіх функцый, змогуць выконваць яшчэ і ролю генератара электрычнага току, а ў агрэсіўным асяроддзі забяспечаць дадатковую электрахімічную ахову дэталей. Першыя спробы стварыць такія матэрыялы і канструкцыі намі ўжо зроблены. Прынамсі, выкарыстанне надзеленых «эфектам дэфармацыйнай памяці» сістэм у якасці функцыянальных дабавак да кампазіцыйных матэрыялаў дазваляе кіраваць уласцівасцямі апошніх.

Шмат цікавых вынаходніцтваў у вучоных інстытута. Справа цяпер за тым, каб адкрыць ім шырокую дарогу ў вытворчасць.

## III. ПРАБЛЕМЫ РОЗНЫХ ФАСОНАЎ

Дарога тая, між тым, пакуль яшчэ далёкая ад таго, каб можна было назваць яе добра ўезджаным гасцінцам. Яна хутчэй нагадвае размыты восеньскімі дажджамі прасёлак. Амаль на кожным кроку трапляюцца навукоўцам калдобіны. З кім ні завядзеш гаворку — чуеш папрокі ў адрас асоб, адказных за матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне, скаргі на тое, што задумы даследчыкаў слабавата падмацаваны рэсурсамі. Не дзіва, што супрацоўнікам інстытута, замест таго, каб аддаваць усю сваю энергію і здольнасці справам творчым, часта даводзіцца марнаваць час у пошуках неабходных для навуковых даследаванняў матэрыялаў і абсталявання. Што ўдаецца выпрасіць на прадпрыемствах пад дагавор, што выменяць... Але ж хіба набудзеш гэтак нешта здатнае? У працягнутую руку звычайна кладуць далёка не лепшае — тое, што самім не дужа патрэбна.

У выніку канструктарам нічога іншага не застаецца, як брацца за перарobку дакументацыі. Меркавалі скарыстаць адзін матэрыял, а ў наяўнасці даводзіцца мець справу з зусім іншым. Мала таго, што перарабка тая вылятае ў добрую капейку, дык жа яшчэ дарэмна марнуецца час. Бяда аднак нават не ў гэтым. Паколькі на найноўшыя матэрыялы, прыборы разжыцца не ўдаецца, уся дапрацоўка дакументацыі скіравана, па сутнасці, не на ўдасканаленне, а на пагаршэнне будучай тэхнічнай навіны: з рыззя, як вядома, новы каптан не выкраіш.

Даследчыкі акадэмічнай установы кідаюць каменьчык і ў агарод галіновай навукі.

— Сродкі нам выдзяляюцца толькі на тое, каб вынайсці новы матэрыял, машыну, у лепшым выпадку — вырабіць эксперыментальны ўзор, прадэманстраваць яго вартасці вытворчасці,— тлумачыць А. С. Крачко.— А ўжо давесці навінку да серыйнага выпуску — важны клопат калектываў галіновых навукова-даследчых устаноў. Але гэта, так сказаць, толькі ў тэорыі. На практыцы галіновая навука часцей за ўсё займае ў адносінах да нас пасіўную пазіцыю, выступае ў ролі апанента: то тое яе прадстаўнікам не даспадобы, то гэта. У выніку ўся даводка тэхнічнай навіны «звальваецца» на вучоных акадэмічнага інстытута. А ў нас не хапае на гэта ні сіл, ні сродкаў. Між тым, ніхто лепш за работнікаў галіновай навукі не ведае «вузкіх месц» вытворчасці, менавіта яны могуць і павінны акрэсліць кола тых праблем, на вырашэнне якіх варта ў першую чаргу накіраваць аб'яднаныя сілы навукоўцаў і матэрыяльныя рэсурсы.

Цяжка не пагадзіцца з гэтым меркаваннем адказнага работніка інстытута механікі металапалімерных сістэм. Аднак нельга не адзначыць і тое, што на тэрміны ўкаранення новай тэхнікі ўплываюць не толькі названыя ім фактары. Здараюцца тут і не даспелыя ў лабараторных умовах ідэі, якія навукоўцы мяркуюць давесці да ладу ўжо на вытворчых участках, і не адладжаны як след механізм перадачы акадэмічных распрацовак у вытворчасць для ўкаранення, і слабасць заводскага сектара навукі... Спынімся хоць бы на апошнім...

Тых спецыялістаў, якія займаюцца навуковым забеспячэннем вытворчасці, на большасці прадпрыемстваў можна пералічыць па пальцах. Ці не таму ў такіх вытворчых калектывах нізкая гатоўнасць да прыёму і асваення навукова-тэхнічных дасягненняў? Заводы ў асноўным чакаюць, пакуль добрыя дзядзькі — прадстаўнікі акадэмічнай ці галіновай навукі — адораць іх новай тэхналогіяй. А ў тых, як ужо адзначалася вышэй, свае праблемы і інтарэсы.

Іншая справа — прадпрыемствы, дзе дзейнічае моцны навуковы сектар. Менавіта туды, як правіла, збочваюць вучоныя са сваімі прапановамі. Яскравы таму прыклад — трактарны і аўтамабільны заводы ў Мінску, якія маюць буйныя навукова-тэхнічныя падраздзяленні. Гэтыя падраздзяленні дапамагаюць аператыўна асвойваць буйнамаштабныя распрацоўкі даследчыкаў, узнімаць тэхнічны ўзровень машын, паскараць аўтаматызацыю вытворчасці, павышаць яе эфектыўнасць. Наспеў час больш актыўна пераймаць вопыт трактарабудаўнікоў і аўтазаводцаў.

...Шмат пісьмаў прыходзіць у інстытут механікі металапалімерных сістэм з розных арганізацый і прадпрыемстваў. У многіх просьбы дапамагчы з новымі тэхналогіямі. Задаволіць усіх даследчыкі, канечне ж, не могуць. Адно інстытуцкае спецыяльнае канструктарскае бюро з даследчай вытворчасцю не ў стане тыражаваць доследныя партыі матэрыялаў і прыбораў. Выйсце, калі добра пашукаць, можна знайсці. Але аднаго жадання навукоўцаў тут мала. Істотна дапамагло б скарацiць цыкл «даследаванне — распрацоўка — укараненне» тэхнічнай навіны ўвядзенне дадатковых вытворчых магутнасцей. Аднак і тут ёсць свае праблемы. Зацягваецца, напрыклад, будаўніцтва цэха драўнянапалімерных ролікаў на Гомельскім заводзе пластмасавых вырабаў. Узвядзенне яго пачалося яшчэ ў пачатку 1980 года, неаднаразова вызначаліся тэрміны здачы гэтага важнага народнагаспадарчага аб'екта, аднак кожны раз з недаравальнай паслядоўнасцю тэрміны тыя зрываліся. Па віне будаўнікоў затрымліваецца ўкараненне новых эфектыўных матэрыялаў на аснове палімераў, народная гаспадарка не выкарыстоўвае накоплены навуковы патэнцыял.

Аб чым сведчаць названыя і іншыя недахопы? У першую чаргу аб вялікіх рэзервах і магчымасцях для паскоранага руху наперад. Паўней і хутчэй выкарыстаць іх — задача дня.

## IV. У СКАРБОНКУ ЭКАНОМІІ

Трымаю ў руках інфармацыйныя лісткі, з якімі мне дазволілі азнаёміцца ў аддзеле арганізацыі ўкаранення навукова-тэхнічных распрацовак інстытута. Тэксту на гэтых невялічкіх паперках нямнога, ды ён, па праўдзе сказаць, не надта і патрэбен. Схемы і тэхніка-эканамічныя характарыстыкі скажуць дасведчанаму чалавеку больш, чым любое, нават самае падрабязнае апісанне тэхнічнай навіны.

Узяць хоць бы палімерны абліцовачны матэрыял. Знешне ён нагадвае звычайны поліэтылен, аднак па сваіх якасцях значна пераўзыходзіць яго — надзейна абараняе розныя дэталі ад уздзеяння не толькі вільгаці, але і агрэсіўнага хімічнага асяроддзя. Новы матэрыял можна пафарбаваць у любы колер, ён лёгка паддаецца механічнай апрацоўцы. Лепшай «вопраткі» для розных ёмістасцей, рэзервуараў, труб, якія баяцца карозіі, і прыдумаць нельга. Да таго ж матэрыял гэты яшчэ і вельмі танны. Выкарыстанне яго ўзамен рулоннай гідраізаляцыі прыносіць каля рубля эканоміі на адзін квадратны метр пакрыццяў. Няцяжка ўявіць, колькі набяжыць тых рублёў, калі мець на ўвазе, што без гідраізаляцыі не можа абысціся ніводзін трубаправод.

Яшчэ адзін красамоўны факт. Спецыялісты інстытута стварылі тэхналагічнае абсталяванне для Гомельскага шклозавода імя Ламаносава, якое дазваляе выпускаць штогод да трохсот кіламетраў шкляных труб з палімернай абалонкай. І тут лёгка падлічыць эканомію, ведаючы, што прымяненне толькі аднаго кіламетра новых труб на прадпрыемствах хімічнай прамысловасці дазваляе зберагаць 10—15 тон чорных, або 4—5 тон каляровых металаў.

Права на асаблівую да сябе ўвагу маюць многія навінкі інстытута. Аднак мець права — яшчэ не значыць карыстацца ім у поўным аб'ёме. Сёння — і аб гэтым трэба гаварыць прама — якраз увагі гомельскім палімерам і не стае. Не так часта, як хацелася б, спыняецца на іх зацікаўлены позірк прадстаўнікоў галіновай навукі, прамысловасці — тых, ад каго залежыць хутчэйшае ўкараненне тэхнічных навін у вытворчасць. Між тым усё часцей даводзіцца чуць, што стагоддзе, у якім мы жывём, называюць не толькі ядзерным, але і стагоддзем палімераў. Новыя прагрэсіўныя матэрыялы знаходзяць усё больш шырокае прымяненне. Відавочна, што, каб не адстаць з іх вытворчасцю, трэба спяшацца. І не толькі гамяльчанам.

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

Савелій **ПАЎЛАЎ**

ІРАНІЧНЫЯ КАРАЦЕЛЬКІ

# У Пракопа запыталі ...




— Дзядзька Пракоп! Вы так часта выступаеце на семінарах, сходах, нарадах, што, мабыць, ужо і не хвалюецеся?..

— Калі я перастану хвалявацца, то не буду ўжо выступаць,— адказаў стары Пракоп.

□ □ □

У калгасе цяжка прыжываліся вучоныя агрprobably аграномы, заатэхнікі, ветэрынары. Кіраўнік гаспадаркі з ног збіўся, каб спыніць іх цякучку. Не атрымалася. Звярнуўся за парадай да Пракопа, і той сказаў:

— Годзе, старшыня, ганяцца за дыпломамі. Каб быць добрым працаўніком, не абавязкова мець вышэйшую адукацыю — дастаткова сярэдняй кемлівасці.

□ □ □

— Пракоп, гэта ж праўда, што нашы жанчыны на ўсё здатныя. Нават у космас, як на шпацыр, гойсаюць. А вось каб палкаводцам стала, штосьці не чувалася?

— Затрымка за малым,— заўважыў Пракоп.— Наша жанчына пакуль што не здольная адступаць.

□ □ □

— Шаноўны Пракоп! Якіх клопатаў яшчэ не пазбавіла сучасную жанчыну ўсемагутная эмансіпацыя? — пацікавіўся дэмограф-аспірант Носікаў.

— Хіба не ведаеш? — здзівіўся Пракоп.— Як дастаць далікатэсны харч і скінуць лішнюю вагу.

□ □ □

З наступленнем халадоў дырэктар школы загадаў не адчыняць вокны ў класах.

— Які здатны, эканомны гаспадарнік наш Піліп Пятровіч,— замілоўваліся падхалімы дырэктара,— кожную драбнічку цяпла беражэ...

— Пустабрэхі,— зазначыў Пракоп.— Піліп Пятровіч пабойваецца, каб тыя, хто праходзіць міма школы, не памерзлі. Дровы ж з лесу яшчэ не прывезены!

□ □ □

Брыгадзір Антон, сусед Пракопа, часцяком скардзіўся:

— Цяжка, Пракоп, стала працаваць. Умовы не тыя, аб'ектыўныя цяжкасці, надвор'е падводзіць, сіл бракуе...

— Каму цяжка, мой Антоне, той сыходзіць з дыстанцыі, каб другім не замінаць,— параіў Пракоп.

□ □ □

Ветэран Кузьма Антонавіч скардзіўся Пракопу:

— Не тая, браток, жытка пайшла,— адна пенсійная нудота. Вось калі я малады быў, дык на мяне, казалі, уся краіна глядзела!..

— Не нудзіся, Кузьма Антонавіч,— заспакоіў яго Пракоп.— На цябе ж уся моладзь цяпераа глядзіць!

□ □ □

Адзін прамоўца на пачэсным грамадскім форуме заклікаў:

— Трэба смялей ды шпарчэй вылучаць на кіруючую работу жанчын — таленавітых ды прыгожых!...

— Чаму менавіта прыгожых? Пракоп усміхнуўся і адказаў:

— Прамоўца ж халасцяк!

□ □ □

У Пракопа запыталі:

— Як пазнаць беларуса ў шматлікай сям'і народаў?

— Вельмі проста: ён прыгожы, мужны і сціплы.

□ □ □

За вячэрай Дзімка, Пракопаў унучак, заўважыў:

— Дзівак ты, дзядуля, п'еш чай з малаком, а без цукру...

Пракоп прыняў гаротны выгляд і адказаў:

— Калі ў мяне была кроў з малаком, я піў чай з цукрам. Цяпер жа ў мяне кроў з цукрам, то я п'ю чай з малаком...

— Так,— пагадзіўся Дзімка.— Дык чаму ж ты з самага пачатку не піў чай з малаком?

— Каб ты ведаў, што ласавацца цукрам без патрэбы шкодна.

Дзімка падумаў: «Дзівакі загадкавыя гэтыя дзядулі».

□ □ □

У вёсцы адкрылі краму «Дарункі прыроды». Пракоп уважліва агледзеў прылавак, на якім былі раскладзены ладныя кускі вепруковага, ласінага і казінага мяса, тушкі фазана і нават цяпер рэдкай пасля асушэння балот вераценніцы, і спачувальна сказаў:

— Далібог, атэістычная крама.

— Чаму, дзядзька Пракоп? — здзівіліся пакупнікі.

— Тут бязбожныя цэны.

□ □ □

Памёр Пракопаў сусед і добры чалавек Міхал. Дачку Насту, якая мо гадоў з дзесяць не паказвала вачэй з горада ў бацькаву хату, выклікалі тэлеграмай. Яна выціснула над труной нябожчыка слязу і з клопатам у голасе прагаварыла:

— Татачка, я замяню табе гальштук. Ужо ж вельмі не дапасуецца твой шэры да цёмнага гарнітура...

Пракоп спачувальна пахітаў галавой і, нешта адкрываючы для сябе, заўважыў:

— Цяпер я канчаткова пераканаўся, што цынізм яшчэ не авалодаў генетычным кодам.

□ □ □

Так здарылася, што ў сям'і Пракопа было два настаўнікі — сын і нявестка ды ўнук Дзімка — вучань. Усе яны самым непасрэдным чынам зацікаўлены школьнай рэформай і, вядома, дыспутавалі наконт яе, як толькі здаралася вольная хвіліна.

Карэспандэнт раённай газеты папрасіў Пракопа пракаменціраваць дамашнія дыспуты.

— Мае настаўнічкі чакалі многа выгад, а атрымалі новыя абавязкі. Не вельмі разумеюць, што без абавязкаў выгад не бывае...

— Ну, а бацькі?

— Часта шкадуюць, што цяпер няма на каго звальваць віну за выхаванне Дзімкі. Ланцуг сям'я — школа самкнуўся ж...

— А што Дзімка?

— Той, бадай, вярней за ўсіх вызначыў сваю дыспазіцыю: скончылася шчаслівае — у сэнсе бесклапотнае — дзяцінства, трэба вучыцца самому хлеб зарабляць.

Так скончыў сваё інтэрв'ю Пракоп.

□ □ □

Пракоп касіў сена на поплаве і яшчэ ад світанку заўважаў, як наўсцяж рэліктавай дубровы кружыў турыст-дзікун. Мяў свежую траву, ламаў лясны падрост.

— Скажы, чалавеча, што ты тут шукаеш? — не стрываў, нарэшце, Пракоп.

— Славутую дуброву з чырваналістымі дубамі.

— Дык вось жа яна — перад табой.

— Э, не, стары, ты мяне не падманеш,— замахаў рукамі турыст і пашыбаваў у бок альховага хмызу.

Пракоп здзіўлена паціснуў плячамі, падумаў: «Відаць, вось так і нараджаюцца блудныя сыны. Чаго шукаюць, не ведаюць, а знойдуць, дык не пазнаюць...»

□ □ □

Унук Дзімка пацікавіўся ў Пракопа:

— Дзядуля, а ці можа ўнук капрала амерыканскай арміі стаць генералам?

— Не, унучак,— адказаў Пракоп.— У генерала ёсць свае ўнукі.

*У аўтамабілі*

**ДАСЛЕДАВАННЕ-ЎСПАМІН, АБО ЎСТУП ДА ТРЭЦЯГА РАЗДЗЕЛА**

**Да чаго ж добра думаецца ў дарозе!**

**Шырокая стужка аўтамагістралі вядзе нас з горада Брэжнева на Ніжнякамск. Адтуль шлях далей — на Альмецьеўск і Азнакаева, аж да самай граніцы з Башкірыяй.**

**Ніжнякамск — малады горад нафтахімікаў. Чвэрць стагоддзя назад з-за векавога дрымучага лесу з'явіўся санна-тракторны поезд. Чубатыя вясёлыя хлопцы забілі тут два першыя калкі, разбілі лагер. Праз год гэтаму лагеру была нададзена годнасць пасёлка з назвай «Ніжнякамскі», праз пяць гадоў пасёлак стаў горадам Ніжнякамскам, а яшчэ праз год яго жыхары адзначылі нараджэнне новага нафтахімічнага гіганта «Ніжнякамскнафтахім».**

# КВЕТКА НА ДАЛОНІ РАСІІ

**Мікалай ЗЯНЬКОВІЧ**

Якіх толькі супадзенняў не бывае на свеце! Уявіце, што адчувае журналіст, які едзе ў край нафты і хіміі, калі ў дарозе даведваецца аб тым, што на правым беразе блакітнай Камы на былых заводах жорсткага купца і фабрыканта Ушкова працаваў стваральнік перыядычнай сістэмы элементаў Д. І. Мендзялееў. Менавіта там, гледзячы, як нафту выкарыстоўваюць у якасці «асвятляльнага масла», вучоны ўсклікнуў: «Трэба навучыцца ператвараць чатырохкапеечны прадукт у пяцірублёвы». Але гэта яшчэ не ўсё. На левым баку Камы радзіма другога выдатнага вучонага-хіміка — А. М. Бутлерава. Дарэчы, ён там і пахаваны. Бутлераву належыць пальма першынства ў стварэнні тэорыі арганічнай хіміі, ажыццяўленні рэакцыі палімерызацыі. Мы ведаем, што сёння гэта аснова вытворчасці самых ходавых матэрыялаў XX стагоддзя — палімераў.

Вось так дзівосна перапляліся на шчодрых абшарах гэтага краю дзень былы з сённяшнім, мары выдатных людзей мінулага са справамі сучаснікаў.

Ды і ці толькі лёсы Мендзялеева і Бутлерава? Чакайце, а жыццё і дзейнасць якіх яшчэ выдатных людзей нашай Радзімы звязана з Татарыяй? Памяць падказвае: тут вучыліся Дзмітрый Каракозаў, той самы, што страляў у Аляксандра II, Васіль Асіпанаў, пакараны смерцю разам з Аляксандрам Ульянавым, Вера Фігнер, член камітэта «Народнай волі». Толькі адна Казань дала краіне патрыярха расійскай паэзіі Г. Дзяржавіна, вялікага спевака Ф. Шаляпіна. Тут бывалі А. Пушкін, А. Герцэн, Т. Шаўчэнка, Г. Успенскі, У. Караленка, жылі Леў Талстой і Аляксей Талстой. Максім Горкі пісаў, што духоўна ён нарадзіўся ў Казані.

З цемры часоў праступаюць знаёмыя абрысы ўсё новых і новых твараў. Вось мяцежны Пугачоў у акружэнні верных паплечнікаў, камандзіраў татарскіх атрадаў М. Гумерава, К. Ішметава, А. Сулейманава перад штурмам казанскага Крамля. Скача на гарачым кані па Барадзінскім полі ардынарац Кутузава славутая Дурава — «кавалерыст-дзяўчына», жыхарка Елабугі, якая пад імем Аляксандры Сакаловай запісалася ў гусары, потым камандавала эскадронам, удзельнічала ў замежным паходзе рускай арміі. У цішыні сціплых кабінетаў рэктар Казанскага універсітэта М. І. Лабачэўскі стварае геніяльную геаметрычную сістэму, прафесар М. М. Зінін адкрывае анілін, які абвясціў новую эру ў развіцці хімічнай навукі, выдатны астраном і падарожнік І. М. Сіманаў збіраецца ў чарговую экспедыцыю. Пакуль яшчэ ходзіць на заняткі ў ветэрынарны інстытут сын уладальніка невялічкай сталярнай майстэрні Мікалай Бауман, але казанскім паліцэйскім ужо становіцца не па сабе ад дзёрзкіх вачэй гэтага студэнта. Канторшчык на мылаварным заводзе братоў Крастоўнікавых бясстрасна запісвае ў сшытак прозвішча новага практыканта — Сяргей Кострыкаў. Пройдзе час, і рэвалюцыйная клічка гэтага хлопчыка — Кіраў — прагрыміць па ўсёй краіне, стане назвай гарадоў, заводаў, вуліц, стадыёнаў на шостай частцы зямнога шара.

Хірург А. А. Вішнеўскі і акадэмік А. Е. Арбузаў, лётчык М. П. Дзевятаеў і паэт Муса Джаліль,сотні іншых знакамітых імён, сярод якіх герой абароны Брэсцкай крэпасці маёр П. М. Гаўрылаў, неразрыўна звязаны з гісторыяй Татарыі, яе мінулым і сённяшнім днём.

Успомнілася: учора, стоячы ля маладога вадасховішча ў горадзе Брэжневе, Людміла Віктараўна Шылава пажартавала:

— Бачыце маляўнічыя лясы? Гэта з іх пісаў свае славутыя палотны Шышкін. А цяпер тут такі пейзаж, што хоць Айвазоўскаму бярыся за пэндзаль. Сапраўднае мора. Нават і хвалі ёсць.

Жарт жартам, а ўсё ж ён яшчэ адзін выразны штрых, які ўвачавідкі дае зразумець, асэнсаваць грандыёзныя пераўтварэнні, што адбываюцца зараз у гэтым краі загадак і таямніц.

Я не агаварыўся, не. Так, Савецкую Татарыю сёння па праву называюць краем нафты і газу, машына-, авія- і прыборабудавання, развітога земляробства і жывёлагадоўлі. І тым не менш зямля татарская прыцягвае ўвагу ўсё новых і новых даследчыкаў, бо ў тлумачэнні многіх малавядомых старонак яе гісторыі скрыжоўваюцца розныя пункты гледжання, вядуцца спрэчкі і дыскусіі.

Кожнаму чалавеку цікава ведаць, якога ён роду-племя, хто яго продкі, як узнік яго народ, які гістарычны шлях прайшоў. Татары ганарацца тым, што дзякуючы Вялікаму Кастрычніку яны, як і іншыя раней прыгнечаныя народы, упершыню атрымалі нацыянальную дзяржаўнасць, сталі сапраўднымі гаспадарамі свайго лёсу. Палітыка Камуністычнай партыі, накіраваная на паскоранае развіццё эканомікі і культуры адсталых у мінулым нацыянальных ускраін, брацкая дапамога народаў СССР і ў першую чаргу рускага народа, дазволілі працоўным Татарыі ў небывала кароткі гістарычны тэрмін дасягнуць выдатных поспехаў у сацыялістычным будаўніцтве.

Сёння Татарская АССР — адна з буйных аўтаномных рэспублік Расійскай Федэрацыі. Яна размешчана на ўсходзе еўрапейскай часткі СССР, на берагах рэк Волгі, Камы, Вяткі, Белай. Яе тэрыторыя складае 68 тысяч квадратных кіламетраў, насельніцтва — амаль 3,5 мільёна чалавек. Жывуць тут людзі розных нацыянальнасцей, іх каля 60. Татары складаюць каля палавіны ўсіх жыхароў рэспублікі, рускія — крыху больш як 42 працэнты.

Хто былі продкі сучасных паволжскіх татараў? Высвятленне паходжання слова «татары» выклікала шмат спрэчак вакол этнагенезу татарскага народа. Пачынаючы з сярэдзіны XVI стагоддзя, з'яўляюцца і атрымліваюць развіццё дзве асноўныя тэорыі па гэтаму пытанню. Першая тэорыя добра выкладзена вялікім рускім рэвалюцыйным дэмакратам М. Г. Чарнышэўскім, які пісаў: «...Цяперашнія татары — патомкі плямёнаў, што жылі ў тых мясцінах да Батыя і пакораных Батыем, як былі пакораны рускія...»

Што ж гэта за плямёны, якія жылі тады ў Паволжы? Гісторыкі сведчаць: у IX—X стагоддзях на Волзе, пры ўпадзенні ў яе Камы, цюркамоўныя плямёны, што прыйшлі сюды з Урала, нізоўяў Волгі і Дона, стварылі Булгарскую дзяржаву. Тут скрыжоўваліся ажыўленыя шляхі Захаду і Усходу. Булгары былі земляробамі і рамеснікамі. Сваімі рукамі яны пабудавалі шматлікія гарады і сёлы. Існаванне Волжска-Камскай Булгарыі мела велізарнае значэнне для гісторыі народаў Паволжа і Зауралля. Насельніцтва Волжскай Булгарыі паклала пачатак фарміраванню цюркамоўных народаў Паволжа, у тым ліку і татарскага народа.

Булгарская тэорыя паходжання волжскіх татараў пацвярджаецца данымі археалогіі, этнаграфіі і мовазнаўства. Рэшткі сталіцы дзяржавы булгараў захаваліся да нашых часоў на левым беразе ракі Малы Чарамшан Аляксееўскага раёна. У 1236—1240 гадах Булгарыя пасля працяглага і адчайнага супраціўлення была заваявана мангола-татарскімі войскамі і падпала пад уладу Залатой Арды. Сталіцай дзяржавы стаў новы горад Булгар — за 6 кіламетраў ад Волгі. Цяпер тут размешчана вёска з красамоўнай назвай Балгары.

---

Пачатак у №№ 4, 5.



Другая тэорыя, якая распаўсюджваецца буржуазнай гістарыяграфіяй, выводзіць паходжанне паволжскіх татараў, і ў першую чаргу, казанскіх, ад татараў Залатой Арды, а цераз іх і ад татара-манголаў XIII стагоддзя. Гэты погляд на гісторыю падтрымлівала і афіцыйная вялікадзяржаўная палітыка рускага царызму, якому выгадна было прадставіць паволжскіх татараў патомкамі татара-манголаў, што некалі прыгняталі і рабавалі Русь. Залатаардынская тэорыя імпанавала і татарскай буржуазіі — яна давала магчымасць зацвердзіць сваё пануючае становішча сярод цюркамоўных народаў. У час размоў з казанскімі вучонымі мне давялося чуць, што гэта тэорыя і па сённяшні дзень ходзіць на Захадзе.

— Але ж тут, акрамя чыста знешняга атаясамлівання сучаснага этноніма «татары» з этнонімам «татара-манголы», нічога няма,— упэўнена гаварыў прафесар А. А. Халікаў.— Усе навуковыя доказы на карысць булгарскай тэорыі.

Цікава разважаў вучоны аб паходжанні назвы сталіцы Татарыі. Тут таксама існуе некалькі гіпотэз. Адны даследчыкі лічаць: горад атрымаў назву Казань таму, што размешчаны ў катлавіне — у перакладзе з татарскай мовы казан азначае кацёл. Другія схільныя меркаваць, што горад абавязаны сваёй назве Казган-хану, які быццам бы заснаваў Іске-Казань. Трэція прыводзяць легенду аб тым, што служка булгарскага князя Алтынбека, які ўцякаў ад манголаў, хацеў зачарпнуць вады і выпусціў з рук залаты казан (кацёл) у раку. У сувязі з гэтым раку назвалі Казан (пазней Казанка), а горад Казанню.

Ёсць і іншыя тлумачэнні. А. А. Халікаў прапанаваў сваю версію: слова казан складаецца з дзвюх частак — «каз» — асноўнага слова і «ан» — суфікса. У булгарскія часы слова «каз» азначала «канец», «граніцу», «мяжу». У цэлым можна меркаваць, што слова «казан» азначала ў мінулым «пачатак граніцы, краю, мяжы». У гэтым значэнні, тлумачыць вучоны, больш зразумелым выступае тапанім «каш-ан», звязаны з двума булгарскімі гарадзішчамі, якія мелі назву Кашан і з'яўляліся ўскраіннымі пунктамі булгар на паўночна-заходняй граніцы іх дзяржавы. Відаць, ёсць падстава лічыць, што слова «казан» у даўнейшыя часы адпавядала свайму этымалагічнаму сэнсу і сапраўды магло азначаць пачатак граніцы, мяжы, прыкладна адпавядаючы старажытнарускаму слову «вежа».

## *3. Адкрыццё кола, абрус-самабор і іншыя прывычныя дзівосы*

Я міжволі ўздрыгнуў. Што за насланнё? Злева ад сучаснай аўтамагістралі, нібы здані, з'явіліся абрысы высачэзных вежаў. Яны добра былі бачны з бакавога акна машыны.

— «Ніжнякамскнафтахім»,— растлумачыў шафёр.— Гіганцкае прадпрыемства! Прадукцыі — на мільярд рублёў у год. А побач — шыннае аб'яднанне «Ніжнякамскшына». «Абувае» «КамАЗы», «Жыгулі», «Масквічы», трактары, сельгасмашыны.

У маёй кватэры нямала дзівосных рэчаў. Жменька салігорскіх мінералаў, прабірка з рэчыцкай нафтай, стужачка магілёўскага лаўсану, кавалачак лунінецкага граніту, іншыя памятныя падарункі, прывезеныя з журналісцкіх вандровак. Цяпер да дарагіх майму сэрцу сувеніраў далучыліся пругкі кавалачак шэрага рэчыва — каўчук і маленькае зялёнае кола — дакладная копія тых, у якія «абуты» «КамАЗы». Іх я прывёз з Ніжнякамска, дзе асабліва выразна бачыш, як высока ўзышоў чалавек у пазнанні таямніц прыроды, калі звычайныя слесары-апаратчыкі і інжынеры-тэхнолагі навучыліся беспамылкова разумець павадкі такога маленькага зярнятка матэрыі, як атам. Памяняюць іх месцамі, павялічаць ці зменшаць тэмпературу, ціск, увядуць спецыяльны рэгулятар рэакцыі — каталізатар і атрымліваюць абсалютна новы прадукт, не падобны на папярэдні.

Я прысутнічаў пры хімічных цудах канца XX стагоддзя: пры двухстах градусах з нафты пераганяюць бензін, крыху павялічыўшы тэмпературу — ліграін, пры трохстах пятнаццаці — газу. Бліжэй да тысячы градусаў пачынаецца вышэйшая магія хіміі — работа з лятучымі вуглевадародамі. Іх у зыходнай сыравіне,— бы масла ў ільняным насенні, бы нектару ў кветцы,— кроплі. У рэактарах ніжнякамскіх нафтахімікаў у якасці сыравіны — газ, рабочы інструмент — каталізатары, растваральнікі, атрыманы прадукт падобны на зыходную сыравіну гэтак жа, як, скажам, чорны мармур на белую баваўну. Ніжнякамскі каўчук, на пругкіх брыкетах якога стаіць ганаровы пяцікутнік, ідзе ў блізкія і далёкія краіны, дадае нашай дзяржаве славу магутнага экспарцёра гэтага каштоўнейшага прадукту.

У Ніжнякамску з гордасцю адзначалі: іх горад дае значную частку дывінілу, этылену, стыролу, ізапрэнавага і бутылавага каўчуку. Каўчук... Наўрад ці трэба тлумачыць, што гэта такое. Некалі наша краіна плаціла за яго залатой валютай. Даводзілася, бо навошта тады было будаваць аўтамабільныя заводы, калі без «абутку» машыны не пакоцяцца з канвеера, навошта было думаць аб энергетычных турбінах, тэрмаядзерных рэактарах, падводных скафандрах і баракамерах, калі няма чым герметызаваць злучэнні. Многа гадоў мінула, пакуль савецкія вучоныя адкрылі тайну пестуна тропікаў, навучыліся атрымліваць яго ў любым месцы краіны ў апаратах і рэактарах. І маё пасляваеннае дзяцінства на тагачаснай галоднай і халоднай Хоцімшчыне прайшло ў пастаянных турботах аб дзялянках кок-сагызу. Мы ведалі: краіне патрэбен каўчук, многа каўчуку.

Сёння СССР па выпуску сінтэтычных каўчукоў яшчэ ўступае Злучаным Штатам, хаця разрыў не такі ўжо і вялікі, але ўжо ў 5,8 раза пераўзыходзіць Англію, у 3,9 — Францыю, у 4,4 — ФРГ, у 1,9 раза — Японію. Якасць? Генеральны дырэктар «Ніжнякамскнафтахіма» з гордасцю сказаў:

— Дзесяць шын, зробленых з нашага каўчуку, бегаюць столькі, колькі адзінаццаць з натуральнага...

Будаўніцтву гэтых двух гігантаў самай маладой у Татарыі галіны — нафтахіміі і абавязан сваім нараджэннем горад Ніжнякамск. Мы любаваліся яго зручнай планіроўкай, прыгожымі мікрараёнамі, вышыннымі дамамі. Важная акалічнасць: усе прадпрыемствы ў Ніжнякамску аддалены ад жылой зоны на 4—8 кіламетраў. Паміж горадам і прамысловым раёнам раскінуўся больш як 600-гектарны сад прыгараднага саўгаса. Гэта своеасаблівая ахоўная зялёная зона, дзякуючы якой паветра ў горадзе заўсёды чыстае. Кварталы дзесяці- і дванаццаціпавярховых дамоў размешчаны так, што яны праглядваюцца наскрозь, незамкнёныя, у іх няма цёмных і глухіх мясцін, яны прадзімаюцца свежымі вятрамі.

З Ніжнякамска наш шлях ляжыць на Альмецьеўск — нафтавую сталіцу Татарыі. Гэтаму гораду жыццё дала дэвонская нафта. Цяпер у горадзе звыш 110 тысяч нафтавікоў, будаўнікоў, прадстаўнікоў іншых прафесій.

Стаяць на нафтавай зямлі Татарыі два помнікі. Адзін устаноўлен недалёка ад вёскі Рамашкіна, дзе ў канцы саракавых гадоў было адкрыта новае нафтавае радовішча. Другі помнік узвышаецца ў Альмецьеўску ў гонар вялікай працоўнай перамогі. Гэтыя помнікі стаяць крыху больш як дваццаць гадоў.

— Бачыце, які ланцужок выстройваецца,— разгаварыўся шафёр.— Нафта — сінтэтычны каўчук — шыны — аўтамабілі. Усё ў гэтым ланцужку ўзаемазвязана, пераплецена. Нафтаздабытчыкі падрыхтавалі стварэнне ніжнякамскай шыны, а выдатнае кола павінна памножыць іх старанні, зберагчы ў паліўных баках многія тоны «чорнага золата».

Гаваркі шафёр успомніў і таго невядомага старажытнага чалавека, які вынайшаў кола. Пашкадаваў небараку: ці мог той уявіць, што спатрэбяцца гіганцкія, насычаныя найскладанейшым абсталяваннем прадпрыемствы і цэлая галіна прамысловасці толькі для таго, каб узяць гэтае самае кола ў сапраўдны абарот. «Адкрыццё кола працягваецца!» — радасна смяецца шафёр.

(Заканчэнне на 36-й стар.)

**Павел ПРУДНІКАЎ**

## *Прыляцелі гусі*

Хто, сябры, з вас бачыў, як ляцелі гусі
І будзілі крыкам ранішнюю даль?
Клічуць да сябе іх рэкі Беларусі
І азёр блакітных люстраны крышталь.

Сакавіцкім золкам у нябеснай сіні
Раздаліся раптам цуда-галасы.
Быццам дапамогі яны ў нас прасілі
І плылі наперад да апошніх сіл.

Роўнымі шнурамі складіся у вугал
На чале з магутным, смелым важаком,
Паляцелі мерна над палеткам, лугам,
Над азёрным люстрам, лесам і ракой.

Іх чакаюць недзе родныя прасторы,
Па якіх тачыла ўсю зіму туга.
Ад сустрэчы блізкай заспявалі хорам!..
Устаяў я ледзьве на сваіх нагах.

Хто не рад, скажыце,
стрэць куток свой родны,
Пакланіцца нізка родным берагам?
Ад такой сустрэчы нават лёд халодны
Не ўляжыць —
растане, паплыве к нагам.

Вунь яны, глядзіце, зноў загагаталі,
Крыламі ўзмахнулі, нібы млын-вятрак.
У нябёснай сіні, у таемнай далі
Паляцела рэха птушак-небарак!..



Чую гул нямоўчны і бясконцы,
Бачу рух таропкі на зямлі.
А ў нябеснай далечы,
пад сонцам
Праплываюць з крыкам жураўлі.

І жыве усё тут па законах,
Не дастурных розуму людзей.
Не, няма ў Сусвеце супакою.
Быў і ёсць заўжды рабочы дзень.

Тут усё ў адзіным вечным руху:
Безліч зорак, Сонца і Зямля.
Я не раз пра іх легенды слухаў
Ды і сам штось ціха вымаўляў.

Вось гляджу на ўсё гэта маўкліва,
Як той Месяц з сіняй вышыні.
Зразумеў адно,
што я шчаслівы
На зямным аб'езджаным кані.

Што і я з'яўляюся крупінкай
На планеце сэрцу дарагой,
Дзе лятаю лёгкаю пушынкай
І ступаю цвёрдаю нагой.

Дзе і я хоць што-небудзь ды значу,
Што прыношу нейкую карысць,
Што і я жыву не без аддачы,
Маю права думаць і тварыць.

## *Беражыце ветэранаў*

М. Д. Дольнікаву.

Адыходзяць, дружа, ветэраны,
Застаецца мала іх між нас.
Іх бяруць ад нас яшчэ і раны,
І няўмольны быстрацечны час.
Колькі іх згубілася ў паходах
І пасля ўжо ў мірнай мітусні!..
Ад паклёпаў гінуць год за годам,
Ад варожай зайздрасці, хлусні.
Ад цялесных ран і ран душэўных
Мы губляем дарагіх сяброў.
Ад штуршкоў падземных і наземных
Застывае іх святая кроў.
Беражыце, людзі, ветэранаў!
Яны ж нас ад смерці збераглі,
Даражыце імі не ў курганах,
А пакуль шчэ ходзяць па зямлі!

# ЧЫЖЫК

**Яраслаў ПАРХУТА**

АПАВЯДАННЕ



Яго любілі ў атрадзе. Знікне, бывала, Сцёпка Чыжык з лагера на якія пару дзён, а ўсе з нецярпеннем чакаюць: калі ж вернецца? Бо нават сваёй, па-дзіцячы даверлівай усмешкай прыносіў людзям нейкае супакаенне, ціхую, добрую радасць. Ён гэта адчуваў і трошкі ганарыўся. Але, відаць, болей ганарыўся тым, што быў надзіва ўдачлівым. Трапіць у такую нявыкрутку, а выйдзе сухім з вады, каня пад сабою страціць, боты і адзежу пагубляе, а ў лагер целюткі вернецца. Праз пару дзён зноў недзе выпара сабе ладнага каня, яшчэ лепшы кажушок, боты, кубанку, наўкос якой чырвоная стужка гарыць, і стане тым жа Сцёпкам Чыжыкам.

А на гэты раз Чыжык усіх здзівіў напавал. Вярнуўся з чарговай адлучкі, выпусціў чуб з-пад кубанкі і пайшоў да начальства:

— Я Алёну сваю прывёў! — ляпнуў з парога.

— Якую Алёну? Адкуль? Навошта?

— Максімаўне ў помач,— стаў тлумачыць Сцёпка.— Кухарыць будзе. Бо ёй у сяле няможно, у Нямеччыну забіраюць.

Ну што было рабіць з гэтым Чыжыкам? Пабурчала начальства ды змірылася.

На Чыжыкаў фокус па-рознаму глядзелі ў атрадзе. Адны — спакойна, другія — спагадліва, трэція — з хітраватай усмешкай: маўляў, што будзе, калі кожны так?.. Ды Сцёпка не зважаў на гэта, па-ранейшаму знікаў з лагера цішком, вяртаўся стомлены, але вясёлы, і толькі больш цяпер прападаў ля Алёны, чым быў з хлопцамі.

Жыццё ёсць жыццё. Мала-памалу ўсё прыцерлася. На Алёну ўжо глядзелі як на свайго чалавека. І тады Чыжык нібыта спахапіўся: ёй жа раджаць скора! А дзе? І як быць з малым? Гэтыя наіўныя і адначасна трывожныя думкі нікому не выказваў, нават Алёне, і ад таго вельмі мучыўся. А тут яшчэ, як гром з яснага неба, загад: адыходзіць у Пінскія балоты! Каб зімою — такой бяды! За ноч на санях можна вунь колькі адмахаць, пераскочыць ля Броннай Гары чыгунку — вывезці з блакады і маёмасць, і людзей. А ў разводдзе? На дарогі носу не высунеш, немцы ўсюды поўзаюць, а па цаліку... На свае ногі толькі і надзея. Гэта разумела і начальства, бо ў той жа дзень Чыжык быў выкліканы ў штаб. Пра што з ім там гаварылі — невядома, але Сцёпка адразу кінуўся на кухню, сказаў Алёне:

— Праз гадзіну трэба нам пакінуць лагер...

Пакуль Алёна збіралася, Максімаўна ўладкавала сідар: на дно паклала кумпяк, пару брускоў сала, торбачку прасяных круп. Паверх кінула некалькі новых ануч (на пялёнкі), крамную, са сваіх небагатых прыпасаў, прасціну і дзве, пашытыя напярэдадні, кашулькі. Аддаючы сідар Чыжыку, уздыхнула:

— На першыя дні досыць, а тады...

Яна не дагаварыла, што будзе тады, прыгарнула да сябе Алёну, пацалавала:

— Пільнуйся добрых людзей...

Калі пакідалі лагер, ён быў падобны на растрывожаны мурашнік. Бегалі, склікаючы сваіх, людзі з гаспадарчага ўзвода. Строіліся, правяралі зброю баявыя групы. Ля зямлянак і складскіх памяшканняў завіхаліся падрыўнікі. Чыжык заўважыў адсутнасць коней. Не бачыў і сяброў-разведчыкаў. «У заслон паехалі!» — падумаў ён і скіраваў на прасеку, што вяла на поўнач ад лагера.

Як трохі адышліся і не чуваць стала людской гаманы, Алёна спытала:

— Сцёпка, а куды ж мы?

Ён не адказаў. Ішоў следам, пазіраў на яе, нязграбную ў шэрай ватоўцы, самаробнай спадніцы ды старых кірзачах, і жальба падступала да сэрца: «Ці абыдзецца ўсё?..» Але сказаў пра іншае:

— Табе цяжка?

— Не. Я магу яшчэ доўга ісці.

І хоць яна сказала гэтак, ён не даў веры, бо ведаў: Алёне кожны крок даецца не проста. Амаль гадзіна хады па раскіслым снезе дала аб сабе знаць. Ён мужчына, а, прызнацца, не супраць быў прысесці, даць нагам хоць трошкі адпачыць. І калі заўважыў паблізу прасекі вываратэнь, узрадаваўся. Праз хвіліну яны былі там. Алёна сядзела на сідары, ён — насупраць, на яловым камлі. Яна ссунула з галавы цёплую хустку, падставіла ўжо нізкаму сонцу твар, і яму на хвіліну памроілася, што перад ім хлапчук, падстрыжаны пад «польку», з канапацінкамі на носе. Падумаў: «Такі вось будзе і сын...» Але тут жа запярэчыў сабе: «Яна ж неяк сказала, што народзіць дзяўчатак — і русявенькіх, як ён, і чарнявенькіх, як яна». Успомніў пра гэта і разгублена ўсміхнуўся: «Во зяцёў мецьму!..»

А яна зноў спытала пра сваё:

— Сцёпка, усё ж куды мы?

— Да Куліны! — коратка, як зазлаваўшы, сказаў ён.

Пачуўшы гэта, Алёна зірнула з дакорам:

— Блізкі ж свет, Сцёпка!..

Ён прамаўчаў. Галава была забіта іншым: лаяў сябе, чаму не выпрасіў каня і навошта браў у Максімаўны гэты сідар. Праўда, наконт каня ён не мог нават і заікнуцца, ведаў, што коні для больш важнага спатрэбіліся. А сідар? Павыкідаць бы ўсе гэтыя кумпякі, пакінуць адны пялёнкі! Хопіць таго, што аўтамат шыю адрывае... Але калі Алёна паднялася, завязала хустку і спакойна сказала: «Пайшлі, Сцёпка!», рукі паслухмяна пацягнуліся да лямак, і Чыжык упрогся зноў. Зноў ішоў следам за Алёнаю і ўжо спрабаваў дакараць сябе за тое, што столькі гора прынёс ёй сваім каханнем, што яшчэ невядома, як тое будзе заўтра, праз месяц, праз год.

Але з гэтых дакораў нічога не выйшла. Яны болей падобны былі на ўспаміны ці мроі. Думаў пра адно, а ў памяці ўсплывалі хвіліны спатканняў, калі, вяртаючыся з задання, забягаў у Алёніну хату. Згадваў пра другое, а перад вачамі стаяла яна — блізкая і навек свая. Дакараў сябе за невядомасць, якая павісла над імі, а бачыў сябе пасля вайны, у новай хаце, за чыстым сталом, у акружэнні дачок. «Эх і зажывём, птушачка!..» — уздыхнуў ён з палёгкай. Алёна, відаць, пачула, бо азірнулася, адарыла яго ледзь улоўнаю ўсмешкай і запыталася:

— Ты пра што, Сцёпка?

Прыспешыў крок, узяў яе пад руку і моўчкі пайшоў поплеч. Лес увачавідкі радзеў, большала праталін, але заадно стала болей слізготы. Адчуў, што замінае Алёне ісці, прапусціў яе трошкі наперад, стаў зноў брысці следам. Бачыў, як яе ногі мясілі глеістую зямлю, адчуваў, з якой цяжкасцю выцягвала то адзін, то другі бот, і ўпершыню за ўсю дарогу паспрабаваў суцешыць:

— Ужэ скора!

Алёна маўчала. Нават не распытвала, як паглядзіць на іхні прыход Куліна, — ведала: Сцёпка ўсё прадумаў. Не ісці ж ёй у сваю вёску — назаўтра будзе ўсім вядома: Алёна з лесу вярнулася! А на Куліным хутарку, сапраўды, можна перачакаць, пакуль угамоніцца ўсё, стане ў сваю каляіну. Раптам яна заўважыла: скончыўся лес — нібы хто адсек яго. Далей пайшоў драбнец — кусты алешыны, лазы, маладыя асінкі, купкі нізкарослых бярэзінак. Замест гразі пад нагамі хлюпала ўжо вада.

Яны павярнулі ўправа, паспрабавалі абмінуць нізіну, але, падалося, ёй і канца-краю не будзе. Усюды, як акінуць вокам, блішчала вада. Сцёпка паглядзеў туды, дзе канчалася драбналессе, паказваючы ў вячэрнім паўзмроку палоску поля, і сказаў:

— А ці пройдзеш?

Яна ступіла да яго, учапілася за рукаво, пастаяла гэтак хвіліну і прыпала галавою да пляча:

— Прайду, Сцёпка. Я магу шчэ...

Ён ведаў, як яна можа. Таму спакойна вызваліўся ад яе рук і стаў заломваць маладыя алешыны, што кусціліся побач. Скінуў на тыя заломы сідар, сказаў:

— Адпачні. А я броду пашукаю.

Ён не толькі броду не знайшоў, а нават больш-менш людскага падыходу да рачулкі. За апошнія дні снегавая вада заліла пойму, і цяпер нават цяжка было вызначыць рэчышча. Толькі ланцуг рэдкіх адзінокіх алешын, што звіваўся пасярод гэтай роўнядзі, нагадваў, дзе можа быць яно. Сцёпка ўзяў правей, праплюхаў яшчэ з паўвярсты, але і там нічога суцяшальнага не ўбачыў — скрозь была тая ж вада. Ісці далей, пад Бялавічы? Ды невядома, ці захаваўся той масток. І зноў жа: чаго перціся ў такую



Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

далячынь, калі вунь ён, Кулінін хутарок, цямнее на пагорку. Трэба толькі адолець гэты разліў. Тут і надзейней. А там нядоўга напароцца на варожы раз'езд. А мо і тут яны шныраць? Прыслухаўся. З шасейкі, што пралягала за Кулініным хутарам, па той бок узвышша, не далятала сюды ніякіх падазроных гукаў. І ён рашыў нідзе не блытацца, перапраўляцца толькі тут. Вярнуўся да Алёны, убачыў, як яна сядзіць на сідары, скурчыўшыся, абхапіўшы рукамі жывот, маленькая, стомленая, і, не вагаючыся, прамовіў:

— Хадзем. Ужэ скора.

Зноў узваліў на сябе сідар, павесіў на шыю аўтамат і на гэты раз пайшоў сам наперадзе, мінаючы куп'ё і кустоўе. Следам плюхала Алёна, моўчкі, пакорліва.

Мінулі драбналессе, выбраліся на прырэчнае балотца, і вада стала трапляць у халявы. Азірнуўся, не так убачыў, як адчуў, што і ў халявах Алёніных кірзачоў поўна вады, спыніўся, зняў з шыі аўтамат, перадаў Алёне і прапанаваў:

— Хадзі на рукі. Табе нельга прастуджвацца!

Яна зірнула на Сцёпку і нібы не зразумела, што ён кажа. А тады падала, як дзіця, рукі, абхапіла яго за шыю, а ён трошкі прыгнуўся, ашчаперыў яе калені і выпрастаўся. Алёна войкнула.

— Пацярпі,— сказаў ён суха.

Яна заціхла. А ён прыўзняў яе трошкі вышэй і, шырока ставячы ногі, паволі рушыў далей. Вада ўжо даходзіла вышэй калена, а рэчышча не было яшчэ. Але вось і той звілісты ланцужок берагавых алешын. Гэта ўзрадавала Сцёпку і напалохала: а як будзе з рэчышчам? Прайшоў трошкі, як адчуваў ён, берагам, намацаў нагамі ў адным месцы пакаты схіл і паволі, дробнымі крокамі, каб не збіла на стрыжні, увайшоў у раку. Вада ледзяніла цела, падбіралася да поясніцы, а ён адчайна сунуўся наперад. Ужо холад хлынуў у рукавы, апёк локці, падпаўзаў пад грудзіну. Думалася: зрабі яшчэ крок і шухнеш у ледзяную прорву з галавою. Быў ужо гатовы да гэтага, ды раптам адчуў: вада пачала як бы спадаць. «Перайшоў! — ледзь не вырвалася з ягоных грудзей.— Адолеў!» І тут, як на той грэх, парвалася правая лямка, сідар стаў гайдацца, замінаць хадзе. Сцёпка вылаяўся, выбраўся на мяльчэйшае, паставіў Алёну на ногі, проста ў ваду, сцягнуў з сябе сідар і цэлаю лямкаю пачапіў на альховы сук. Зноў прыгнуўся, прыўзняў Алёну, заплюхаў да поля.

Полем ішлося не лягчэй, хоць і не замінаў сідар, не ледзяніла сэрца вада. Цяпер увесь цяжар ляжаў на нагах — прыліпалі ўсё адно як да смалы, грузлі, перастаўляць іх было амаль немагчыма. Зноў застагнала Алёна, але ён ужо не супакойваў яе, упарта мясіў зямлю — хутчэй бы туды, на хутар. Нарэшце, праз якую сотню метраў, ногі адчулі цвярдзейшы грунт, а ў вочы з цемнаты кінуліся абрысы пабудоў — хаты, хлеўчука, студні. Ён прыгледзеўся, пазнаў ва ўсім гэтым Кулініну сядзібу, ступіў на падворак, адшукаў позіркам дзверы і з сілаю, якая толькі была ў ім, налёг на іх.

— А хто ета? — пачуўся з печы голас, калі Чыжык уваліўся ў хату.

Сцёпка навобмацак ступіў туды, дзе павінен стаяць драўляны ложак, балюча выцяўся нагою аб дошку, апусціў Алёну на сяннік і сказаў:

— Пасвяці, Куліна!

Вохкаючы, Куліна зашлёпала босымі нагамі па земляной падлозе, зашамацела лучынамі, адсунула ў печы засланку, выграбла трохі вуголля, раздзьмула і, калі кончык лучыны ўспыхнуў, збольшага асвяціўшы хату, здзівілася:

— Чыжык? А ета хто?

Наблізілася да ложка, павяла над ім лучынаю:

— Няўжо дзеўка?

— Дзеўка,— прамовіў Сцёпка.— Ёй дрэнно.

Куліна сунула яму ў рукі лучыну, узялася распранаць Алёну — скідаць боты, ватоўку, кофту. Алёна стрымлівала сябе, у грудзях душыла крык. Яна круцілася на сенніку, кусаючы кулакі, стагнала:

— Не магу болей, Сцёпачко!..

Ён адчуваў: набліжаецца тое, чаго баяўся, чаго палохаўся, чаго чакаў. Не ведаў, чым дапамагчы, што рабіць. Куліна здагадалася пра ўсё, замітусілася па хаце, замахала на Сцёпку рукамі:

— Табе няможно глядзець на ета! Каму кажу: выйдзі!

Ён выскачыў з хаты, ловячы надрыўны Алёнін крык, прыпаў плячамі да вушака, пастаяў, успомніў чамусьці пра той сідар, што недзе вісіць пры рацэ на альховым суку, і незразумелая сіла адштурхнула яго ад сцяны. Сцёпка ўпрыгінкі пабег з падворка.

Мінула паўгадзіны, а мо і болей. Сцёпка гэтак жа, упрыгінкі, уляцеў на падворак, несучы на сабе сідар, але ў хату заходзіць не рашаўся — стаў ля парога, як укопаны. Алёна ўжо не крычала. Слых улавіў толькі незнаёмы і нібы далёкі-далёкі галасок. «Няўжо?» — спахапіўся Сцёпка і, ужо не валодаючы сабою, убег у хату, кінуў на лаву сідар. Зноў пачуўся дзіцячы галасок, і Сцёпка, усё роўна як шукаючы паратунку, крыкнуў:

— Кулі-на-а!..

— Авой-я-ёй! Шчэ і крычыць! — прымірэнча сказала Куліна.— Сына во якога прыняла яму, а ён...

Кінуўся да ложка, упаў перад ім на калені, у паўзмроку пачаў мацаць рукою вакол Алёны. Намацаў ля сцяны скрутак, цёплы, бездапаможны, і нібы апёкся — падхапіўся і ўжо стоячы глядзеў на маленькі, быццам кулачок, тварык, пазіраў у вялікія акругленыя Алёніны вочы і не мог вымавіць слова. Чамусьці падалося, што пры сцяне дагарае лучына і што, калі дагарыць яна, усё знікне, назаўсёды прападуць гэтыя найдаражэйшыя яму істоты. Зрабіў крок да запечка, узяў пук лучыны, выбраў даўжэйшую, прыпаліў, правёў ёю над ложкам, як гэта рабіла нядаўна Куліна, і са здзіўленнем заўважыў: Алёна і яго сынок спалі. «І раджаць, і нараджацца — нялёгка!» — падумаў Сцёпка і стомлена прысеў на край ложка.

З разлезлых ялавых ботаў цякло, ручайкі збягалі з-пад кажушка, па глінянай падлозе распаўзаліся брудныя плямы.

— Даруй, цётко! Так ужэ выйшло,— павініўся ён.

Куліна буркнула з печы:

— Лепей бы падсушыўся, ваяка!

— Мне цяпер нічога не страшно,— баючыся разбудзіць Алёну, прамовіў Сцёпка.— У мяне сын ёсцека!..

І застаўся сядзець, як сядзеў.

Так прабыў ён доўга. Лучына дагарала — прыпальваў новую. Каля ног ужо віднелася ладная гурбачка агаркаў, як заўважыў: пачало брацца на дзень. Невялічкія акенцы Кулінінай хаты нясмела сінелі, абяцаючы надыход раніцы. І Сцёпка быццам апамятаўся, патушыў лучыну, грабануў з лавы кубанку, узяў аўтамат, зноў наблізіўся да ложка, каб развітацца з Алёнай, з сынам, але яны па-ранейшаму спалі — дыхалі спакойна і роўна. І ён не адважыўся будзіць. «Ім цяпер трэба паспаць, добра выспацца»,— падумаў Сцёпка і ступіў да дзвярэй. З печы даляцела прыглушанае:

— Куды ж ты?

Сцёпка спыніўся, памаўчаў і ціха сказаў:

— Назад мне трэбо, цётко...

Узяўся за клямку, падумаў і гэтак жа ціха дадаў:

— А маіх, цётачко, дагледзьце ўжэ... Я вярнуся па іх...

І знік за парогам.

Настылае за ноч паветра агарнула халадком, палезла за каўнер, у рукавы, а потым Сцёпка адчуў, што і суконнае галіфэ, толькі збольшага счарсцвелае за ноч, пачало халадзіць ногі. «Праўда, трэ было абсушыцца,— папракнуў сябе і тут жа махнуў рукою: — Такой бяды! Забавіўся і так. Хлопцы, відаць, ужэ далёко ад лагера. Туды няма чаго нават і перціся. Трэ тэпаць напрасткі ў тыя балаты...» І ён, дабраўшыся да балацінкі, не палез у ваду — пайшоў уздоўж яе. Там, дзе пачыналася кустоўе, прыпыніўся, прыслухаўся, ці не пачуе з-за пагорка рокату машын, якога так баяўся. Не пачуў і, зірнуўшы апошні раз на Кулінін хутар, увайшоў у зараснікі.

...Ужо даўно недзе злева засталіся Бялавічы, той масток перад вёскаю, ужо абмінаў і Бронную Гару, калі нечакана, паблізу паселішча, на прылеснай дарозе, напароўся на немцаў. Іх было пяцёра. Сядзелі на скрынках з-пад мін, побач з грузавіком, і калупаліся фінкамі ў кансервах. Імгненна ў ім ачнуўся той Сцёпка Чыжык, якому ўсё сыходзіла з рук, і ён, не думаючы вельмі, рашыў скарыстаць магчымасць — і тут пакалашмаціць ворага. З кішэні кажушка дастаў «лімонку», адагнуў зубамі вусікі, гэтак жа, зубамі, выцягнуў кольца, крадком, перабягаючы ад дрэва да дрэва, як толькі можна было, наблізіўся да машыны, шпурнуў гранату і тут жа прыпаў да сасны.

Моцны выбух скалануў паветра. Сцёпка, аглушаны, выскачыў з-за дрэва, прабег трошкі, спыніўся, дзе толькі што стаяў грузавік, любуючыся вынікамі свае работы, і аслупянеў: з Броннай Гары імчаў бранявік, аблеплены немцамі. Сцёпка кінуўся назад, але было позна — яго заўважылі, па ім адкрылі шалёны агонь. Віхляючы між дрэў і адстрэльваючыся, ён адыходзіў усё глыбей і глыбей. Адчуваў, што немцы даўно спешыліся, бягуць следам, і рашыў кінуцца ўправа, каб вырвацца з абклада. Ды напаткала новая бяда — скончыліся ў ражку патроны. Здзіраючы на бягу кажушок, але не выпускаючы з рук аўтамата, ён ірвануў напралом і тут жа ўпаў, нібыта падкошаны. Як загнаны звер, ляжаў на мокрай зямлі, і ўся яго істота крычала: «Перабілі ногі! Ногі перабілі...» Чуў, як набліжаліся чужыя галасы, і шкадаваў, што няма яшчэ адной гранаты...

Фота Валянціна ЖДАНОВІЧА.

Маламажэйкаўская абарончая царква.
XVI стагоддзе.
Лідскі раён.

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

ЛІПЕНЬ



СТАРАЖЫТНАЕ ДОЙЛІДСТВА БЕЛАРУСІ

Беларусь

# ЗАЎЖДЫ БУДЗЕ СОНЦА!





☐ Вольга ГАЙДУК (7 гадоў, г. Гродна). Дзяўчынка з птушкамі.

☐ Наталля МІНКЕВІЧ (15 гадоў, г. Мінск). Падарожжа на катамаране.

☐ Вольга ПАЛАЗОК (8 гадоў, г. Ганцавічы). Маміна памочніца.

☐ Святлана ЖУКАВЕНЬ (16 гадоў, г. Мінск). Жар-птушка.

☐ Яўген КАЧЭЎРЫН (16 гадоў, г. Мінск). Шуцік сумуе.

☐ Калектыўная праца гуртка мяккай цацкі Дома піянераў г. Кобрына. Вожычыха.

☐ Вольга ХАРОШАВА (6 гадоў, г. Гомель). Бурая.

З XXX РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ВЫСТАЎКІ ДЗІЦЯЧАЙ ВЫЯЎЛЕНЧАЙ ТВОРЧАСЦІ





# І ВОБРАЗЫ



Напісаць партрэт таямніцы — дзесяткі рознасюжэтных, разнапланавых палотнаў, у кожным з якіх застанецца жыць дзіўны, чароўны водсвет невядомага... І гэта — уся задача, уся мэта? У гэтым — уся адметнасць, непаўторнасць таленту? У наш век? У наш час?

Пытанні перагукаюцца з дзесяткамі іншых, народжаных неразуменнем, ці цікаўнасцю, ці жаданнем прыняць (або не прымаць) убачанае і адчутае ў ім, за ім,— пытанняў не менее з цягам часу, на працягу ўжо добрага дзесятка гадоў, хутчэй наадварот: усё больш пільна ўзіраюцца ў работы Міколы Селешчука аматары жывапісу і мастацтвазнаўцы, калегі-мастакі і журналісты, людзі самых розных узростаў і прафесій, самых розных густаў і схільнасцей. А ён — працуе. Натхнёна. Нястомна. Свабодна мяняючы жанры і тэхнікі, сюжэтную канву і форму. І тое, што раней уяўлялася прыкметамі росту, пошуку, набыло выразнасць манеры, стылю. Выразнасць своеасаблівага бачання — мыслення.

Мы звыкліся з рэальнай, у той ці іншай ступені «люстэркавай» выявай пейзажу і чалавека, чалавечага твару і любой, адухоўленай яго пеглядам рэчы, мы звыкла шукаем у творы мастацтва знаёмыя жыццёвыя рэаліі і незнаёмыя, кожны раз у нечым новыя адносіны да іх мастака — новую эмацыянальную афарбоўку старой, усім вядомай праўды факта, вобліку, характару, краявіду. І з недаўменнем — то асцярожна, то ўстрывожана — азіраемся на іншых (няўжо хтосьці прымае як належнае?), калі раптам сутыкаемся з нечаканым — незнаёмым, не такім, якім па ўсіх мерках павінен быў быць, жывапісам. «Ат, гульні ў арыгінальнасць»,— адмахнецца ад недаўмення адзін, «Што ён хацеў гэтым сказаць?» — пацісне плячамі другі, «Штосьці тут ёсць... павінна быць...» — засумняваецца трэці, «Звычайны ўплыў Захаду!» — абурыцца чацвёрты, «Усё новае — гэта забытае старое,— удакладніць пяты.— І ўсё ж, цікава... цікава...»

Цікава! За творчасцю Міколы Селешчука з цікавасцю сочаць многія. І не толькі таму, што вельмі ярка, адметна вылучаецца ён з кагорты беларускіх мастакоў,— у кожнай яго рабоце, у кожным палатне або графічным лісце вельмі адчувальны, нярэдка балюча агалены — нерв сучаснасці. Менавіта нерв, які нельга ўбачыць, намацаць, назваць,— які можна толькі адчуць. Адчуць часам зусім падсвядома, па «падказцы» той ці іншай асацыяцыі мастака — і адгукнуцца. Непрыязна. Удзячна. Усмешліва. З радасцю. З прыхаваным (гэта мы? гэта наша?) страхам. З абурэннем... Колькі дотыкаў да таямніцы мастацтва — столькі рэакцый.

«Дзяўчына з Палесся», «М. Гусоўскі. З думай пра Радзіму», «Наведванне сядзібы Агінскага», «Мацькі тут не жывуць», «Вярнуліся», «У майстэрні мастака-лялечніка», «Прыналежнасць»... Паспрабуйце пераказаць адну з названых — ці любую! — работу Міколы Селешчука і адразу перакана́ецеся: гэта такая ж няўдзячная праца, як пераказваць прозай паэзію. І не таму што словы (сродкі) у паэзіі іншыя, а таму, што паэтычная вобразнасць патрабуе паэтычнага мыслення — і не толькі ад мастака... Не толькі ад мастака! Вось ключ. Перагартаць кнігу, абабегчы залу чарговай выстаўкі, дзе ўсё знаёма, з першага позірку пазнавальна, і адчуць сябе «далучаным» да мастацтва — адно, другое, зусім іншае — зрабіўшы намаганне, праз пэўнае напружанне дакрануцца прачытанага, убачанага душой. Праз напружанне — пераадольваючы яго! — пераадольваючы адлегласць паміж сабой і мастаком! Гэта няпроста. Нялёгка. Але ж мастацтва — не забаўка, успрыманне мастацтва патрабуе працы душы. Патрэба ў мастацтве, прага спасцігнуць яго — гэта прага ўдасканалення, дасканаласці. Ісціна, як кажуць, старая. І ўсё ж згадваць яе трэба было б часцей: зашмат не толькі безаблічных, а і пазачасавых кніг, графічных лістоў, палотнаў прэтэндуюць на мастацкасць, нават на значнасць, абстаўляючыся падпоркамі традыцый, забываючы, што развіваць традыцыю — гэта таксама традыцыя.

Паслухаць сяго-таго, дык атрымліваецца: ні ў чым ні мы, ні нашы ўяўленні не змяніліся, нічым мы не рознімся не толькі ад сваіх папярэднікаў, але і ад далёкіх продкаў, і, каб захаваць адметнасць (і мастацкую і нацыянальную), трэба, як мінімум, пісаць так, як пісалі раней (тое, што гэта азначае мысліць, як мыслілі раней, адпрэчваецца адразу, загадзя). Падобныя меркаванні, канечне ж, памылковыя. Больш таго: шкодныя. Бо хоць і не могуць спыніць рух, развіццё мастацтва, усё ж нярэдка стрымліваюць яго.

Існуе думка, што мастацтва дадзена нам для таго, каб ураўваць ад праўды (маецца на ўвазе: ад праўды падрабязнасцей). Пры ўсёй спрэчнасці выказвання, міжволі пагаджаешся з ім. Бо хіба тое важна ў мастацкім творы, што ён да малой травінкі, да ледзь прыкметнай зморшчынкі перадае добра вядомае, неаднойчы бачанае ў жыцці? Хіба здымак, злепак рэчаіснасці патрэбен для больш глыбокага яе разумення? Хіба можа ўразіць стандартна агульнае, агульнавядомае, хай сабе і ўціснутае ў раму твора? Не, не. Заўсёды прагнеш убачыць далячыні, бачныя толькі мастаку. Прагнеш адчуць харaство і веліч чалавека (і праз яго — сваё харaство і веліч), адчутыя, перададзеныя на палатне мастаком. Прагнеш знайсці ў таямнічым свячэнні незнаёмага (пры ўсёй рэальнасці і нават пазнавальнасці) свету мастака водбліск уласнай, дагэтуль не разгаданай таямніцы. І таму, калі назіраеш, як наведвальнікі выстаўкі, слізгануўшы спакойным паглядам, абмінаюць дабротныя палотны прызнаных майстроў жывапісу і затрымліваюцца, спыняюцца ля чарговай работы Міколы Селешчука, разумееш, што не толькі іх кідкасць, іх яркая адметнасць спыняе іх. Спыняе нечаканасць — нечакана прамы зварот мастака: а ты бачыш тое, што я, ты разумееш?

«А раптам гэта ўзнікне перад табою?» — пытанне нават у назве адной з яго работ. Пытанне не рытарычнае, бо перад табой — агонь, які паглынае ўсё вакол, падбіраючыся да птушынага гнязда. Здаецца, калі ты не знойдзеш адказу, калі ты адразу не адкажаш — агонь выплюхнецца з рамы, перакінецца на цябе...

Прамы, заўсёды страсны зварот да свайго сучасніка (ён калі нават не прачытваецца, то адчуваецца) якраз і вылучае Міколу Селешчука. Яму мала выказацца, расказаць пра сваю надзею, яму патрэбен водгук, жывы водгук кожнага. Няхай нават праз нязгоду. Няхай нават праз непрыняцце. Непрыняцце, балючае неразуменне — гэта таксама адказ. Часовы, але адказ. І адказ неабыякавы.

Ёсць мастакі, якія ва ўсім, што пішуць, шукаюць не столькі гармонію ці харaство, колькі сябе — свае ўласныя думкі і пакуты, свой уласны лёс і тую глухую дарогу, па якой блукалі іх бяссонныя ночы, пакідаючы выразныя ці невыразныя сляды. Іх вылучаюць шчырасць перажывання і (часта) традыцыйнасць у падыходзе да перадачы, да выказвання яго. А ёсць іншыя. Тыя, кім завалодваюць чары мастацтва, хто гатовы ўсё жыццё разгадваць іх таямніцу, іх таямнічую сілу. Мне здаецца, што з гэтых апошніх і Мікола Селяшчук. Прыгадайце яго графічныя лісты, яго палотны: «У майстэрні мастака-лялечніка», «Анжэла», «Скачок», «Метро», «Стары парк», «Ратамка», «Выхадны дзень» — любую работу! Іх роднiць, іх ніт уе з мастаком і адну з адной сам час, наш імклівы, супярэчлівы час, які яны, здаецца, працяты, напоўнены — так вецер напаўняе прастору, і ў ім трымцяць, рухаюцца, жывуць людзі, рэчы і іх цені.

Карціны Селешчука... Побач з жывым чалавечым тварам, на якім, як на цыферблаце, лёгка чытаюцца мінуты, што выношвалі, выпешчвалі чалавечую душу,— нерухомы, амаль мёртвы пейзаж, які, калі і не прыгнечвае сваёй бязмежнасцю, сваёй незалежнасцю, то адчужае. Побач са старымі магутнымі дрэвамі, што як фантаны зямных сокаў б'юць у неба,— белагрудая мармуровая статуя, дзівосная птушка-казка, лёгкі дзявочы смех. Побач з дзвюма халоднымі (быццам металічнымі) постацямі, раздзеленымі шкляной перагародкай горада,— жывыя, цёплыя ад дотыкаў рукі майстра лялькі. У напружаным скачку спартсмена, які быццам завісае над планкай,— памкненне чалавецтва адолець зямное прыцягненне. Мёртвае, вывернутае нутро разбітай машыны раптам нагадвае разбітую мару, праз сколкі якой прарастаюць бездухоўнасць і жорсткасць. Далягляд набліжаецца і на вачах мяняе сваё аблічча, падымаючы, падняўшы са сваёй глыбіні выяву адухоўленага твару. Прастора, усе прадметы ў ёй пачынаюць рухацца, і з гэтага руху вырастае людскі натоўп, які таксама жыве, рухаецца... Асацыяцыі цясняць, адпрэчваюць адна адну і ўсё ж трымаюць цябе ў сваім палоне, патрабуючы разумення, патрабуючы адказу. І адказаць нялёгка.

Што ж, мы сталі залішне самаўпэўненымі, думаючы — верачы! — што ні ў прыродзе, ні ў навакольным жыцці, ні ў нас саміх няма больш таго (невядомага, незразумелага), чаго б не магла вытлумачыць навука, а калі і ёсць — то і яно будзе, не сёння, дык заўтра, вытлумачана, і трэба толькі пачакаць. І чакаем. Спакойна падлічваем плюсы і мінусы, перавагі і хібы, набыткі і страты. І не адчуваем, што можам страціць усё, што страцім усё, страціўшы непаўторнасць. Непаўторнасць аблічча, пачуцця, духоўнага складу. Таго, што ў кожным асобным выпадку складае таямніцу чалавека, таямніцу асобы. І супрацьстаіць гэтаму толькі мастацтва. Толькі! І найперш — праз тых, хто, скарыўшыся яго чарам, гатовы ўсё жыццё разгадваць яго таямніцу, чароўную сілу. Разгадваць не адно для сябе — для ўсіх, далучаючы іх да свайго пошуку, да сваіх сумненняў і здагадак.

Кажу — пра паэтаў. Не толькі пра паэтаў слова. Пра паэтаў у кіно, у жывапісе — у жыцці! Адзін з іх (і, на маю думку, адзін з самых цікавых) — Мікола Селяшчук.

**Таіса БОНДАР.**



**Малюнкі Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

# ШУМЕЛІ СУРОВА ЛЯСЫ...

**Я. І. Крамко ў час Вялікай Айчыннай вайны быў сакратаром падпольнай камсамольскай арганізацыі ў вёсцы Беражна каля Міра, потым — намеснікам камандзіра партызанскай брыгады «Камсамолец», якая дзейнічала ў раёне Стоўбцаў.**

Івось праз многа гадоў я зноў у роднай вёсцы Беражна над Нёманам. На яго беразе, як і некалі, адзін за адным запальваюцца кастры, ад якіх паволі дымок падымаецца ўгару і, не спяшаючыся, плыве за Нёман, на луг. У тым самым месцы, каля вогнішча, дзе я калісьці варыў маладую бульбу, сабралася моладзь.

Падкінулі на агонь трэсак, ажывілася полымя, і загучалі песні. «Усё, як і раней,— падумаў я.— Толькі песні гучаць па-іншаму, весялей».

Калі жарты і смех сціхлі, адзін з юнакоў папрасіў:

— Дзядзька Яўген! Раскажыце нам што-кольвечы з вашага партызанскага жыцця.

— Ну, што ж, паслухайце, як было тады, на пачатку вайны.

...Абрасіўшыся па калені, мы прайшлі, нарэшце, наднёманскія сенакосы. Па кладцы ў лазовых кустах перайшлі балотную рачулку Ціхую, мінулі папажарышчы на Ціхове, дзе ў маі 1942 года лютавалі карнікі, і, пасля адпачынку на хутары Беразінка, хутка апынуліся за Антанёвам. Ля канавы, пад разгалістым дубам, паставілі ахову, а самі адышліся ў глыбіню лесу метраў на сто і паваліліся пад густыя яліны спаць. Два дні вывучалі нескладаную вайсковую справу. І 27 жніўня 1942 года наша камсамольская група, аб'яднаўшыся з «Міцькаўцамі», выехала на першую дыверсійную аперацыю. Вырашылі знішчыць фашысцкі маёнтак у Красных Горках, які знаходзіцца непадалёку ад чыгуначнай станцыі Гарадзея.

Сонца яшчэ не зайшло, як мы на сялянскіх фурманках накіраваліся з Беражна ў напрамку Гарадзеі. Калі скончыўся Бярштанскі лес, пачало цямнець. У вёсцы Сімакава я забег да Сашы Серафімовіча. Ён паклікаў Федзю Жука, актыўнага члена падпольнай арганізацыі, якая была створана зімой пры нашай дапамозе. Хлопцы добра ведалі гэтую мясцовасць, разам з імі хутка дабраліся да маёнтка.

Налёт быў нечаканы, і ахова ў паніцы ўцякла ў Гарадзею. Без перашкод уз'ехалі на дзядзінец. Камандзір нашай групы Саятэвіч даручыў Качановічу ўзяць пяць партызан, выйсці за маёнтак і назіраць за Гарадзейскім шляхам. Дзенісенка, які камандаваў групай коннікаў, зрабіў засаду на дарозе, што вяла з Міра. Я з групаю партызан пабег да складскіх памяшканняў. Склад з бензінам быў незамкнёны. Сцяпан Бакач адчыніў дзверы. На цэментавай падлозе стаяла некалькі вёдзер і каністраў.

— Набірайце ў вёдры бензін,— загадаў я.

Партызаны запалілі маёнтак. У цемру ночы высока ўзняліся слупы агню. Навокал гуло і трашчала...

Натхнёныя поспехам гэтай дыверсійнай аперацыі, мы на хаду абмеркавалі прапанову нашых сімакаўскіх праваднікоў заехаць яшчэ ў адну фашысцкую сельскую гаспадарку, маёнтак Прасці. Марудзіць нельга было — бралася на золак... Неўзабаве і тут запалалі ўсе гаспадарчыя памяшканні і стагі збажыны.

На ўсходзе святлела, калі мы праязджалі недалёка ад самага буйнога ў нашым раёне варожага гарнізона ў Міры. Калі накіроўваліся на аперацыю, пакідалі сакрэты на нашым магчымым зваротным шляху. Мы ехалі, яны маўчалі, і гэта нас здзівіла. Мы былі ўпэўнены, што з мірскага гарнізона добра бачылі пажары ў Красных Горках і Працёх. Потым выявілася: акупанты не ведалі нашых сіл.



А лес расце!.. Фотаэцюд Віктара МІКАЛАЕВА.

Ісці на адкрыты бой яны баяліся. Таму ноччу выехалі з Міра і зрабілі засаду на пераправе праз Нёман каля Крынічна. Не маючы дастатковага вопыту, мы не маглі прадугледзець засаду, таму ехалі без асцярогі. Толькі выпадковасць выратавала ад вялікіх страт. Два партызаны з групы Чайкіна на некалькі мінут раней прыйшлі на пераправу. Фашысты адкрылі па іх агонь: аднаго забілі, другі, паранены, схаваўся ў лесе. Фашысты абстралялі і першую нашу фурманку, на якой ехалі Андрэй Саятэвіч, Уладзімір Калеснік і яшчэ некалькі чалавек. Партызаны кінулі падводу і, адстрэльваючыся, адпаўзлі ў недалёкі лес. Гітлераўцы зразумелі, што дачасна сябе раскрылі, таму зняліся з засады і паехалі на Рудзьму, затым у Ярэмічы і Мір.

На наступны дзень, яшчэ і снеданне не было згатавана, з'явіліся сувязныя і паведамілі, што акупанты разаслалі па вёсках загад аб мабілізацыі ў паліцыю і на работу ў Германію насельніцтва 1905—1920 гадоў нараджэння. Марудзіць нельга было, і мы вечарам выйшлі з лагера. Групамі разышліся па вёсках Вобрына, Баўцічы, Беражна, Слабодка,Ператокі і многіх іншых. Праводзілі сходы, на якіх заклікалі не выконваць загады акупантаў, ісці з намі біць ворага або хавацца ад мабілізацыі. У партызаны прыйшло многа моладзі. Наша група вырасла больш як на 50 чалавек. Папоўніліся і іншыя партызанскія групы. Планы фашыстаў стварыць з мясцовага насельніцтва вялікія паліцэйскія фарміраванні ў нашым раёне праваліліся... Дзесьці ў пачатку верасня мы сустрэліся з дыверсійнай групай, якая прыляцела ў наш раён з Вялікай зямлі. Камандаваў групай старшы лейтэнант Васіль Іванавіч Бажэнка. Намеснікам па палітычнай частцы быў Васіль Сяргеевіч Самусевіч. Многія з нас яго добра ведалі. Да вайны Самусевіч працаваў у Мірскім райкоме партыі. Для мяне гэтая сустрэча была як сустрэча з родным бацькам, таму што Васіль Сяргеевіч у сакавіку 1940 года даваў мне рэкамендацыю для паступлення ў камсамол.

Гэтая першая дыверсійная група «Масквічы», як мы яе называлі, была ўзброеная аўтаматамі і мела рацыю. Ніколі не забуду таго вераснёўскага вечара, калі мы першы раз слухалі Маскву. Радыст Міхась Чыркоў уключыў рацыю і надзеў навушнікі. Мы сядзелі вакол яго і толькі чулі піск і трэск. Затым начальнік штаба групы Кастусь Апанасевіч прынёс талерку, радыст паклаў на яе навушнікі, і мы пачулі голас дыктара з Масквы. Але доўга слухаць нам не давялося. Калі дыктар скончыў зводку Саўінфармбюро, радыст выключыў рацыю, папрасіў прабачэння і сказаў, што батарэі «ледзь дыхаюць», іх трэба берагчы. Пасля мы часта ўвечары, вольныя ад паходаў, наведвалі «масквічоў», слухалі і запісвалі зводкі з франтоў. У сваім лагеры друкавалі іх на машынцы і развозілі па вёсках Мірскага, Стаўбцоўскага і Карэліцкага раёнаў...

У сярэдзіне верасня мы стварылі самастойны атрад. У ім было дзве роты, у кожнай па два ўзводы, гаспадарчы ўзвод і аддзяленне разведкі. Назвалі яго «Камсамольскі». Арганізацыйнае афармленне атрада садзейнічала таму, што ў ім значна павысілася дысцыпліна і актыўнасць байцоў. У лагеры мы амаль не затрымліваліся: паходы і паходы. З баявых аперацый восені 1942 года найбольш запомніўся разгром варожага апорнага пункта ў вёсцы Сімакава.

Рост партызанскіх атрадаў, актывізацыя іх баявой дзейнасці, нежаданне насельніцтва выконваць загады акупантаў, часцей за ўсё па нарыхтоўцы сельскагаспадарчых прадуктаў, ухіленне моладзі ад работы прымусілі акупацыйныя ўлады рабіць свае захады. Акрамя сістэматычных наездаў карнікаў у вёскі, фашысты павялічылі колькасць сваіх гарнізонаў і пунктаў, якія, па іх разліку, павінны былі стаць пагрозай для партызан і мясцовага насельніцтва. Да гітлераўскіх гарнізонаў у Стоўбцах, Міры і Карэлічах далучыліся тэрмінова створаныя ў Дудках, Старыне, Апечках і Старым Свержані Стаўбцоўскага раёна, Жухавічах, Ярэмічах і Сімакаве Мірскага раёна, у Дзераўной і Налібоках Івянецкага раёна. Гэта была своеасаблівая блакада вялікага лясного масіву, дзе ў асноўным базіраваліся партызанскія атрады Стаўбцоўскай зоны. Апорныя варожыя пункты, хоць і невялікія па колькасці, былі перашкодай у нашай баявой дзейнасці.

Яшчэ да афіцыйнага афармлення атрада нам стала вядома, што ў вёсцы Сімакава фашысты плануюць стварыць гарнізон, які перашкаджаў бы нашым дыверсійным групам прыпыняцца днём у лясным масіве Азяршчына, тым больш, што праз яго праходзіць чыгунка Баранавічы — Мінск. Ісці ўсім атрадам у Сімакава было небяспечна. Параіліся і пайшлі ўчатырох: Валодзя Калеснік, Федзя Жук, Саша Серафімовіч і я. Не дайшоўшы да вёскі паўтара кіламетра, затрымаліся ў невялічкім ляску, які мясцовыя людзі называюць Гаем. Жук і Серафімовіч пайшлі ў вёску разведаць абстаноўку. Доўга іх не было, але нарэшце прыйшоў Федзя Жук і пацвердзіў, што сапраўды ў школе абсталёўваецца «асінае гняздо».

Ноч канчалася, і выканаць заданне — спаліць школьны будынак — мы не маглі. Я прапанаваў перадняваць у ляску. Але гэты Гай Калеснік палічыў ненадзейным, паколькі самая звычайная выпадковасць магла выкрыць нас, а мірская паліцыя была непадалёку. Ісці да бацькоў нашых партызан, Федзі ці Сашы, таксама небяспечна. Іх сем'і і так жывуць у штодзённым страху. Акрамя гэтага, мы не былі ўпэўнены, што нас ніхто не бачыў, нават у вераснёўскую цёмную ноч.

І мы прынялі рызыкоўнае, небяспечнае рашэнне: Федзя Жук і Саша

Серафімовіч уладкоўваюцца дняваць у сваіх, а я з Калеснікам ідзём да солтыса, які, як нам было вядома, карыстаўся даверам у нямецкіх улад. «Хіба ж можа хто падумаць, што ў такога чалавека хаваюцца партызаны?» — разважалі мы. Ужо бралася на золак, калі ціха пастукалі ў акно солтысавай хаты. Сказалі, што мы — партызаны, што наш атрад недалёка ад вёскі, у лесе, прыйшлі ў разведку і будзем дняваць у яго, солтыса. Мы падкрэслілі, што аб гэтым ведаюць у атрадзе і, калі з намі што здарыцца, партызаны будуць лічыць вінаватым толькі солтыса.

У цемры не было відаць твару солтыса, але ён дрыжачым голасам сказаў, што гэта вельмі небяспечна, паколькі раніцай з Міра, напэўна, прыедуць немцы правяраць, як падрыхтавана школа пад пастарунак.

У нас іншага выйсця не было, і мы настаялі на сваёй прапанове. «Ну што ж,— адказаў ён,— тады ідзіце ў гумно на сена». Мы разам выйшлі з хаты, дайшлі да гумна, якое стаяла воддаль на агародзе. Ён адчыніў дзверы і паказаў, як залезці на торп сена. Адыходзячы, спытаў, ці замыкаць нас. Не раячыся, мы дазволілі замкнуць. Праз шчыліну дзвярэй было відаць, як ён таропка пайшоў праз прыгуменне ў хату... На дварэ пачынала развідніваццa.

Калі мы з Валодзем зразумелі сваё становішча, агарнуў страх. У гумне, як у пастцы, апынуліся па ўласнай волі: ні ўцячы, ні адстрэльвацца. Прыйдуць і прапануюць здацца. Вядома, не здамося. Тады запаляць гумно...

Праз сон я пачуў гул машын, якія ехалі ў вёску. Сон — як рукой зняло. Схапілі зброю і зазірнулі ў шчыліну ў сцяне. Дзве машыны, поўныя фашыстаў, затрымаліся каля хаты солтыса. З кабіны выскачыў немец і шпарка пайшоў у хату. Астатнія сядзелі ў кузавах і чакалі. Праз некалькі хвілін ён выйшаў разам з солтысам. Загулі маторы, і машыны паехалі далей па вуліцы.

Мы з палёгкай уздыхнулі.

Як толькі трохі сцямнела, солтыс адчыніў гумно. Агародамі мы абышлі хату і пайшлі туды, дзе нас чакалі Саша Серафімовіч і Федзя Жук.

Параіўшыся, парашылі, што яны застануцца за вёскаю, дзе будуць нас чакаць, а мы з Калеснікам пайшлі да школы. Там сабралі з блізкіх хат людзей і разам з імі нанасілі ў будынак саломы, дошак, сухіх дроў і запалілі. Калі дым паказаўся з акон, мы пайшлі да аднаго здрадніка, які працаваў на акупантаў у Міры. Дома яго не аказалася, мы запрэглі каня і галопам памчалі ў напрамку Беражна.

Але акупанты не адмовіліся ад сваіх намераў зрабіць у Сімакаве свой пункт. Замест школы яны выбралі на ўскрайку вёскі вялікую хату. Вакол зрабілі траншэі, бліндажы, кулямётныя гнёзды.

Мы пачалі рыхтаваць аперацыю, каб знішчыць гэтае фашысцкае гняздо. На разведку паслалі Федзю Жука. Праз некалькі дзён ён прыйшоў у атрад і прынёс усе звесткі аб гэтым гарнізоне. Сілы былі невялікія, але ноччу выбіць іх з умацаванняў нашай зброяй, мы разумелі, нялёгка.

22 верасня ўсім атрадам мы выйшлі на край лесу, адкуль былі відаць сімакаўскія палі. Як толькі сцямнела, увайшлі ў вёску, акружылі памяшканне камендатуры. Першая рота залягла на агародзе. Злева ад нас была група Данілы Шаркевіча, якую мы папрасілі дапамагчы нам у гэтай аперацыі. Другая рота нашага атрада была ў засадзе, каб не дазволіць мірскай паліцыі адрэзаць нам дарогу назад.

Перастрэлка цягнулася каля гадзіны. Злева ад мяне страляў Сцяпан Бакач, побач з ім камандзір узвода Міша Крамко даваў кароткія чэргі з ППД па бункеры. Праз некаторы час з усіх будынкаў вораг быў выбіты. Адстрэльваўся толькі адзін бункер, адтуль білі з кулямётаў і аўтаматаў. Усе мы скіравалі агонь на гэты бункер. Фашысты адчулі небяспеку і, каб забяспечыць сабе дарогу для адыходу, кінулі ў нашым кірунку некалькі гранат. Я таксама шпурнуў гранату. Чакаю выбуху і раптам чую Сцяпанаў голас: «Жэнька, лажыся!» Жоўты бляск ахутаў усё наваколле. Мяне стукнула аб сцяну выбуховай хваляй. У вачах было цёмна, бясконцы звон стаяў у вушах. Побач стагнаў Сцяпан. Я кінуўся да яго. Але ён ужо маўчаў. Я адчуў, што сілы пакідаюць мяне, і таму загадаў:

— Хлопцы, вазьміце Сцяпана. Будзем адыходзіць.

Болю не адчуваў, але нага стала непаслухмянай, і я, кульгаючы, пайшоў па агародзе за вёску. Сюды выйшла ўся рота. Двое партызан дапамаглі ісці і Мішу Крамко, які таксама быў паранены.

Выкарыстаўшы замінку ў нас, гітлераўцы пакінулі некалькі забітых і ўцяклі з Сімакава. Тут больш фашысты не спрабавалі рабіць гарнізон. Цаною аднаго загінуўшага і двух параненых мы забяспечылі сабе добры падыход да цэнтральнай чыгункі Баранавічы — Мінск.

Першая наша партызанская восень! Хіба ж можна забыць яе?

Апусцелі палі, толькі дзе-нідзе стаіць пачарнелы бульбоўнік і зеляненюць градкі кармавых буракоў. А мы з Мішам Крамко сядзім пад мокрым кустом у балоце за Антанёвам, параненыя, глядзім навокал. А там, у кірунку гарнізона ў Турцы, які ад нас за шэсць кіламетраў, чуваць стрэлы.

Так хацелася хутчэй залячыць раны і пайсці адсюль, з гэтага мокрага абрыдлага балота...

Пацягнула ранішняй прахаладай, вогнішча ледзьве дыміла, пачало світаць. Узрушаныя расказам юнакі маўчалі. Мы моўчкі падняліся і пайшлі ў вёску.

**Яўген КРАМКО.**

НЕЗАБЫЎНАЕ

# ТОЙ ЦУДОЎНЫ ЛІПЕНЬ



**Мне пашчасціла працаваць у вёсцы Хоціна, на радзіме легендарнага чалавека, Героя Савецкага Саюза генерал-маёра Л. М. Даватара. Даводзілася многа разоў сустракацца, гутарыць з Львом Міхайлавічам. Добра ведаў яго бацьку, маці, радню.**

**Пра ўсё гэта я і хачу расказаць у гэтым кароткім успаміне чытачам часопіса.**

Хоціна. Невялікая вёска на Віцебшчыне. Тут пакінуў я кавалачак сэрца, тут прайшлі маладыя незабыўныя гады актыўнай, радаснай работы: мацавала свае крылы сацыялістычная Радзіма, маладыя людзі з рабочых, сялян упершыню выходзілі на шырокія прасторы жыцця.

У 1935—1939 гадах я працаваў па камандзіроўцы райкома камсамола дырэктарам і настаўнікам Хоцінскай сямігадовай школы, месца, аддаленага на некалькі кіламетраў ад мястэчак і гарадоў. Не было тады ні аўтобусаў, ні аўтамашын — сотні, а можа, і тысячы кіламетраў былі пройдзены пехатою.

Працуючы ў школе, я прымаў самы непасрэдны ўдзел у грамадскім жыцці сельсавета, раёна. Асабіста ведаў практычна ўсіх жыхароў Хоціна і суседніх вёсак. У тыя гады і давялося мне даволі часта сустракацца з бацькам і маці Льва Міхайлавіча Даватара — Міхаілам Васільевічам і Агаф'яй Кірылаўнай. У нашай школе вучыўся Канстанцін — брат будучага героя, а таксама яго дваюрадныя браты і сёстры.

Міхаіл Васільевіч быў на той час адным з самых паважаных людзей вёскі. Умеў весці гаспадарку. Да яго голасу, мудрай парады прыслухоўваліся аднавяскоўцы. Пасля арганізацыі ў Хоціне калгаса імя В. П. Чкалава ў значнай ступені залежаў ад Даватара-старэйшага, бо ён адзін з першых цвёрда ступіў на шлях калектывізацыі, стаў беспаваротна і назаўсёды надзейнай апорай і абаронцам калгаса. Нярэдка я наведваў Даватараў дома. Шчыра і сардэчна сустракалі гасцей Агаф'я Кірылаўна і Міхаіл Васільевіч. Хоць кварту малака ці нейкага асабліва смачнага квасу павінен быў пакаштаваць, інакш з хаты гаспадары не выпусцяць.

Леў Міхайлавіч той пары знаходзіўся на ваеннай службе, але часта наведваў сваіх бацькоў. Звычайна ён прыязджаў са сваёй сям'ёй — жонкай, дзецьмі. Прыезд камандзіра Чырвонай Арміі ў вёску быў сапраўдным, радасным святам для ўсіх жыхароў. Любоўна сустракалі калгаснікі, настаўнікі, дзеці свайго славутага земляка. Заходзіў камандзір у школу, расказваў малышам аб паходах Чырвонай Арміі, аб героях-воінах, аб іх подзвігах. Старэйшыя ў Хоціне і цяпер помняць прыгожага, ветлівага і вясёлага камандзіра, расказваюць пра яго сваім дзецям.

Стаіць у маёй памяці лета 1938 года. У той год я нікуды не выязджаў, лета праводзіў у Хоціне. У ліпені на радзіму прыехаў і Леў Міхайлавіч. Прыехаў без сям'і. Ён тады вярнуўся з Іспаніі, дзе ішла цяжкая барацьба іспанскіх патрыётаў-рэспубліканцаў з фашызмам.

Мы часта сустракаліся з Львом Міхайлавічам на Хоцінскім возеры. Купаліся, загаралі або каталіся на лодцы. Надвор'е ўвесь месяц стаяла ціхае, цёплае, сонечнае — як па заказу.

Даватар быў чалавекам цікаўным, таварыскім, надзвычай вясёлым, любіў спартыўныя гульні, страсна захапляўся лоўляй рыбы, якой шмат вадзілася тады ў Хоцінскім возеры. А колькі народных прымавак, трапных выразаў ведаў! І наогул, ён быў цудоўны апавядальнік. Слухаць яго было цікава і лёгка.

Шмат расказваў Даватар аб станаўленні Чырвонай Арміі, аб падзеях у Іспаніі, Абісініі, аб сваіх мужных і храбрых таварышах. З надзеяй ён глядзеў у будучае, верыў у непераможнасць рэвалюцыйных ідэй. Заўсёды падкрэсліваў рост аўтарытэту Савецкага Саюза на міжнароднай арэне. І зусім сціпла і мала расказваў Л. М. Даватар пра сябе, пра свае справы і подзвігі.

Леў Міхайлавіч любіў песню. Спяваў сам, слухаў, як спявае моладзь, сабраўшыся вечарам ля чыйго-небудзь двара.

А часам яго можна было ўбачыць сур'ёзным, задумлівым.

Аднойчы я запытаў яго:

— Леў Міхайлавіч, аб чым вы так сур'ёзна думаеце? У водпуску адпачываць трэба.

— Ведаеш, Пятро, трывожна ў свеце. Адчуваю, што наша Радзіма знаходзіцца напярэдадні вялікіх выпрабаванняў. Вось і прыходзіцца задумвацца.

Вялікія і складаныя падзеі чакалі нас, вялікія страты. Пачалася вайна. Адважны камандзір кавалерыстаў Леў Даватар павёў свае эскадроны па тылах праціўніка, знішчаючы і абяззбройваючы ворага. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 21 снежня 1941 года Льву Міхайлавічу Даватару пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Ваяваў і я. З вайны выйшаў інвалідам II групы.

Прайшло столькі гадоў, а мне да драбніц помніцца той праведзены ў Хоціне сонечны, цёплы ліпень!

**Пётр КАРПЕКА.**



Валянціна КОЎТУН

# ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА

За спінаю, натужна скрыпнуўшы спружынай, грукнулі вялікія дзверы пад'езда. З уваходнай пляцоўкі праз метры два ўніз спускаліся прыступкі,— проста да бліскучых, абабітых бляхаю, квадратных дзвярэй падвала. Упоперак іх ішоў прэнт з кручанага жалеза на двух убітых у цагляную сцяну тоўстых прабоях. Злева вісеў вялікі ржавы замок.

Адчувалася, што ў падвал спускаюцца даволі рэдка. І ўсё ж над дзвярамі свяціў запылены жоўты шарык электрычнай лямпачкі.

З гэтай каменнай глыбіні на Алаізу патыхнула холадам і смуродам зацвілай ад сырасці, размяклай атынкоўкі. Павярнулася і ступіла некалькі крокаў управа, дзе ўздоўж гладкай і жоўтай у паўзмроку сцяны дома падымалася нешырокая мармуровая лесвіца. Абаперлася на каваныя ўзорыстыя парэнчы: па чорным метале каля самага нізу рассыпаліся жоўта-рудыя крупінкі ржы.

Нарэшце рашуча пайшла па лесвіцы ўверх. Чамаданчык часам тыкаўся ў сцяну, сцярушваючы на прыступкі мяккую шараватую муку.

Ні на другім, ні на трэцім паверсе патрэбнага нумара не было. Сабіна Ячынаўская здымала пакойчык ажно на пятым.

Змучаная дарогаю, Алаіза мармытала пад нос нейкі просценькі вясковы матыўчык. Пэўна, «ад нэрваў», як заўсёды казала маці...

Сабіна павіснула ў яе на шыі, зазвінела радасна, што і сама прыехала тыдзень назад. Потым, паставіўшы Алаізін чамаданчык пад нешырокі пісьмовы стол перад акном, павяла яе міма чужых дзвярэй па доўгім калідоры, які быў застаўлены скрынкамі, вёдрамі і бочачкамі, завешаны старым палапленым рыззём і вандзэлкамі. Патыхала смажаным салам з падгарэлаю цыбуляю, за нейкімі дзвярамі нудна скімліла дзіця, даносіліся асобныя брыдкія словы сямейнай сваркі.

Сабіна толькі пасмейвалася, як супакойваючы Алаізу, і яшчэ мацней цягнула яе за сабою. У самым канцы калідора, у асобным кутавым памяшканні, размяшчалася агульная душавая. Першае, што кінулася Алаізе ў вочы,— глыбокая пазелянелая мядніца пад металічнаю, з трэшчынкай пасярэдзіне, ракавінаю. Збоку на цвіку вісела некалькі рудых зашмараваных мачалак. У самым закутку для душа, на ўслончыку, стаяла глыбокая конаўка з вадою. Сабіна паклала на яго чысты паласаты ручнік і брусочак жоўтага мыла і, смеючыся, зачыніла за сабою дзверы: «Давай, Лізо! Чысці пёрыйкі! Якраз вада цёплая ёсцека!»

Алаіза мылася нядоўга, але з амаль дзіцячым захапленнем. Быццам кожны раз, калі па яе голым, крыху азяблым целе сплывалі ўніз цёплыя струмені вады і казытлівай пены, з душы тут жа выцякалі ўсе страхі і сумненні, звязаныя з гэтым рызыкоўным прыездам у Пецярбург. Паявілася лёгкасць. І яшчэ тая бадзёрасць, якая ўмомант напоўніла кожны яе рух. Была цяпер задаволеная і сабою, і гэтай сустрэчай з Сабінаю Ячынаўскаю.

Але тут жа ўзяла сябе ў рукі і нібыта апрытомнела, згадаўшы, што цяпер яна ў чужых людзях, у чужым доме.

Выцерлася ручніком і ўздыхнула: так ужо прыкра было ўлазіць у тую самую дарожную сукенку (чамаданчык з новай, светлага колеру, застаўся ў Сабінiным пакоі нераспакаваным). Пашлэпала па слізкай ад мыла плітцы да дзвярэй, дзе на цвіку вісела сукенка. Падняла яе за плечыкі, павярнула туды-сюды, мармытнула пад нос надакучлівы матыўчык. З мокрых расчасаных валасоў казытліва пабеглі непрыемна-колкія халодныя вусікі вады.

Зноў павесіла сукенку на цвік і скруціла валасы на патыліцы ў маленькую куксу. Расслабілася. І тут жа ледзь не паслізнулася: у фанерныя дзверы спачатку гучна пастукалі. («Хай ты затані!»)

— Хто?!

У адказ данеслася вясёлае Сабінiна хіхіканне. («А ні апомнішся тут, ліха!»). Адкінула зашчапку — у шчыліну прачыненых дзвярэй прасунулася рука з летнім стракатым халацікам і самаробнымі палатнянымі тапачкамі.

Сабіна чакала яе за дзвярамі душавой. Тут жа падхапіла пад руку і пацягнула па тым жа доўгім, напакаваным, як вакзальны перон, цёмным калідоры. Праўда, шапнула: «Табе сюрпрыз! Але ніц, не трусіся, ты цяпер файная такая... От!» Гэты «сюрпрыз» павінен быў бы насцярожыць, але, агаломшаная, Алаіза як і не пачула нічога.

Нарэшце Сабіна моцна штурхнула дзверы ў свой пакойчык, увайшла ў яго першаю. Алаіза падняла вочы і міжволі хітнулася назад: каля стала, якраз перад ёю, стаяў незнаёмы хлопец («Гадаўка Сабінка!») — высокі і галаваты, з блакітам насцярожаных, крыху насмешлівых вачэй, у звычайнай, сцягнутай у поясе раменьчыкам, выпаланелай вышыванцы. Прыгожыя цёмныя вусікі.

«Сюрпрызы» працягваліся. Падкраўшыся ззаду, нехта затуліў ёй далонямі вочы і пракрычаў у самае вуха: «А-ну-хто?!» І тут жа сам сабе адказаў, але ўжо непрыемным піскявым галаскам: «Гусак яго вялікасці клоуна Дурава». Вацак!

Ён адразу ж адняў рукі і праз імгненне ўжо стаяў перад Алаізаю — з адкінутай назад моцна выгаралаю («Чыста куль аўсяны!»), ажно сіваватай галавою. Смяяўся, але нягучна, паказваючы буйныя белыя зубы. Маленькі вострьы коўцік на горле пайшоў уніз і задрыжаў.

— От так, цятке!

Яшчэ ў Галавічполі, пачуўшы ад аднаго з яе вучняў: «А цятке настаўніца не дазволе», панёс гэтае «цятке настаўніца» па ўсёй вёсцы. Пасля стаў называць яе проста цёткаю. Прызнацца, чулася ад гэтага вельмі няўручна, асабліва на людзях. Злавалася. («Чакай, язычку...»)

Пасля, адпусціўшыся крыху, жартам стала называць Вацака «малым». А часам і «пляменнічкам». Не пакрыўдзіўся. Толькі коўцік кожны раз уздрыгваў і падаў па шыі ўніз, як трымаючы ўнутры гатовы вырвацца смяшок.

Вацак павярнуўся да незнаёмага, які здаўся цяпер Алаізе значна маладзейшым — у куточках тонкіх вуснаў успыхнула сарамлівая ўсмешка.

— «Археолаг» Янук. Вілянчук, з якім мы сутыкнуліся лбамі ў тамбуры,— Вацак хмыкнуў.— Вось так! Усё астатняе пра сябе ён і сам раскажа. Умее!

«Археолаг» Янук тут жа схіліў галаву набок.

— А знаеш...

(«Любіць у рожкі стаць. Адразу відно. Агга...»).

— ...мне і праўда ёсць што расказаць!

— А ня-не-не-не! Ну што за смяхі такія... Вядома, табе ёсць пра што памянцібь!

«Археолаг» Янук толькі паглядзеў на дзверы. Перахапіўшы ягоны позірк, Алаіза таксама занепакоілася. («І куды гэта Сабінка, гадаўка, стапнела? Як лёд!»)

Нарэшце дзверы адчыніліся.

— Гарбата гатова, панове! Хай счахне трохі.— Сабіна гучна кашлянула і гарэзліва ўсміхнулася.— Слухай, «археолаг»...

— Чаму «археолаг»? — Алаіза не ўпадабала гэтую гуллівую, як ёй здалося, усмешку Сабіны і цяпер перабіла яе даволі рэзка, нават грубавата. Ініцыятыву тут жа перахапіў Вацак:

— Бо любіць дакопвацца, калі і хто гэта святкаваў на нашых касцях!

— Каму гарбаты? — зноў Сабінка.

— Не, людцы! Ніякай гарбаты! — Вацак нечакана рэзка секануў перад сабою вялікай рукою.— Некалі расседжвацца. Паспе-ем!

Янук чамусьці пачырванеў і нават ступіў колькі крокаў да дзвярэй, папраўшы толькі апаяску на вышыванцы. Павярнуўся да Алаізы і даволі нязмушана прапанаваў:

— Калі хочаце, я забягу праз гадзінкі тры,— запнуўся, зірнуў на ходзікі на сцяне.— А шостай. Добра? Паходзім, пагледзімо...

— Ну не! — Вацак нечакана ўзарваўся.— Цябе самога яшчэ трэба за ручку вадзіць! Па Неўскім, знаеш, прамою лініяй! — Засмяяўся, але цяпер ужо нязлосна, прыплюшчыў вочы, нібыта ўяўляючы ўсё, аб чым гаварыў.— Ага, па Неўскім! — крутнуў рукою.— Потым да лаўры... Знаеш, дзе лаўра? — (Янук не паспеў адказаць).— Кацярынінскі сад! Па правай старане... Марская — Казанская — Вялікая Садовая — Троіцкая — Уладзімірскі — Мікалаеўская — Пушкінская — Палтаўская... Ага, прапусціў...

— Публіка, памажэце хто! — Цяпер голас Сабінкі выразна чуўся з кухні, што размяшчалася ў суседнім пакоі.

— Ага, прапусціў! Міліцэйскія лаўкі! Гасціны двор праз Суконную лінію... Царства жыцейскага мамона! Вуліца Пярынная... Не, браце, а шостай тут буду я!

— Вацак! Бадай цябе вар!

Вацак незадаволена, крыху па-блазенску зморшчыўся, шапнуўшы Януку: «Уцякайма!». Нават адчыніў ужо дзверы, але тут жа адступіў назад. Убачыўшы перад сабою Сабіну з чайнікам, відно, разгубіўся, лішне рэзка павярнуўся да Алаізы, перапытаў:

— То я праз тры?

Янук стрымана ўхмыльнуўся. Але болей у правамі не набіваўся, і Алаіза здагадалася, што ён у Пецярбурзе і сапраўды ўпершыню, магчыма, гэтак жа, як і яна, толькі сёлета прыехаў паступаць на вучобу ў які-небудзь інстытут.

Сабіна разліла ў шклянкі на стале гарбату, паставіла чайнік збоку на дзнка. Шклянак было толькі дзве, і Вацак, паказаўшы рукою на дзяўчат (маўляў, частуйцеся самі), зноў рашуча адчыніў дзверы.

— Давідзэння!

— Не-не, чакайце! Янук, вы заўтра куды?

— Што-о? Цётка...

— Ціха, Вацак. У цябе, кудлы, і так галава ўёміста.

Янук, не чакаючы ад Алаізы такога пытання, трохі сумеўся і пацёр сагнутым пальцам кутачак вуснаў. Алаіза міжволі скептычна ўсміхнулася.

— Ды не, што тут! — заўважыўшы гэтую яе ўсмешачку, Янук заспяшаўся, нават падвысіў тон.— Пра што гаварыць?! Ніякіх таямніц. Пойдзем да універсітэту. З братам.

— Афармляцца?

— ...

— То й мяне падграбіце!

Зноў сумеўся, адтапырыўшы над акуратным ротам цёмны вус, але тут жа папраўіўся:

— А што? Разам яно і спраўней.

**110-годдзе выдатнай паэтэсы-рэвалюцыянеркі Алаізы Пашкевіч (Цёткі) — незвычайны юбілей. За ім стаіць цэлая эпоха важнейшых гістарычных падзей, рэвалюцыйнай барацьбы першай чвэрці нашага стагоддзя. І гэта не толькі ўзрушае, але і абавязвае літаратуру глыбей спасцігаць вытокі мінулага і сучаснага нашага народа, смялей зазіраць у дзень заўтрашні.**

**Вобраз Цёткі прыцягвае ўвагу літаратуразнаўцаў, паэтаў, празаікаў. У першай кнізе рамана «Крыж міласэрнасці» я імкнулася ахапіць жыццё Цёткі да 1904 года, вучобу ў Вільні і Пецярбургу, складаны перыяд станаўлення яе светапогляду.**

**Урывак з кнігі прапаную ўвазе чытачоў часопіса «Беларусь».**

**Аўтар.**

— Ну, цятке! — не вытрымаў Вацак і здзіўлена пакруціў галавою.

Хлопцы пайшлі (Сабінка праводзіла іх да самага пад'езда), і Алаіза тут жа расслабілася, узяла гарачую шклянку з гарбатай, адпіла колькі глыткоў і зноў паставіла на стол. Сонна сцягнула з сябе абрыдлы чужы халат. Легла ў Сабінін ложак пад лёгкую казытлівую коўдрачку. Закрыла вочы і ледзь не ўскрыкнула...

З вышыні, з самага, здаецца, неба, павольна гойдаючы вяршалінамі, да яе пачалі нахіляцца вялікія разгалістыя дрэвы з дробненькімі, як мушкі, лісцікамі. Здалося, што вось-вось па вачах шаргануць тоўстыя каструбаватыя сукі. Уздрыгнула ад жаху, але дрэвы ўжо ляцелі некуды ўніз, у нябачную ёй прорву, захопліваючы ў сваё імклівае жудаснае падзенне цэлыя зграі варання і шматы гнёздаў. Потым туды ж паляцелі залатыя шары царкоўных банек з чорнымі крыжамі. І толькі пасля — даўжэзная драбіна нізкіх вакзальных памяшканняў з іржавымі кратамі ў шчылінах акенцаў, некалькі каменных ільвоў з адкрытымі зяпамі і невідушчымі выпучанымі вачамі...

(«Па правай старане... Марская, Казанская... Міліцэнская лаўкі... Царства жыцейскага ма-мо... на-а»)

Цела стала важкім і гарачым. Адчувала, як яна сама зліваецца з гэтым суцэльным патокам яркага лісця і чорных скрыдлаў, імкліва ляціць уніз, чуючы толькі шаргаценне ветру па скронях. І раптам усё гэта прыглухла і знікла, перарванае нейчым незадаволеным голасам.

— ...даклад Саломіна «Ручная праца як сродак аховы гарадскіх дзяцей ад уплыву вуліцы». Сродак аховы!

У паўсне пазнала голас Вацака.

— Бегма бягуць! Разумееш? Але пры чым тут вуліца, калі цябе б'юць па галаве прасам!

— Не трэба яе пускаць з Януком,— (здаецца, Сабіна).

— Чаму?

— Чаму... Не пляці небыліцу! У яе ж проста не возьмуць дакументы. Прыватныя курсы. Гэта што? Як саломы куль!

— Яшчэ можна было б даздаць. Хаця... Хаця хіба ж яна не чытала абвесткі пра ўмовы прыёму?!

Алаіза прымусіла сябе адкрыць вочы: бокам да ложка, абапершыся рукою аб спінку крэсла, стаяў сапраўдны, зусім не прысніны, Вацак. Але цяпер ён выглядаў сапраўдным франтам. З-пад тужуркі віднелася чорная камізэлька і накрухмаленая сарочка пад чорным гальштукам.

(«Дзіўна ўсё ж... Казаў, праз гадзіны тры... Праз цэлыя тры гадзіны!»)

На сцяне спакойна цікалі ходзікі.

(«Няўжо шэсць?»)

— Хацеў звадзіць на Стрэльскую ў «Аляксандраўку»... Аншлаг!

— А! Паспее яшчэ на скорую руку.

За сталом сядзела Сабіна — у вішнёвай кофтачцы з высокім каўнерыкам, завязаным на белыя матузкі. Русыя валасы ў зацемненым пакоі здаваліся амаль чорнымі, вочы блішчалі і ад таго нават пабольшалі.

— А можа, пакінь тут, хай сама пачытае.— Сабіна ўзяла з Вацакавых рук нейкую паперку, паклала на стол.— Знаеш, ты пачакай лепш унізе. Я яе зараз пабуджу.

Алаіза хацела распраміць занямелую спіну, але не магла нават варухнуцца і паказаць, што ўжо даўно не спіць і ўсё чуе.

— Ці, можа, няхай... Экстэрнам.



Малюнак Анатоля **АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

— Ой, не ведаю. Ей рашаць. Але ж кінucца, як галодныя ваўкі на свежую костку. Толькі дайся. З латыні як бач асякуць.

За Вацакам стукнулі дзверы. Сабіна ўзяла са стала пусты чайнік і таксама выйшла. Патупала па калідоры на кухню.

Алаіза раўнадушна паднялася і апранулася. Узяла са стала паперку і падышла да акна, адсунуўшы ўбок крэсла.

«Імператарскі Санкт-Пецярбургскі універсітэт... Набярэжная, 7... канцылярыя, тэлефон 3879... чатыры факультэты, а менавіта: 1) гісторыка-філалагічны...»

Вядома, яна гэта чытала. Але ёсць жа на свеце цуды! З ёй павінен цяпер адбыцца цуд?! Павінен... Ну і што, калі экстэрнам. Няхай і экстэрнам! Іншыя могуць...

«Прымаюцца маладыя людзі, якія закончылі курс класічных гімназій ці роўных ім па курсу вучэбных устаноў, прычым перавага аддаецца тым, хто вучыўся ў пецярбургскіх...»

Класічную гімназію яна не кончыла.

«Аплата за паўгоддзе — 25 рублёў на карысць універсітэта і асобная аплата на карысць выкладчыкаў...»

Для асобнай аплаты на карысць выкладчыкаў таксама ўжо не хапала.

Каля самых дзвярэй пачуліся гучныя крокі Сабіны. Ледзь стрымліваючы ў сабе балючую роспач, таропка паклала аб'яву на ранейшае месца. Але, відно, залішне махнула рукою і аб'ява шарганулася з краю стала і пачала павольна апускацца на падлогу.

Калі нарэшце яны з Вацакам выйшлі з перапоўненай конкі, да Афіцэрскай трэба было яшчэ ісці пеша. Але возчыка не наймалі.

Вацак узяў на сябе ролю экскурсавода, і Алаіза бясконца здзіўлялася непрывычным, але прыгожым пецярбургскім назвам розных масціцкаў, каналаў, тупікоў, пра якія ён расказваў даволі маляўніча.

Праз Калінкін мост... Там Фантанка... Адміралцейскі канал... Пікалаў мост...

У доўгай зале Тэхналагічнага, куды яны нарэшце праціснуліся, па абодва бакі цягнуўся яшчэ і бельэтаж, праўда, на даволі значнай вышыні. Зверху спускаліся тры вялізныя, як у тэатры, ужо запаленыя люстры. («Нашы!» — задаволена хмыкнуў Вацак, што, пэўна, павінна было азначаць: «тэхнолагі»). Амаль усе студэнты былі ў цёмных пінжаках і размахвалі шапкамі з патрэсканымі брылямі,— на цёмным сукне бялелі ўспацелыя пальцы.

— Варта задумацца, чым жа ўзяў нашу публіку гэты няўклюдны «чумазы» пісьменнік?! Зрэшты, ці доўга трэба думаць? А тым, што Горкі, як і любы самабытны талент, не належыць ні да якой літаратурнай групкі! Толькі бяздарнасці могуць успрымацца не паасобку, а ў нейкай сукупнасці, дзякуючы чаму і звяртаюць на сябе ўвагу. Але кожная групка крычыць пра Горкага, як пра свайго, і змагаецца за свае правы на яго!

Алаіза нават не бачыла прамоўцу, а толькі па ягоным звонкім перарывістым ад напружання голасе здагадвалася, што гэта яшчэ вельмі малады чалавек.

Вацак ні на хвіліну не выпускаў яе рукі са сваёй і вёртка прасоўваўся праз шчыльна збіты натоўп. З непрывычкі ледзь не задыхнулася.

— Мінуўся ганебны час цкавання «кухарчыных» дзяцей! Князь Мяшчэрскі ледзь не запырскаў усіх нас слінаю, абараняючы «высакародных»!

Зала згодна зашумела: «Стукае кіем супроць жанчын ва універсітэце...»

— Цяпер ён убачыў ва ўдзеле жанчын у духоўным развіцці нашага грамадства толькі «оргію разбэшчанасці»!

Нарэшце прабіліся наперад яшчэ на некалькі метраў, дзе якраз пачыналіся рады крэслаў. Падтрымліваючы адзін аднаго, на іх стаялі студэнты і курсісткі — амаль усе ў цёмных доўгіх спадніцах і накрухмаленых блузках з карункавымі каўнярамі. Цягнуліся ўверх, стараючыся бачыць яшчэ далей, ловячы кожнае слова прамоўцы.

— Горкі — вораг нашага мяшчанскага жыцця, бо высока трымае сцяг беднага рускага народа, той паднявольнай часткі яго, якая яшчэ не адвыкла ад натуральнага, адзіна прымальнага для ўсіх эпох яднання і адзінства з прыродай!

Убачыўшы знаёмага студэнта, Вацак тузануў яго за крысо пінжака і знакамі паказаў на Алаізу. Той адразу ж, хаця, праўда, даволі нехаця саскочыў уніз, шэптам павітаўся. Нават не зважаючыся, хлопцы лёгка падхапілі Алаізу пад пахі, і праз імгненне яна ўжо стаяла на крэсле, з радасцю адчуўшы спінаю моцны прыток свежага паветра,— зусім блізка было вялікае, насцеж расчыненае акно.

У цэнтры залы таксама стаяла крэсла, на якое падымаўся цёмнатвары, як мадзьяр, кучаравы студэнт, але не ў пінжаку, а ў шырокай карычневай блузе з вялізным белым каўняром. Гэты загаварыў значна цішэй за папярэдняга прамоўцу, і Алаіза напружыла слых.

— ...о-о-о! Дастаткова было начытацца гэтага «чумазага» пісьменніка, як у рускім грамадстве знайшоўся новы ідэал! Пагалоўнае захапленне басяцтвам...

Высокая курсістка недалёка ад прамоўцы весела, крыху какетліва захіхікала, але яе адразу ж абсеклі:

— О-о-о... Ён шчаслівы, наш мілы, сімпатычны басяк! Галодны і абдзёрты, але затое вольна тупае сваёю сцязёю. Шчасце волі!

Зала пачынала ёрзаць. Незадаволенасць слухачоў прарывалася грубымі выкрыкамі: «Блазен! Хай бы сам!», «Зайдзі да Вольфа і вазьмі Пуцакевіча!..», «Нечага біць брава!» Але гэта, здаецца, яшчэ мацней падкруціла спружыну яго красамоўства.

— Навошта басяка дапускаць да нармальнага жыцця?! Ён жа вымра, як мамант, ад аднаго толькі суму! Хіба ў асяроддзі цывілізаванага грамадства могуць існаваць такія простыя паняцці, як шчодрасць, чысціня, шчырасць, радасць і захапленне жыццём?!

Гэты смуглатвары невысокі студэнт у блузе раптам здаўся Алаізе тоўстым, але рухавым жуком, які вось-вось падыме крыльцы і ўзляціць над усім гэтым растрывожаным натоўпам. Аднак прамоўца не здаваўся. Нарэшце адчуў перамену ў настроі слухачоў і пачаў памагаць сабе рэзкімі жэстамі абедзвюх рук, забіраючы залу з'едлівым, іранічным тонам.

— Басяк ніколі не пасцігне самую галоўную таямніцу нашага жыцця. А менавіта самаахвярнае прытворства. Нават самы дробны вінцік, нават самы мізэрны сезоннік,— і той ілжэ, нацягвае на сябе маску самазадаволенасці і блажэнна ўсміхаецца. І гэта ў той час, калі сэрца абліваецца крывёю...

Каля пятага ці шостага (Алаіза ўжо збілася з падліку) прамоўцы стаяла дзяўчына са шклянкаю вады ў руцэ, што спачатку вельмі здзівіла Алаізу.

(«А што? А можа ён хворы...»)

Размова па-ранейшаму круцілася вакол той жа тэмы, пра басяцтва.

— ...І яшчэ разам з усімі нашымі міністрамі, з маскаю поўнага ідыятызму на твары плятакарыць аб канчыне Талстога, не прачытаўшы ніводнай ягонай кніжкі! Басяк не разважае. Басяк — адрынуты. Яшчэ толькі ў пачатку нашага жалезнага веку недалёка ад Нікольскай царквы прадавалі жывога чалавека: Прыгоннага... Падумаць страшна! Але цяпер яго таксама прадаюць. Не толькі каля Нікольскай царквы, а паўсюль! Прадаюць у басякі, прыкрываючы голае цела няшчаснага лахманамі размоў аб натуральнасці яднання чалавека з прыродаю!

Нарэшце асмелілася скасіць позірк. Усе, хто стаяў побач, былі цяпер залішне разгарачаныя, успацелыя, з бліскучымі вачамі. Азірнулася, назіраючы за курсісткамі. Тыя толькі дакраналіся да шчок белымі хусцінкамі і тут жа нервова ўзмахвалі імі перад сабою. Быццам па ўсёй зале разляцеліся маленькія белыя матылькі.

За двума радамі крэслаў каля самай сцяны былі ўжо вузкія сталы, на якіх таксама тоўпіліся студэнты. Смялейшыя ўзабраліся нават на падаконнікі — зала інстытута нагадвала жывы амфітэатр.

«Пётр Франца...», «Лесгафт...», «Прафесар Лесгафт...»

Гэта прашапацела, як агульны выдых, і Алаіза міжволі пасілілася ўспомніць, дзе і калі ўжо чула гэтае імя.

Глядзела цяпер у цэнтр залы, на хударлявага, ужо немаладога чалавека з яркай рыжай шавялюрай.

Лесгафт маўчаў. Маўчаў працягла. Ажно здалося, што ён разгубіўся і не ведае, з чаго пачынаць. І ў гэтай залеглай па ўсіх кутках цішыні вельмі рэзка прагучаў яго кароткі хрыплы кашаль.

Ніхто не адазваўся, не хіхікнуў.

І ўсё ж Лесгафт пачаў неяк нечакана — быццам толькі працягваў ужо сказанае. Спакойна, няспешна, не павышаючы голасу да таго надрыўнага эмацыянальнага тону, які так дзейнічае на слухачоў.

— Калі пан міністр унутраных спраў аддае губернатару ўсю ўладу дзяржаўнага самадурства — неабмежаванасць арыштаў, вобыскаў, ссылак, даводзіцца толькі здзіўляцца ўздыму мастацтва і навукі, якое адбываецца сёння ў нашым грамадстве. Следавацельна так...

«Следавацельна так...» Успомніла! З Верынага пісьма.

— А з другога боку, прырода грамадства, як і ўвогуле прырода існавання, не церпіць пустаты. Усё лепшае, што выграбаецца паліцэйскім самаўладствам з душы народа, асабліва моладзі, павінна інтэнсіўна запаўняцца матэрыяй высокай грамадзянскай якасці. І ў гэтым плане мы, людзі навукі і асветы, не павінны шкадаваць сябе. Як і людзі мастацтва...

«Следавацельна так...»

— Калі грамадства траціць ідэалы, трэба стварыць новыя, але толькі такія, якія б сапраўды павялі да прагрэсу, захапілі ўяўленне людзей сацыяльнымі маштабамі! Іначай пустата запоўніцца ўсёісным паліцэйскім брудам мяшчанства, ілжывымі мроямі, парокамі п'янства і разбэшчанасці.

Алаіза не помніць, калі ўчапілася пальцамі ў рукаво суседа, але той нават не пакратаўся, не адрываючы вачэй ад шчупленькай фігуркі ў цэнтры.

— Апусташаючы душу маладога пакалення і пазбаўляючы яго сапраўдных гістарычных ідэалаў, паліцэйскія мазгі і жываты ніяк не чакалі, што штучна арганізаваная імі пустата пачне імкліва запаўняцца бацыламі барацьбы і нянавісці. Нянавісці да ўсяго, што тармозіць развіццё навукі і культуры. Пошукі ідэалаў прывялі нашу моладзь да рашучага, крывавага, самаахвярнага змагання за сацыяльнае і палітычнае...

Алаіза ўжо спускалася з крэсла на падлогу, ледзь стрымліваючы ў горле камяк нуды,— паветра ў зале ўжо настолькі згусла, што яго цяжка было ўдыхаць. Вацак адразу ж пачаў прабірацца праз натоўп да выхада. Але гэта ўдавалася яму нават цяжэй, чым тады, калі яны прабіраліся да крэслаў гадзіну назад.

І ўсё ж, выходзячы з будынка, Алаіза са шкадаваннем прыцішыла крок,— чула, як з ягонай глыбіні несліся глухія роўныя воплескі.

...Ноччу, улегшыся з Сабінаю на вузкім ложку, яна павярнулася да сцяны і ўдыхнула густы пах свежай пабелкі. Раптам адчула такую пустату і горыч унутры, што ажно прымкнула векі. Зразумела, што ў гэтым чужым, непамерна вялізным горадзе на экзамены экстэрнам у яе не хопіць ні сілы, ні ведаў, ні ўпэўненасці ў сабе. Мара аб універсітэце так жорстка прытупілася даўкім пахам сцяны, што яна даткнулася да яе холаду лбом і заплакала.

Старалася не кратацца, каб не трывожыць Сабіну, але тая, відно, яшчэ не спала і таксама маўкліва знерухомела.

Слёзы не траплялі на вусны, а толькі скочваліся па правай шчацэ на падушку, непрыемна казыталі.

Заснула. Але перад самым забыццём яшчэ раз успомніла паездку ў Тэхналагічны і ўсё, што ёй пры вяртанні расказаў Вацак пра Лесгафта. Мільганула думка, што трэба заўтра ж пацікавіцца ўмовамі прыёму на яго курсы, але цела ўсё болей слабела і выпростваласа.

Калі прыйдзе Янук, яна не зможа... Не зможа...

Нават нараніцы, прачнуўшыся, не здолела адысці ад гаркаты і не стала нікога чакаць.

На Тарговай, каля самага ўваходу ў трохпавярховы, просты з выгляду будынак, дзе размяшчаліся Біялагічная лабараторыя і курсы Лесгафта, стаяла невялікая тумба з аб'явамі. Адна была якраз аб прыёме на курсы выхавацелек і кіраўніц фізічнай адукацыі.

Прачытала:

«Прыём слухачак можа быць толькі на малодшы курс на працягу канікулярнага часу да 15 верасня. Аплата 30 рублёў у год».

Гэта падыходзіла.

«Анатомія, тэорыя рухаў і педагогіка — праф. Лесгафт Пётр Францавіч.

Хімія — Мальчэўскі Павел Людвікавіч.

Фізіялогія, гігіена, чарчэнне, спевы, маляванне, фехтаванне...»

На гэтым фехтаванні ўсміхнулася і паставіла кропку.

Святлана
КАРОБКІНА



Ліст чырвоны палымнее,
Дзе зялёныя былі.
Што мяне ў зіме чакае —
Срэбраныя матылі?..
Хто сагрэе мае рукі,
Каб павольны рух разбіць,
Хто адчуе мае мукі,
Каб заўжды мяне любіць?



Лета да восені
Не адыходзіць,
Буйнымі росамі
Рэкі маладзіць...
Кош мой залатаны,
Счэплены ніткай,
Трапяць зярняты —
Выпырснуць рыбкай...



І суквецці сняжынак
Ссыплю весела з рук,
Неспадзёву іскрынак —
Зноў у полымя мук...
Завяла вось зіміца.
Як ваўчыца са зла,—
Абмінуўшы крыніцу,
Я вады не знайшла...



Думала памру —
Выжыла.
Думала
Згару —
Вынайшла
Возера, дзе лёд
І калужніцы.
Птушка
Над садком маім
Кружыцца...



Апячэ далоні
Церпка крапіва,
Травы спляжаць коні,
Ноч нібы сава...
Але раным-рана
Ды на Янаў дзень
У акенца гляну —
Сонейка ідзе...

# З ПАЗІЦЫЙ АБ'ЕКТЫЎНАСЦІ

Багаты слоўнікавы запас літаратурнай мовы — істотны паказчык яе развітасці, дасканаласці. Зразумела, што ў шэрагу праблем, якія паўстаюць пры даследаванні слова, вельмі важным з'яўляецца ўстанаўленне заканамернасцей развіцця лексічнай сістэмы сучаснай беларускай мовы, шляхоў папаўнення асобных граматычных класаў слоў.

Сярод часцін мовы, якія пастаянна пашыраюцца за кошт наватвораў і запазычаных слоў (што ў сваю чаргу садзейнічае ўзбагачэнню лексічнага складу беларускай мовы, павелічэнню яе стылістычных рэсурсаў), прыкметнае месца займае дзеяслоў. Асноўная крыніца ўзбагачэння дзеяслоўнай сістэмы — адыменнае словаўтварэнне.

Да нядаўняга часу дзеяслоўнае словаўтварэнне заставалася недастаткова вывучаным у беларускім мовазнаўстве. Гэты прабел у значнай меры запаўняе навуковая праца М. Васілеўскага, прысвечаная даследаванню суфіксальнага ўтварэння дзеясловаў ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў у сучаснай беларускай мове [1]. У цэнтры ўвагі вучонага — сем словаўтваральных тыпаў (з суфіксамі -ава- (-ява-), -ствава-, -ірава- (-ырава-), -ізава- (-ызава-), -фікава-, -і- (-ы-), -е- (-э-), у якіх вылучаюцца меншыя семантычныя адзінкі — групы і падгрупы. Аўтар прыводзіць лаканічныя звесткі з гісторыі словаўтваральных суфіксаў дзеяслова, выяўляе спецыфіку іх «работы» ў беларускай мове (у супастаўленні з рускай, украінскай, іншымі славянскімі мовамі), вызначае кампанентны склад даследаваных словаўтваральных тыпаў і, у канчатковым выніку, іх прадуктыўнасць.

Паслядоўна прасочваюцца тыя марфаналагічныя працэсы, якія назіраюцца пры ўтварэнні дзеясловаў ад асноў назоўнікаў і прыметнікаў славянскага і неславянскага паходжання: альтэрнацыя зычных фанем, акцэнтуацыя ў словаўтваральнай пáры, інтэрфіксацыя, чаргаванне карэнных галосных і інш.

Прываблівая і каштоўная якасць даследавання, якую хочацца найперш адзначыць,— багацце прааналізаванага матэрыялу. Грунтуючыся ў асноўным на моўных фактах, характэрных для сучаснага перыяду функцыяніравання беларускай мовы, аўтар нярэдка робіць экскурсы ў гісторыю мовы, мэтазгодна падключае працы айчынных і зарубежных лінгвістаў.

Трывалая фактычная і тэарэтычная аснова даследавання дала магчымасць М. Васілеўскаму зрабіць аб'ектыўныя вывады, у прыватнасці, такі: тыпы адыменных дзеясловаў з названымі вышэй суфіксамі складаюць актыўны, пашыраны пласт лексікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы. У шэрагу выпадкаў даследчыку ўдалося ўдакладніць або нават адхіліць асобныя сцвярджанні мовазнаўцаў, якія прычыніліся да вывучэння дзеяслова (Р. Клюсаў, А. Мезенка), даць больш грунтоўную характарыстыку словаўтваральных тыпаў, што разглядаюцца ў манаграфіі.

Праца М. Васілеўскага мае не толькі тэарэтычнае значэнне, вынікі яе самым непасрэдным чынам выходзяць у моўную практыку. Вось прыклад.

Выявіўшы ў беларускай мове вялікую колькасць дзеясловаў з суфіксам -ава- (-ява-) тыпу адміністраваць, акцэнтаваць і прааналізаваўшы іх, М. Васілеўскі заўважае: «Думаецца, правільна паступілі аўтары Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы, адлюстраваўшы ў ім тэндэнцыю беларускай мовы да абмежавання суфікса -ірава- (-ырава-) і замены яго, дзе можна, суфіксам -ава- (-ява-)». І далей даецца парада: «Пры ўжыванні дзеясловаў на -іраваць трэба карыстацца навейшымі і найбольш поўнымі беларускімі слоўнікамі».

Вырваная з кантэксту даследавання, гэтая парада здаецца крыху дзіўнай: хто ж не ведае таго, што пры неабходнасці трэба глядзець слоўнік... Але за гэтымі словамі — глыбокі сэнс, клопат пра культуру мовы. Справа ў тым, што асобныя мовазнаўцы, педагогі, метадысты, аўтары насуперак акрэсленай тэндэнцыі беларускай мовы, насуперак рэкамендацыям акадэмічных слоўнікаў аддаюць перавагу суфіксу -ірава-, ужываюць яго ў тых словах сучаснай беларускай мовы, дзе нормай лічыцца суфікс -ава- (-ява-). Даследчык не спыняецца на паўдарозе, ён ідзе далей: прапануе своеасаблівае правіла, выводзіць крытэрыі, якія дапамогуць вызначыць, калі ўжываць дзеясловы з суфіксам -ірава- (-ырава-).

У ходзе вырашэння асноўных навуковых задач аўтар манаграфіі не пакідае без увагі і пытанняў больш прыватнага характару. Так, у слоўніках даецца дзеяслоў савецізаваць. Афармлена гэтае слова, на думку М. Васілеўскага, недакладна. Больш падстаў ужываць яго ў беларускай мове з суфіксам -ызава-: саветызаваць.

Аналізуючы дзеяслоўнае словаўтварэнне, даследчык не абмяжоўваецца лексічнымі адзінкамі, зафіксаванымі слоўнікамі, а шырока выкарыстоўвае матэрыял мастацкай і навуковай літаратуры. Гэта значна пашырыла, умацавала базу даследавання.

У кнізе М. Васілеўскага вялікая ўвага аддаецца індывідуальным ужываням беларускіх пісьменнікаў (яны адлюстраваны і ў «Індэксе неалагізмаў»). Абсалютная большасць наватвораў пераканальна сведчыць пра ступень прадуктыўнасці словаўтваральных тыпаў дзеяслова. Аднак трапляюцца і няўдалыя неалагізмы, якія не могуць надзейна служыць мэтам даследавання. Варта ўлічваць і тое, што важкасць агульнанародных слоў і аўтарскіх неалагізмаў не аднолькавая для аналізу.

У манаграфіі строга не акрэслены межы такіх лексічных груп, як неалагізмы, аказіяналізмы і інш. Напрыклад, ужывальныя здаўна ў беларускай мове словы кірмашаваць, стагаваць, гультаіць, паболець, ніжэць, бліжэць і падобныя аднесены да неалагізмаў. Відавочна, што гэтыя словы маюць права на статус узуальных, можа, нават большае, чым некаторыя іншыя зафіксаваныя слоўнікамі дзеясловы (звычайна скалькаваныя і часам ні разу не ўжытыя ў беларускай мове).

Даследаванне М. Васілеўскага — прыкметны крок наперад у распрацоўцы праблем беларускага словаўтварэння.

Алесь КАЎРУС.

[1] Васілеўскі М. С. Дзеяслоўнае словаўтварэнне.— Мн., «Навука і тэхніка», 1985.



# ПЕРАД ВЫБАРАМ

Наўрад ці знойдзецца жанчына, якая б кожны сезон мяняла ўвесь свой гардэроб, падпарадкоўваючыся патрабаванням моды. Тым не менш, яе навінкамі цікавімся мы ўсе і з нецярплівасцю іх чакаем. І нават расчароўваемся і ў глыбіні душы адчуваем сябе падманутымі, калі высвятляецца, што новы сезон не прынёс з сабой нічога новага, не здзівіў наша ўяўленне чарговай «бомбай». Мода апошніх гадоў паслядоўна адвучвае нас ад звыклых адносін да сябе па прынцыпу «прымаць — не прымаць» і дае нам рэдкую магчымасць — **выбіраць**. Стваральнікі моды сцвярджаюць, што сёння мы самі з'яўляемся адзінымі арбітрамі таго, што носім. Сучасная эстэтыка моды пазбягае стварэння стандартнага тыпу жанчыны. Спецыялісты прапануюць нам адно, і другое, і трэцяе, і дзесятае, як бы гаворачы: прыглядзьцеся ўважліва і выберыце самі тое, што найбольш адпавядае вашаму выгляду, манеры апранацца, ладу жыцця і, нарэшце, вашым магчымасцям. Таму ў ніводным з часопісаў мод мы не знойдзем вычарпальнай інфармацыі аб тым, як належыць апранацца сёння. Нас знаёмяць толькі з асноўнымі тэндэнцыямі, якія заклікаiны абуджаць індывідуальную фантазію. Што ж прапануе нам мода лета-86?

**СІЛУЭТ.** Пасля працяглага перыяду вельмі шырокай і аб'ёмнай вопраткі, у якой губляліся абрысы жаночай фігуры, мадэльеры вяртаюцца да плаўных жаноцкіх ліній. Гэта ні ў якім разе не сведчыць аб звароце да вузкай вопраткі. Па-ранейшаму модным застаецца свабодны крой, які драпіруе фігуру, але без утрыраванай аб'ёмнасці і празмернай шырыні. Застаюцца і шырокія акцэнтаваныя плечы, лінія якіх мяккая, акруглая. Даўжыня падпарадкавана функцыянальнасці касцюма. У некаторых строях яна вагаецца ад сярэдзіны калена і ніжэй, у другіх, у першую чаргу маладзёжных, яна можа быць міні- або да калена. Вельмі моднае ў гэтым сезоне кантраснае спалучэнне вузкага з шырокім, дэталей вопраткі рознай даўжыні.

**КОЛЕР.** Колеравая гама надзвычай разнастайная і здзіўляе багаццем фарбаў. Умоўна модныя колеры можна было б падзяліць на чатыры групы. Першая — пад дэвізам «роспіс па фарфору» — аб'ядноўвае колеры ружова-бэзавы, бірузовы, салатны, жоўты, ружова-каралавы, шэра-дымчаты. Другая — пад дэвізам «кераміка» — характарызуецца светлымі, складанымі матавымі колерамі, сугучнымі адценням вырабаў з керамікі. Гэта бэжава-малочны, мяккі аранжавы, бэзава-шэры, жоўта-белы. Трэцяя — дэвіз «габелен» — уключае колеры глыбокіх складаных тонаў, характэрных для афармлення даўніх дэкаратыўных тканін. Гэта залацістa-вохрысты, складаны сіні, зялёны, карычневы, бэжава-ружовы. Чацвёртая група — дэвіз «дысплей» — аб'ядноўвае колеры, даведзеныя да мяжы яркасці: халодны жоўты, ізумрудна-зялёны, аранжавы, ярка-ружовы, ярка-блакітны.

**РАСФАРБОЎКА.** Сярод малюнкаў пераважаюць кветкавыя і раслінныя матывы на чорным, белым і сінім фоне. У модзе застаюцца рознамаштабная клетка і гарох. Вельмі многа яркіх палос на белым фоне (тканіна нібыта расшыта каляровымі стужкамі). Ружы, лілеі і іншыя кветкі — самыя модныя ўзоры на джэрсі. Модныя таксама расфарбоўкі ў афрыканскім стылі (пальмы, тыгры і г. д.). Прапануюцца арыгінальныя камбінацыі ўзораў — у адной мадэлі могуць спалучацца палоска з клеткай, аднатонная тканіна — з каляровай; геаметрычны малюнак добра «ўжываецца» з буйнымі кветкамі. Цікавае спалучэнне па прынцыпу «негатыў-пазітыў» (напрыклад, вялікая блуза ў чорны гарох на белым фоне, а спаднічка або штаны — у белы гарох на чорным фоне і г. д.)

**ТКАНІНЫ.** Перавага аддаецца баваўняным, ільняным тканінам, бавоўне з дабаўкай сінтэтычнага валакна, лёгкаму джэрсі, натуральнаму шоўку, крэпдэшыну, карункам, атласу. Моднае спалучэнне ў адной мадэлі трыкатажу і тэкстылю; карункаў, шоўку і атласу; бавоўны з карункамі; шыфону з баваўнянай тканінай і нават карункаў і трыкатажу.

**СТЫЛІ.** На сённяшні дзень іх вялікае мноства. Аднак побач з разнастайнымі праявамі моднай экстравагантнасці, якая пасуе ў першую чаргу моладзі, мадэльеры ўсё часцей прапагандуюць жаноцка-элегантны стыль, самым папулярным строем якога становіцца касцюм, а таксама камплект са спадніцай або штанамі. Тоны элегантнай вопраткі спакойныя, стрыманыя, з перавагай светлых і цёмных адценняў шэрага, бэжавага, карычневага, а таксама сіняга, чорнага і белага колераў.

Акрамя жаноцка-элегантнага прыкметна вылучаецца спартыўна-элегантны стыль. Зараз яго тыповай дэталлю з'яўляецца кашульны жакет, які замяняе летні жакет або блейзер. Характэрны для гэтага стылю таксама камплекты з кароткімі штанамі, новая сукенка-сафары, «марскія» і «піжамныя» ансамблі. Што датычыць стылю «рэтра», то пасля захаплення модай 20—30-х гадоў настала чарга 50-х, а неўзабаве, відаць, і 60-х. Мода тых гадоў яшчэ ў многіх на памяці і таму, мяркую, не мае патрэбы ў каментарыях.

Многіх, напэўна, прывабіць магчымасць спалучэння ў адным ансамблі элементаў і дэталей розных стыляў, якую прадастаўляе сучасная дэмакратычная мода. Цяпер канкрэтна аб вопратцы.

**ЖАКЕТЫ І ПІНЖАКІ.** Яны па-ранейшаму застаюцца фаварытамі моды. Могуць быць розных відаў, але абавязкова з аб'ёмнымі плячамі. Уплыў мужчынскіх мадэлей ужо амаль не адчуваецца, даўжыня вар'іруецца ад стану да калена. Колеры яркія, пастэльныя, нейтральныя. Модныя элементы — каўняры-шалькі, вялікія накладныя кішэні.

**СПАДНІЦЫ.** Жаноцкія спадніцы, напаўзабытыя, адсунутыя штанамі «ў цень», зноў выйшлі на пярэдні план. Надзвычай модныя спадніцы «сонца» даўжынёй да лытак; вузкія, прамыя спадніцы, якія падкрэсліваюць фігуру, даўжынёй да калена; спадніцы з адной або некалькімі складкамі, з устаўнымі клінамі і шырокім поясам, доўгія; міні-спадніцы 60-х гадоў; спадніцы-штаны.

**ШТАНЫ.** Яны па-ранейшаму займаюць трывалае месца ў гардэробе сучаснай жанчыны. Іх працягваюць насіць, бо яны прываблiваюць разнастайнасцю форм: шырокія штаны, пасаджаныя на пояс, са складкамі, сабранымі каля стану на спіне, з шырокімі манжэтамі ўнізе; вузкія штаны за калена; штаны-клёш у стылі 60-х гадоў; кароткія штаны-шорты са складкамі на спіне і манжэтамі. Па-ранейшаму моднымі застаюцца камбінезоны.

**СУКЕНКІ.** Усё больш уваходзяць у моду, становячыся найпершым жаночым строем. Гэта сукенкі-кашулі, сукенкі-майкі, тунікі, міні-сукенкі 60-х гадоў.

**БЛУЗКІ.** Побач з вялікімі блузамі кашульнага крою модныя блузкі ў так званым неакласічным стылі. Гэта азначае, што аснова іх традыцыйна-класічная, але з прыўнясеннем элементаў новай моды. Няцяжка здагадацца, што гэта будуць расшыраныя плечы і аб'ём. Усе блузкі свабодныя і не прылягаюць да фігуры. Астатнія элементы — па густу і настрою.

Сучасны модны вобраз ствараюць і дапаўненні. Што датычыць галаўных убораў, то гэтым летам перавага аддаецца турбанам і саламяным капялюшыкам, аздобленым стракатымі штучнымі кветкамі або гіпюравай стужкай. Упрыгажэнні — у залежнасці ад вашай фантазіі, вырабленыя з самых разнастайных матэрыялаў: дрэва, скуры, медзі, пазалочанага металу, керамікі, штучных камянёў і жэмчугу. На першым месцы — каралі, зусім кароткія, вакол шыі, або доўгія, амаль да стану. Цікавыя каралі са скуры і металу, кручаных шнуроў або скураных стужак, рознакаляровай тасьмы, звітай у вяровачку або коску.

**СУМКІ.** Летняя мадэлі сумак аформлены ў выглядзе мяккіх торбачак, кошыкаў або тыпу гаспадарчых, упрыгожаны вышыўкай, апплікацыяй, штучнымі кветкамі.

**АБУТАК.** У модзе абутак на паўвысокім або высокім тонкім абцасе, аздоблены рознакаляровай скурай, кнопкамі. Папулярныя таксама шырокія перапляценні, буйныя дэталі (бант, брошка). Спадабаюцца вам і зручныя летнія сандалі на тоўстых платформах, зусім у стылі 50-х гадоў.

Сярод модных дапаўненняў таксама паясы, пальчаткі, гальштукі.

Як бачым, прапаноў і сапраўды надзвычай многа, і гэта абавязкова трэба скарыстаць. Мяняючы, камбінуючы і дапаўняючы элементы нашага адзення, мы адточваем свой густ, удасканальваемся ў састаўленні колеравых спалучэнняў, становімся творцамі свайго аблічча.

**Наталля КУЧЫНСКАЯ.**

**Малюнак Людмілы КАРНЕЕВАЙ.**

## Люстэрка моды





З ЯРКІМІ ФАРБАМІ ЛЕТА ГАРМАНІЧНА СПАЛУЧАЮЦЦА НАСЫЧАНЫЯ КОЛЕРЫ НОВЫХ МАДЭЛЕЙ АДЗЕННЯ БЕЛАРУСКАГА РЭСПУБЛІКАНСКАГА ДОМА МАДЭЛЕЙ.



Фота Віктара ГАНЧАРЭНКІ.

**ГЭТЫ БЛІЗКІ,**

**ГЭТЫ ЗАНАДТА**

**БЛІЗКІ УСХОД...**



# МЫ, НАРОДЫ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ...

Наведаўшы за некалькі месяцаў да сесіі, у лютым 1977 года, шэраг краін Блізкага Усходу, Курт Вальдхайм потым у сваёй справаздачы ААН і ў публічных заявах настойліва падкрэсліваў: блізкаўсходні канфлікт, нягледзячы на некаторыя пазітыўныя зрухі, застаецца адной з самых складаных праблем для міжнароднага супольніцтва, тоіць у сабе пагрозу новай ваеннай канфрантацыі; неабходна любой цаной падтрымліваць дынаміку працэсу перагавораў, выкарыстоўваць усе наяўныя магчымасці, каб садзейнічаць пачатку дыялогу, якія б вялікія ні былі рознагалоссі паміж варагуючымі бакамі.

Такі ж погляд на становішча ў рэгіёне быў выказаны і ў дакладзе Вальдхайма, падрыхтаваным да пачатку сесіі і раздадзеным дэлегатам. Хаця даклад генеральнага сакратара і быў напісаны ў асцярожных, дыпламатычных выразах, у ім, тым не менш, гучала недвухсэнсоўная перасцярога: калі не пачнуцца сур'ёзныя перагаворы, то «...сітуацыя пэўна пагоршыцца, што пацягне за сабой непрадказальныя вынікі не толькі для Блізкага Усходу, але і для ўсяго міжнароднага супольніцтва».

Трывогу генеральнага сакратара ААН адносна абстаноўкі на Блізкім Усходзе падзяляла пераважная большасць форуму. Адпаведная дэкларацыя была прынята міністрамі замежных спраў недалучаных дзяржаў на іх надзвычайнай нарадзе, якая адбылася ў штаб-кватэры ААН 30 верасня. З узаемаўзгодненай заявай па гэтаму пытанню выступілі таксама, 3 кастрычніка, міністры замежных спраў Ісламскай канферэнцыі, якія прыехалі на сесію. На крытычнае становішча ў блізкаўсходнім рэгіёне звярталася ўвага прысутных з трыбуны Асамблеі. Гаворачы аб неабходнасці ліквідацыі ўсіх ваенных ачагоў, А. А. Грамыка зазначыў: «Вядома, што ў першую чаргу гутарка ідзе аб самым небяспечным з іх — аб блізкаўсходнім. Чаму ў гэтым раёне няма трывалага міру? Ды таму, што не ліквідаваны галоўныя прычыны канфлікту. Ізраільскія войскі не выведзены з арабскіх зямель, захопленых у 1967 годзе. Правы арабскага народа Палесціны, уключаючы яго права на самавызначэнне і стварэнне ўласнай дзяржавы, да гэтага часу не гарантавана. Усё гэта значыць, што не забяспечана незалежнае існаванне і бяспека ўсіх народаў і дзяржаў гэтага раёна». «Мы таксама хацелі б выказаць нашу заклапочанасць у сувязі з канфліктам на Блізкім Усходзе,— заяўляў міністр замежных спраў Балівіі.— Адсутнасць урэгулявання ставіць пад пагрозу мір не толькі ў гэтым раёне, але і ва ўсім свеце».

Пачатак у №№ 1—4.

**Дазвольце мне перш за ўсё даць вызначэнне тэрміна «Блізкі Усход». З пункту гледжання геаграфіі гэта няправільнае ўжыванне тэрміна. Раней ім абазначалася тэрыторыя, якая падпадала пад назву Сярэдні Усход. Але па адміністрацыйных меркаваннях і меркаваннях ваенных, звязаных з перамяшчэннем войск, вядомы англійскі генерал Уовэл змяніў гэту назву ў час другой сусветнай вайны, і з таго часу яна захоўваецца... Як жа ахарактарызаваць становішча на Блізкім Усходзе! Для турыстаў я асабліва рэкамендую пакласці ў чамадан цёплае адзенне, таму што вельмі хутка набліжаецца зіма, а халады там суровыя. Дзяржаўным дзеячам і дыпламатам я раю пачакаць і паглядзець, як пойдуць падзеі.**

**З выступлення прадстаўніка Іарданіі на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.**

**Адзін індыйскі дыпламат заўважыў мне аднойчы, што той раён свету, які мы называем Блізкім Усходам, з пункту гледжання яго суайчыннікаў, трэба было б назваць Заходняй Азіяй. Спачатку гэты каламбур мяне некалькі здзівіў. Як усе на Захадзе, я яшчэ ў школе засвоіў, натуральна, назву, прынятую паўсюдна. Ну а калі задумацца, чаму, на самай справе, Блізкі Усход, а не Заходняя Азія! Пытанне здасца недарэчным усім тым, хто па-ранейшаму працягвае лічыць Еўропу цэнтрам планеты, а Захад узорам для пераймання.**

**Курт ВАЛЬДХАЙМ.**

Іарданскі прадстаўнік, назваўшы Блізкі Усход «цяжка хворым чалавекам», гаварыў далей: «Блізкі Усход патрабуе новага духу ачышчэння, адраджэння і абавязацельстваў для таго, каб ён перастаў быць цяжарам для ўсяго свету, якім ён з'яўляецца зараз». «Урок, які свет здабыў з кастрычніцкай вайны 1973 года, што паставіла пад пагрозу канцэпцыю міру, а ўвесь свет — на грань ядзернай вайны, не забыты,— звяртаўся да Асамблеі прадстаўнік Джыбуці.— У святле гэтага незабыўнага ўрока мы афіцыйна заяўляем, што ўсе перагаворы і размовы аб міры ва ўсім свеце застануцца фарсам, пакуль не будзе дасягнуты сапраўдны мір на Блізкім Усходзе».

У радзе выступленняў, натуральна, выкрываліся прычыны, называліся галоўныя віноўнікі блізкаўсходняга крызісу — Ізраіль і яго магутны апякун і старэйшы саюзнік Злучаныя Штаты Амерыкі. Выкрываючы авантурыстычныя дзеянні ізраільскіх «ястрабаў», іх «жорсткі курс» у адносінах да суседзяў, дэлегат Йеменскай Арабскай Рэспублікі тут жа дадаваў: «Адказнасць таксама ляжыць і на Злучаных Штатах, якія ператварылі Ізраіль ва ўзброеную крэпасць». «У нас узнікае пытанне,— працягваў тэму пасол Нігерыі,— ці не стаў Ізраіль пагрозай правам чалавека і ці не ператварыўся ён у краіну, якая выкарыстоўвае амерыканскія ўзбраенне і грошы, а таксама палітычную падтрымку Злучаных Штатаў для значнага павелічэння сваіх памераў, выганяючы з гэтай мэтай цэлыя мільёны людзей з іх родных зямель, што, безумоўна, раздувае канфлікт і нясе бядоты для гэтага раёна свету».

Тут жа — часам у патрабавальным, катэгарычным тоне — ставілася пытанне аб адказнасці ААН у дачыненні да блізкаўсходняга канфлікту, да палітыкі, якую праводзяць Ізраіль і яго імперыялістычныя апекуны. Нагадаўшы аб тым, што ААН заклікана быць гарантам міру, няўхільнага захавання прынцыпаў суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці, дэлегат Мадагаскара пытаўся з абурэннем: «Да якога часу Арганізацыя Аб'яднаных Нацый будзе заставацца паралізаванай вядомымі ўсім падкопамі Ізраіля, які падтрымліваюць некаторыя ўплывовыя дзяржавы-члены?» «Становішча на Блізкім Усходзе прадаўжае кідаць выклік міжнароднаму супольніцтву,— звяртаўся да залы прадстаўнік Бангладэш,— паколькі яно з'яўляецца праверкай аўтарытэту і жыццяздольнасці ААН пры ажыццяўленні ёй галоўнай адказнасці — за захаванне міру і бяспекі ва ўсім свеце. Яшчэ не было ў ААН такога пытання, у якое яна была б так глыбока ўцягнута, як у пытанне, што зараз намі разглядаецца. Ні па якой іншай праблеме ААН не нясе такога цяжкага грузу адказнасці. Ні ў якім іншым пытанні правал не будзе такім дарагім». І далей: «Арганізацыя Аб'яднаных Нацый не можа дазволіць Ізраілю беспакарана кідаць выклік яе аўтарытэту. Адмоўныя вынікі гэтага выкліку для міру на Блізкім Усходзе зусім відавочныя. Аднак пагроза жыццяздольнасці прынцыпаў ААН з'яўляецца далёка ідучай і сур'ёзнай. Не толькі арабам ці палесцінцам кінуты выклік, а і кожнай нацыі свету, паколькі падрываюцца асноўныя прынцыпы міжнароднага супольніцтва».

Заўважу, што словы аб выкліку адной дзяржавы ўсяму супольніцтву нацый і яе галоўнаму органу — ААН не былі перабольшаннем. Гэты выклік праяўляўся ўвачавідкі, самым элементарным чынам у лініі паводзін на сесіі ізраільскай дэлегацыі. Яна, як правіла, катэгарычна ігнаравала палітычную волю большасці, адмаўлялася прыслухацца да голасу сусветнай грамадскасці, узняцца, гаворачы словамі аднаго аўтарытэтнага прамоўцы, «на ступеньку вышэй, прыблізіцца да рэзону». У адказ на слушную крытыку, на цвярозыя, рэалістычныя довады прадстаўнікі Ізраіля абвінавачвалі агульна ААН у неаб'ектыўнасці, а непажаданыя для іх выступ-

ленні называлі абразліва «пустой рыторыкай», «прапагандысцкай вайной супраць Ізраіля» і г. д. Зламысна атаясамліваючы крытыку сіяніцкіх догмаў з антысемітызмам, галоўны ізраільскі прамоўца, пастаянны прадстаўнік Тэль-Авіва пры ААН не, не ды і апеляваў да гэтага свайго ўлюбёнага «козыра»: маўляў, антысемітызм, расісцкая, антысеміцкая філасофія і г. д.

Так, чарговая сесія Генеральнай Асамблеі ААН сведчыла: блізкаўсходні ваенны ачаг з'яўляецца для міжнароднай Арганізацыі своеасаблівым каменем спатыкнення, сур'ёзным выпрабаваннем для яе. Але, з другога боку, высвятлялася адначасова, што яна ў першаважнай сваёй большасці вытрымлівае гэтае выпрабаванне з гонарам, займае прынцыповую, паслядоўную, рэалістычную пазіцыю адносна асноўных абставін і фактараў араба-ізраільскай канфрантацыі. На трыбуну выходзілі прадстаўнікі розных краін, розных рэгіёнаў, кантынентаў, палітычных груповак, але сыходзіліся ў адным: мірнае ўрэгуляванне на Блізкім Усходзе можа быць дасягнута толькі шляхам поўнага вываду ізраільскіх войск з усіх захопленых у 1967 годзе арабскіх тэрыторый, прызнання неад'емных нацыянальных правоў арабскага народа Палесціны, уключаючы яго права на дзяржаўнае самавызначэнне, і забеспячэння гарантый для ўсіх дзяржаў рэгіёна жыць ва ўмовах міру і бяспекі. Вось тры ключавых фактары, «тры кіты»,— гаварылася на Асамблеі,— якія складаюць аснову для ліквідацыі шматгадовага крызісу, усталявання справядлівага і трывалага міру на Блізкім Усходзе.

Асабліва вyразна праяўлялася гэтае маральнае адзінства ААН тады, у прыватнасці, калі ўдзельнікі сесіі ўзнімалі голас у абарону палесцінскіх арабаў, заклапочана, з трывогай гаварылі пра бядотнае становішча гэтага народа, народа-бежанца. Як бы абагульняючы сказанае многімі з высокай трыбуны, дакладчык камітэта па ажыццяўленні неад'емных правоў палесцінскага народа, прадстаўнік Мальты В. Гаучы казаў пры абмеркаванні «Пытання аб Палесціне»: «Кожны з нас — што, магчыма, асабліва важна — нясе сур'ёзную адказнасць перад палесцінскім народам і павінен даць адказ на заклік прадстаўнікоў гэтага народа, з якім яны звярнуліся ў гэтым форуме.

(На XXIX сесіі Генеральная Асамблея ААН прызнала Арганізацыю вызвалення Палесціны ў якасці законнага прадстаўніка народа і прадаставіла ёй у ААН статус наглядальніка. Савет Бяспекі ў сваю чаргу пацвердзіў прызнанне АВП у адпаведнай рэзалюцыі (381) і санкцыяніруе яе ўдзел ва ўсіх сваіх пасяджэннях і дыскусіях па пытаннях аб Блізкім Усходзе.) Імкнучыся дабіцца аднаўлення сваіх законных правоў, яны прыйшлі сюды для таго, каб атрымаць падтрымку і дапамогу ААН... Я хацеў бы яшчэ дадаць,— працягваў прамоўца,— што ні адзін аб'ектыўны назіральнік, ні адзін абаронца правоў чалавека, ні адзін прыхільнік міру не могуць адмаўляць, што становішча, у якім сёння знаходзіцца палесцінскі народ, патрабуе выпраўлення». «Давайце ж,— звяртаўся да Асамблеі Гаучы,— разгледзім простыя, паступовыя і эфектыўныя крокі на шляху прагрэсу. Давайце ж не ўпускаць гістарычнай магчымасці, якая, можа быць, ніколі больш не паўторыцца. Давайце не будзем пав'яlічваць небяспеку новага гвалту і кровапраліцця, новых разбурэнняў і людскіх пакут, якія могуць па свайму размаху выліцца ў велізарныя маштабы, сведкамі чаму мы былі ў мінулым. Таму давайце без усякай двухсэнсавасці, але з яснасцю, перакананасцю і рашучасцю аднадушна заявім аб тым, у чым заключаецца шлях да міру ў гэтым шматпакутным раёне».

На такіх вось высокіх нотах гучала часам на форуме дыскусія, прысвечаная адной з самых набалелых праблем сучаснасці.

Ці заяўлялі ўдзельнікі форуму, у чым заключаецца шлях да міру на Блізкім Усходзе, якімі сродкамі можна вырашыць выбухованебяспечны канфлікт? Заяўлялі, гаварылі, і гаварылі недвухсэнсоўна, пэўна: шлях да справядлівага ўрэгулявання ў раёне ляжыць праз стол перагавораў усіх зацікаўленых бакоў, а дакладней — праз Жэнеўскую мірную канферэнцыю. Швецыя: «Істотна важна, каб як мага хутчэй пачаліся перагаворы аб мірным рашэнні. Палесцінцы павінны атрымаць гарантыі аб удзеле ў гэтых перагаворах». ГДР: «Усё яшчэ не выконваюцца рашэнні Савета Бяспекі, ажыццяўленне якіх уяўляе сабой прадпасылку ўсеабдымнага палітычнага рашэння праблем у гэтым раёне. Мы лічым, што Жэнеўская мірная канферэнцыя па Блізкаму Усходу з'яўляецца кампетэнтным форумам». Непал: «У наяўнасці растучае разуменне таго, што неабходна як мага раней узнавіць работу мірнай канферэнцыі па блізкаўсходняму ўрэгуляванню. Існуе магчымасць узнавіць перагаворы на разумнай аснове, і калі гэта магчымасць не будзе выкарыстана, то існуе сур'ёзная небяспека таго, што становішча будзе яшчэ больш пагаршацца». БССР: «Шлях да вырашэння блізкаўсходняй праблемы ляжыць праз Жэнеўскую мірную канферэнцыю па Блізкаму Усходу, якая, на нашу думку, павінна ўзнавіць сваю работу як мага хутчэй». Арабская Рэспубліка Йемен: «Наша дэлегацыя заклікае ўсе зацікаўленыя бакі дакazaць іх шчырае жаданне склікаць Жэнеўскую мірную канферэнцыю». Венгрыя: «Мы перакананы ў тым, што глабальнае ўрэгуляванне канфлікту можа быць дасягнута толькі ў рамках міжнароднай канферэнцыі, якая павінна адбыцца пры ўдзеле ўсіх зацікаўленых бакоў, уключаючы прадстаўнікоў Арганізацыі вызвалення Палесціны». І гэтак далей.

А ў разгар сесіі, калі агульнапалітычная дыскусія падбіралася ўжо да свайго апагея, адбылася падзея, якая найлепшым чынам адпавядала спадзяванням міралюбівых краін на палітычнае, шляхам перагавораў, вырашэнне блізкаўсходняга крызісу. 1 кастрычніка была абнародавана сумесная савецка-амерыканская заява па Блізкаму Усходу. Заява з'явілася як нельга дарэчы, была, што называецца, «залатым і ў час сказаным словам». У дакуменце падкрэслівалася, што справядлівае і трывалае ўрэгуляванне араба-ізраільскага канфлікту павінна быць усеабдымным, павінна ахопліваць усе зацікаўленыя бакі і ўсе пытанні. «Савецкі і амерыканскі бакі лічаць,— гаварылася ў заяве,— што адзіна правільным і эфектыўным шляхам для забеспячэння кардынальнага рашэння ўсіх аспектаў блізкаўсходняй праблемы ў комплексе з'яўляюцца перагаворы ў рамках спецыяльна склiканай для гэтай мэты Жэнеўскай мірнай канферэнцыі пры ўдзеле ў яе рабоце прадстаўнікоў усіх уцягнутых у канфлікт бакоў, у тым ліку палесцінскага народа, і дагаворна-прававое афармленне дасягнутых на канферэнцыі рашэнняў».

Прытым аўтары сумеснай заявы не толькі вызначалі характар і мэты мірнай канферэнцыі, але і ставілі справу на практычныя рэйкі — выказвалі гатоўнасць спрыяць таму, каб перагаворы пачаліся не пазней снежня 1977 года, г. зн. адразу пасля сесіі Генеральнай Асамблеі. Ці трэба гаварыць, што ўзаемаўзгодненая заява дзвюх вялікіх дзяржаў — сустаршынь Жэнеўскай мірнай канферэнцыі 1973 года, была з задавальненнем сустрэта многімі дэлегацыямі. «Па ўсёй верагоднасці,— гаварыў з трыбуны ААН прадстаўнік Бірмы праз некалькі дзён пасля апублікавання заявы,— перспектывы склікання Жэнеўскай канферэнцыі па Блізкаму Усходу сталі больш выразнымі, чым калі-небудзь. Гэта — тэндэнцыя, якую мы вітаем». Словы «мы вітаем» гучалі і ў прамовах дэлегатаў Аўстрыі, Бутана, Малайзіі, Сенегала і г. д. Як своечасовы і канструктыўны крок ацэньвалі сумесную заяву прадстаўнікі сацыялістычных краін.

Надзею на поспех, на прагрэс падмацоўваў і той станоўчы факт, што сумеснае выступленне дзвюх дзяржаў было ў асноўным прыхільна ўспрынята арабамі (за выключэннем адной-дзвюх краін). Дуаен пастаянных дыпламатычных місій арабскіх краін пры ААН, пасол Саудаўскай Аравіі Барудзі гаварыў: «Мы бачым, што ў адносінах паміж дзвюма галоўнымі дзяржавамі існуе ў пэўнай ступені добрая воля. У іх руках знаходзіцца заўтрашні дзень. Заўтра яны могуць пакласці канец блізкаўсходняму тупіку. Праўда, сіяністы, якія кантралююць у ЗША сродкі масавай інфармацыі, і на гэты раз, як заўсёды, спрабуюць палохаць Савецкім Саюзам. Я асабіста манархіст, мы не камуністы, але мы вось не баімся Савецкага Саюза. Толькі ў гэтай краіне запужваюць кожнага амерыканца савецкай пагрозай». Сумесная заява СССР і ЗША была станоўча сустрэта — яшчэ адзін абнадзейваючы момант — такім непасрэдна зацікаўленым удзельнікам канфлікту, як палесцінцы. «Гэтая сесія Генеральнай Асамблеі,— гаварыў прадстаўнік АВП,— зрабіла вялікія намаганні, накіраваныя на тое, каб выйсці з тупіка і ўрэгуляваць пытанне на справядлівай аснове. Савецка-амерыканскае камюніке ад 1 кастрычніка з'явілася важным паваротным пунктам гэтых палітычных намаганняў, якія мы высока цэнім».

Чытач ведае, як склаўся далейшы лёс важнага савецка-амерыканскага дакумента, які быў закліканы і мог бы, безумоўна, сапраўды стаць «важным паваротным пунктам», адыграць гістарычную ролю ў справе блізкаўсходняга ўрэгулявання. Склаўся не лепшым, а, дакладней сказаць,— найгоршым чынам: ён быў неўзабаве — аб чым гаварылася ў першай частцы кнігі — тарпедаваны тымі ж самымі ЗША і іх блізкаўсходнім партнёрам Ізраілем, бесцырымонна кінуты на алтар палітыкі закулісных змоў і сепаратных здзелак. «Залатому» слову не суджана было здзейсніцца.

Прыгадваю, як гэты перапад успрымаўся ў сценах ААН, як рэзка хіснулася тут амплітуда палітычнага настрою — ад адной крайняй адзнакі да другой, ад полюса са знакам плюс («надзея», «поспех», «крок наперад») да полюса са знакам мінус («расчараванне», «паражэнне», «рух назад»). Ці, калі выкарыстоўваць другую метафару, ад «белага» панядзелка да панядзелка «чорнага». Што я тут маю на ўвазе? Белы, афарбаваны ў аптымістычны тон — гэта той панядзелак, які прыпадаў на 3 кастрычніка — першы працоўны дзень Асамблеі пасля апублікавання сумеснай савецка-амерыканскай заявы (пра яе стала вядома ў суботу). У зале пасяджэння адчуваўся павышаны настрой, назіраліся ажыўлены абмен думкамі, яўна станоўчая рэакцыя на важную навіну. Зусім другі настрой панаваў у той жа зале ў панядзелак 21 лістапада — праз дзень пасля бліцвізіту Садата ў Іерусалім і яго выступлення ў ізраільскім кнесеце. Арабскія дыпламаты былі ў стане шоку, іх справе і іх адзінству быў нанесены нечакана адчувальны ўдар. Разгубленасць і замяшанне заўважаліся ў радах многіх іншых краін, якія ўжо настроіліся на жэнеўскі варыянт блізкаўсходняга ўрэгулявання, прынялі гэты варыянт як самы аптымальны. Нешматлікія ворагі разрадкі і ўдзелу СССР у блізкаўсходніх справах, трэба думаць, ціха радаваліся.

«...І раптам праблема Блізкага Усходу і прычына трагедыі палесцінскага народа,— гаварыў назаўтра ў сваёй усхваляванай прамове прадстаўнік Сірыі,—ператварыліся за апошнія некалькі дзён з трагедыі ў сумесь пацяшальнай трагедыі і трагікамедыі. Раён трагедыі стаў тэатрам абсурду. І людзі больш не ведаюць, плакаць ім ці смяяцца, адчуваць сорам ці жаль, абурэнне ці спачуванне. Пытанне зараз настолькі заблытана, што людзям цяжка правесці грань паміж саюзнікамі і непрыяцелямі, паміж ворагам і сябрам, паміж забойцам і ахвярай. Людзі ва ўсім свеце працягваюць у неўразуменні вочы...»

Намаляваная прамоўцам карціна была ў нейкай меры характэрнай і для атмасферы, што панавала ў тыя лістападаўскія дні сярод значнай часткі форуму. Гэта, апрача ўсяго іншага, праяўлялася ў тым, што некаторыя дазволіўшыя збіць сябе з толку прадстаўнікі не толькі станоўча ацэньвалі сепаратныя дзеянні егіпецкага прэзідэнта, але і выказваліся ў тым сэнсе, што яго візіт — цытую аднаго з прамоўцаў — «паскорыць правядзенне Жэнеўскай мірнай канферэнцыі, актывізуе намаганні для ўрэгулявання блізкаўсходняга канфлікту».

У свой час, а іменна ў 1973 годзе, міжнароднае супольніцтва ўжо было сведкам падобнага лжэўрэгулявання — у абход Жэнеўскай канферэнцыі, шляхам частковых і сепаратных акцый. Быў атрыманы даволі павучальны ўрок. Але калі «да бяды нявопытнасць вядзе», то і вопыт, аказваецца, не страхуе ад бед. Толькі на гэты раз пускалася пад адхон сама ідэя мірных перагавораў.

...Сесія прадаўжалася. У розных залах ААН ішлі дэбаты, прысвечаныя розным аспектам становішча на Блізкім Усходзе. Прымаліся адпаведныя рэзалюцыі — як правіла прынцыповага і прагрэсіўнага зместу. Але што датычыць практычнага боку справы, то тупіковая блізкаўсходняя сітуацыя нагадвала тунель, святла ў канцы якога так і не было відаць.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

АДРАС КАМАНДЗІРОЎКІ — АФГАНІСТАН

# КРЫНІЦЫ КАБУЛА

НАТАТКІ ПРА БЕЛАРУСКІХ УРАЧОЎ-ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТАЎ

### *1. ЛАБІРЫНТЫ ЧАСУ*

Калі чалавек праводзіць у незнаёмым горадзе сваю першую ноч, сон прыходзіць марудна. Заплюшчыш вочы, і адразу ж паўстаюць перад табой падзеі апошніх гадзін, свежыя ўражанні бударажаць нервы.

А тут яшчэ чай, які не толькі дапамагае пераносіць спёку, але і надае бадзёрасці тады, калі бадзёрасць тая зусім не патрэбна.

Чай гэты адрозніваецца ад прывычнага грузінскага. Буйна пакрышаны, ён нагадвае зялёны трубачны тытунь. Аскома ад яго — як ад недаспелага яблыка.

Прызнацца, Маслоўскаму чай не вельмі спадабаўся.

З прысадзістых стэрэакалонак — песня Мулявіна. За акном — гаворка патруля царандоя. Добра знаёмае і незнаёмае зусім.

Вялікі ўсходні горад засынае...

Касеты з запісамі «Песняроў», «Верасоў» урач Маслоўскі вёз сюды на сувеніры. Цяпер яны з сувеніраў ператварыліся ў тое, з чым немагчыма расстацца.

Сяргей Георгіевіч Маслоўскі — кандыдат медыцынскіх навук, асістэнт кафедры мікрабіялогіі Мінскага медінстытута. Цяпер яму трэба будзе чытаць лекцыі ў медінстытуце Кабула. Але гэта яшчэ не ўсё, чым будзе займацца беларускі вучоны.

З 1361 па 1364 год (цяжка прывыкнуць да тутэйшага календара) ён будзе сачыць за чысцінёй вады сталіцы ДРА, арыкаў афганскіх паселішчаў.

А пакуль — першая ноч у акаймаванай каронай гор афганскай сталіцы. І добра знаёмая песня. І раскрытыя чамаданы, якія яшчэ пахнуць дарогай. Чамаданы ляжаць на падлозе ў цэнтры пакоя. Такога незнаёмага ў гэтай вялікай кватэры.

Кватэру яму далі ў мікрараёне недалёка ад цэнтра горада. Тут разам з афганцамі жывуць і савецкія спецыялісты.

Ходзяць у госці адзін да аднаго. Знаёмяцца хутка. Сябруюць.

У яго, праўда, яшчэ няма ў Кабуле сяброў. Яны з'явяцца пазней. Пройдзе час, і Сяргей Георгіевіч стане камандзірам групы самаабароны жылога масіву.

У такія групы запісваюць толькі моцных здароўем мужчын, якія валодаюць зброяй. Яны па чарзе аберагаюць спакой вуліц. Выходзяць на дзяжурствы па загадзя вызначанаму маршруту — зусім як дружыннікі ў Мінску.

Толькі задачы ў іх, вядома, іншыя.

Дарэчы, Маслоўскі так і прывык гаварыць:

— Сёння ў мяне дружына.

На мове дары гэта спачатку гучала дзіўна. Але суседзі прывыклі і цяпер не забываюцца вечарамі нагадаць адзін аднаму менавіта так:

— Пара на дружыну.

Гавораць на дары, гавораць па-руску. Фраза гучыць па-рознаму, а сэнс мае адзін: твая чарга сачыць за парадкам.

Падтрымліваць яго тут — значыць, быць гатовым уступіць у барацьбу. Калі патрэбна, то і ўзброеную.

Нахабнасць і адначасова баязлівасць душманаў дыктуюць ім выбар тактыкі. Не абыходзіцца без выстралаў з-за вугла, без пластыкавых мін-хамелеонаў.

Душманы, або, як іх тут называюць — духі, стараюцца быць нябачнымі, як бацылы, забіваць беспакарана. У першую чаргу — «ворагаў ісламу». А прыезджыя ўрачы, на іх думку, ворагі небяспечныя.

Ці вядома пра гэта ўрачу Маслоўскаму? Вядома. Баіцца ён?

— Укусу шалёнай сабакі трэба баяцца. А ў нашай справе баязлівасць — дрэнны дарадчык. Пакажаш, што спалохаўся,— вораг асмялее. Гэта папершае. А па-другое, толькі панам, якія сядзяць у Лондане і Вашынгтоне, Кабул бачыцца ледзь не прыфрантавым горадам. А ён жа будуецца, адкрывае паліклінікі, клапоціцца пра быт грамадзян, гандлюе...

### *2. БАЦЫЛЫ МІНУЛАГА*

І дзесяць гадоў назад тут рабілі найскладанейшыя аперацыі, прасвечвалі хворых рэнтгенаўскімі прамянямі, выпісвалі рэцэпты, у якіх рэкамендавалі наймоўшыя прэпараты.

Пацыенты маглі разлічваць на самую эфектыўную меддапамогу, калі ў клініку іх прывозіў шыкоўны «мерседэс», а кішэню пінжака крою «бізнесмен» распіраў тоўсты кашалёк. Або чэкавая кніжка.

Колькі было такіх плацежаздольных пацыентаў, можна не ўдакладняць — зразумела, што няшмат. А вось колькі бралі кабульскія дзялкі ад медыцыны за сваю дапамогу — прыгадаць варта.

— Цана сур'ёзнай аперацыі — да пяці тысяч долараў.

Трэба было пабываць у Афганістане да красавіка 1978, каб уявіць, хто тут тады меў такія грошы.

Дзяржаўная сістэма аховы здароўя практычна адсутнічала, і па ўзроўню забеспячэння медыцынскай дапамогай насельніцтва Афганістана займала адно з апошніх месц сярод дзяржаў Сярэдняга Усходу.

Што за гэтым? Факты па сучасных мерках сапраўды жудасныя. З кожнай тысячы нованароджаных 200 памірала. На 25 тысяч жыхароў прыпадаў адзін доктар.

Цяпер аб здрадніцтве і сабатажы.

Пасля Красавіцкай рэвалюцыі пастаўка медыкаментаў і дыягнастычных прэпаратаў з заходніх краін ператварылася ў сапраўдную праблему.

Здагадацца аб прычынах такой дэвальвацыі міласэрнасці няцяжка. Дзялкам і прадстаўнікам пэўных палітычных колаў Захаду не дападобы прыйшліся рэвалюцыйныя парадкі. Да таго ж айчына раптам перастала задавальняць некаторых афганскіх медыкаў — хірургаў, анколагаў, мікрабіёлагаў, тэрапеўтаў.

Калі медыцына становіцца бясплатнай, даступнай для ўсіх — цяжка разлічваць на высокія ганарары, на набыццё багатай вілы і адкрыццё новага рахунку ў банку.

І яны заспяшаліся туды, куды ўказваў доларавы компас нажывы.

Далей ад хворых, якіх шмат і якіх давядзецца лячыць, не разлічваючы на шматтысячныя паднашэнні.

Вось чаму Сяргею Георгіевічу і яго жонцы, педыятру Таццяне Міхайлаўне, разам з іншымі савецкімі медыкамі трэба было спяшацца на дапамогу маладой рэспубліцы.

Як іх чакалі! Успомніце свой уласны стан у чарзе да зубнога ўрача, калі цярпенне выпараецца, нібы лужына на гарачым асфальце.

Сярод іншай незайздроснай спадчыны ад мінулых змрочных дзесяцігоддзяў дзяржаве дасталіся і хваробы. Інфекцыйныя, а таму асабліва небяспечныя.

Урачы Маслоўскія хутка зразумелі: адна справа лячыць чалавека, які добра ведае, што такое выратавальная горыч лякарства, і зусім іншая — знайсці падыход да дзіцяці з агеньчыкамі недаверу і нават страху ў вачах.

Чаму душманы падкладваюць міны ў санітарныя аўтамабілі, вестыбюлі грамадзянскіх шпіталяў? Чаму яны бязлітасныя да дзяцей маладой рэспублікі? Нават да хворых?

Ды таму, што контррэвалюцыя чапляецца за мінулае і спрабуе жорстка расправіцца з будучыняй, да якой імкнецца краіна і яе юныя грамадзяне. Падмануць, запалохаць, забіць дзіця лягчэй, чым дарослага дужага мужчыну.

Забіць або прыгнаць у душманскі лагер. Каб затым падманам, катаваннем, муштрамі зрабіць з падлетка «народнага мсціўца». А такое ворагам рэвалюцыі, хаця і рэдка, але ўдаецца.

Па Цэнтральным тэлебачанні не так даўно быў паказаны рэпартаж аб выніках дыверсіі бандытаў у адным з буйных шпіталяў Кабула.

Дзіцячы ўрач Таццяна Міхайлаўна Маслоўская выйшла з будынка за пяць мінут да выбуху. У яе пачынаўся абедзенны перапынак.

Калі пачула грукат — пабегла назад да клінікі.

— Разбурэнні ёсць, але ахвяр, на шчасце, няма. Абышлося,— расказвала яна вечарам мужу.— А ў цябе на рабоце усё ў парадку?

Пытанне, якое за сямейнай вячэрай у Кабуле гучыць зусім не так, як у Мінску.

### *3. АТРУЧАЛЬНІКІ*

Высока ў гарах устаноўлены вялізныя рэзервуары з вадой. Тысячы кубаметраў яе штодня накіроўваецца адсюль у Кабул.

Водазабеспячэнне сталіцы, вядома, узята пад ахову. Ад бацыл мінулага — душманаў — яго аберагаюць пасты і патрулі. А ад вірусаў, хваробатворных мікробаў — Сяргей Георгіевіч Маслоўскі. Разам са сваімі калегамі.

Дарэчы, урачы не толькі гарантуюць чысціню водаправоднага струменя. Яны вывучаюць ваду. Навошта?

Хімічная формула гэтай вадкасці без колеру і паху агульнавядомая — $H_2O$. Але нават на смак лёгка заўважыць розніцу паміж пітной вадой, напрыклад, Кабула і Масквы. Таму што неаднолькавая ў ёй канцэнтрацыя солей.

Якіх менавіта? Ці сур'ёзны іх уплыў на здароўе людзей? Эх, каб толькі такія экспертызы прымушалі Маслоўскага заседжвацца да ламоты ў скронях за навуковымі прыборамі, тады б усё было амаль як у Мінску. Тыдзень энергічнай дзейнасці, а выхадныя і святы — прыемны адпачынак.

Між іншым, афіцыйных выхадных у яго тут не менш, чым на радзіме. А свят у Афганістане нават больш. Яны розныя — міжнародныя і мясцовыя, рэвалюцыйныя і рэлігійныя. Толькі вось адпачываць на святы і ў выхадныя яму нельга.

У такія дні душманы асабліва лютуюць. І хапаюцца за самую варварскую зброю — ампулы з атрутай і вірусамі, хімічныя гранаты.

За тысячы кіламетраў ад Афганістана выраблявецца ўсё гэта.



**Урачы Маслоўскія пасля вяртання з Афганістана. У Кабуле яны зрабілі сотні аматарскіх фотаздымкаў, але вось уважліва прагледзець іх раней не было часу...**



Рэспубліцы патрэбны медыкаменты — іх Захад пастаўляе мала і неахвотна. Затое атруту душманы атрымліваюць па першаму запатрабаванню ў неабмежаванай колькасці. І нават з інструкцыямі — як і калі лепш атручваць крыніцы, арыкі.

Невядома, колькі ахвяр прыйшлося б на кожную з трохграмовых ампул, калі б не пільнасць байцоў царандоя, атрадаў самаабароны, простых сумленных сялян і гараджан. Калі б не праца ўрачоў-мікрабіёлагаў.

Адабраныя ў арыштаваных бандытаў сродкі масавага знішчэння людзей заўсёды ў прыгожай, элегантнай упакоўцы. Можна прачытаць і адрас, адкуль паходзіць «кішанёвая смерць». А можна і не чытаць — ён вядомы добра.

Пытаюся ў Маслоўскага:

— Вы бачылі палонных душманаў? Размаўлялі з імі?

— Так, я размаўляў з абяззброенымі контррэвалюцыянерамі. І не раз. Трэба сказаць, што пераважная большасць іх — звычайныя рабаўнікі, крымінальнікі. За некалькі долараў яны гатовы стаць катамі. Ім плацяць за злачынствы і дазваляюць браць маёмасць няшчасных ахвяр. Гаспадары патрабуюць ад сваіх наймітаў толькі аднаго: падтрымліваць рэпутацыю «народных мсціўцаў». І пастаўляць з Афганістана — хоць з заткнутым ротам і звязанымі рукамі — новых «курсантаў». Для вядомых цэнтраў падрыхтоўкі душманаў.

Напрыклад, за кожнага дастаўленага ў Пакістан нававбранца верхавод адной з банд Гуль Ака атрымліваў ад кіраўнікоў контррэвалюцыйных арганізацый да 20 тысяч афгані...

Ёсць сярод душманаў і запалоханыя, падманутыя людзі. Гэта — пешкі ў брудной гульні. Вартыя жалю, калі ў палоне. Вельмі небяспечныя — на горных сцяжынках і ў кішлаках з ампулай у брудным кулаку.

### 4. «ВАТАН»

На самае галоўнае багацце дзяржавы — здароўе народа — робяць замах бандыты. Сарваць іх злачынныя планы — такая задача была пастаўлена перад Маслоўскім і яго калегамі.

— Пры дзяржаўнай санітарна-эпідэміялагічнай станцыі трэба было стварыць новую і добра абсталяваную лабараторыю. Яе стварылі. Сёння яна занята рэалізацыяй пастановы Выканаўчага камітэта Савета Міністраў ДРА «Аб узмацненні мерапрыемстваў па барацьбе з заанознымі захворваннямі». Поспехі ёсць. Рашучыя поспехі,— упэўнена дае ацэнку Маслоўскі.

І тут ён гаворыць не як былы супрацоўнік станцыі, а як нядаўні член міжведамаснай камісіі, што распрацоўвала ў Афганістане комплексную праграму «Заанёз — праект» па барацьбе з інфекцыйнымі захворваннямі.

Калі яму, савецкаму ўрачу, было даручана абследаваць дзіцячы дом «Ватан», ён перш-наперш адразу ж пераклаў для сябе:

— «Ватан» — «Радзіма».

А потым падрыхтаваў падарункі дзецям.

Як і ўсюды, яны тут вельмі чуллівыя на ласку, хаця саромеюцца, калі з імі хоча пазнаёміцца дарослы. Перш прыглядаюцца, ці шчырае яно — жаданне пасябраваць у незнаёмага чалавека.

У «Ватане» паўтары тысячы дзяцей-сірот. (Не ўздумайце ўголас вымавіць у гэтым доме слова «душманы». Дзіцячыя твары адразу ж спахмурнеюць, на вачах выступяць слёзы, і вы прачытаеце ў іх нечалавечы боль.)

Многія з малых і падлеткаў бачылі, як бандыты забівалі іх бацькоў. Забівалі кінжалам, куляй... За тое, што тыя пайшлі за рэвалюцыяй.

...Да вучобы школьнікі ставяцца з адказнасцю ўпэўненых у выключнай важнасці сваёй справы людзей. Вучацца пісьменнасці і вучацца калектыўна працаваць.

Урач Маслоўскі знайшоў тут аптэкарскую чысціню. І пакінуў «Ватан» з пераканаднем:

— У гэтай працавітасці і ў гэтай празе да ведаў маленькіх грамадзян краіны — яе будучыня.

### 5. ПЫТАННІ НЕ ПА ПРАДМЕТУ

Душманы ўсімі сродкамі імкнуцца адбіць у моладзі ахвоту да адукацыі. Некаторых студэнтаў з тых, што запоўнілі цяпер аўдыторыю Кабульскага медінстытута імя Абу Алі ібн Сіны, таксама папярэджвалі:

— Захочаш быць вельмі разумным — памрэш.

Так, гэтых будучых медыкаў спрабавалі запалохаць. Бо іх выкладчык — савецкі вучоны! Ён заняты ўкараненнем новых метадаў дыягностыкі, ахова чысціні вод, піша артыкулы, выступае на навукова-практычных канферэнцыях. І чытае лекцыі, пасля якіх дазваляе задаваць пытанні не па прадмету. Звычайна аб жыцці ў Савецкім Саюзе.

Як яны імкнуцца ведаць праўду! Вы б паслухалі гэтыя пытанні! Асабліва першакурснікаў.

— Справа ў тым, што заходнія спецслужбы распаўсюджваюць пра нас самыя неверагодныя небыліцы,— гаворыць Маслоўскі.— Сцышчаць накіп хітрага падману — усё роўна, што прамываць рану сябра, якая крававіць. Тут трэба і спачуванне мець і сабой добра валодаць. Ідэалагічныя дыверсіі не менш небяспечныя, чым дыверсіі ў прывычным для нас, мікрабіёлагаў, разуменні гэтага слова. Таму што такая інфекцыя вылечваецца не вакцынай і не за некалькі дзён.

Вядома, у Афганістане будзе — і хутка будзе — дастаткова нацыянальных кадраў, у тым ліку і медыцынскіх. Больш як 400 будучых урачоў маладой рэспублікі не забудуцца на ўрокі свайго выкладчыка ў інстытуце і настаўніка ў жыцці — Сяргея Георгіевіча Маслоўскага.

### 6. АРТЫКУЛЫ І ЛІСТОЎКІ

З першых жа месяцаў рэвалюцыі навука ў ДРА стала развівацца як ніколі хутка. Сімпозіумы, канферэнцыі, новыя фундаментальныя працы — і ўсё гэта ў Кабуле. Той самай сталіцы, дзе імперыялізм вельмі хацеў бы бачыць голад, запусценне, разбурэнні, смерць.

Аўтару некалькіх навуковых прац Маслоўскаму пазванілі з рэдакцыі кабульскай газеты «Праўда Красавіцкай рэвалюцыі». І прапанавалі:

— Вы можаце дапамагчы нашым чытачам сваімі ведамі? Калі згодны, прыязджайце — пагутарым.

Калі ўрачу кажуць «патрэбна дапамога» — ён не прымушае сябе чакаць.

На гэты раз размова ішла не аб тым, як вылечыць, а аб тым, як папярэдзіць захворванні. Яму прапанавалі займацца санітарна-прапагандысцкай работай.

— Вы ведаеце дары, з'яўляецеся спецыялістам у галіне гігіены. Дык чаму б вам не дапамагчы журналістам рэдагаваць газетныя матэрыялы, якія тычацца ахова здароўя? Справа вельмі важная.

Сёння з кабульскіх друкарань развозяцца раніцай і ўвечары тысячы экземпляраў газет. Яны хутка знаходзяць свайго чытача.

Яшчэ ў канцы 70-х асноўнае месца ў іх адводзілася пад аб'явы гандляроў і крыклівую рэкламу. Паведамляліся цэны на буйнейшых базарах, друкавалася так званая «свецкая хроніка». Самі, селянін добра ўяўляў, колькі каштуюць недаступныя яму «таёта» ці кругасветнае падарожжа, і не разумеў, навошта мыць свежы ўрук кіпячонай вадой.

Перамагла рэвалюцыя, і сам час запатрабаваў новых рубрык.

Напісаныя Маслоўскім артыкулы аб прафілактыцы кішачных, скурных і іншых захворванняў прыцягнулі да сябе ўвагу чытачоў, выклікалі хвалю пісьмаў у рэдакцыю.

А яшчэ — галоўным чынам для малапісьменных — Маслоўскі рэдагаваў і дапамагаў мастакам ствараць плакаты, лістоўкі, шчодра дзелячыся сваімі ведамі.

Не выключана, што калі-небудзь асобныя іх экземпляры апынуцца ў музеі рэвалюцыі.

### 7. ЗЯМЛЯ Ў ІЛЮМІНАТАРЫ

Апошняя перад дарогай у Мінск кабульская ноч. Пануе той самы настрой, які называюць чамаданным.

Ён ужо развітаўся з сябрамі, сабраў рэчы.

Сітуацыя добра знаёмая кожнаму, хто вяртаўся з доўгатэрміновых камандзіровак.

Цяпер Маслоўскі нібы загадвае сабе:

— Уставаць рана. Спаць, спаць, спаць трэба.

...Сон быў кароткім, але асвяжыў выдатна. А можа, проста чаканне сустрэчы з любімым горадам на Свіслачы ўсхвалявала, надало бадзёрасці. Можа быць.

Ёсць магчымасць дагледзець сны ў самалёце.

Аднак і ў лайнеры ён не звядзе вочы. Будзе думаць аб тым, што папрацаваў нядрэнна і самому сабе можна, не выхваляючыся, сказаць: паспеў зрабіць многае.

Ён будзе думаць аб тым, што, відаць, не адразу пазбавіцца ад многіх, набытых тут звычак. Напрыклад, уважліва аглядаць аўтамабіль перш, чым сесці ў яго, або — піць толькі зялёны чай.

І яшчэ будзе глядзець у ілюмінатар і спадзявацца, што заўжды чыстымі застануцца крыніцы, якія даюць жыццё афганскай зямлі.

□ □ □

За паспяховую плённую дзейнасць С. Г. Маслоўскі прадстаўлен да знака «Выдатнік аховы здароўя».

**Валерый ЛАПІН.**
**Фота Віктара ГАНЧАРЭНКІ.**
**Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

ЧЫТАЧ —  ЧЫТАЧУ

# СЛУЖБА ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

**Грамадскі аддзел «Узаемадапамога» працягвае сваю работу!**

**Пільная патрэба ў размове з чалавекам, які б зразумеў вас не тое што з паўслова — з першага погляду, шчырае імкненне дапамагчы або самому па першым закліку атрымаць дапамогу ад людзей хоць і незнаёмых, але надзеленых тонкімі душэўнымі якасцямі — гэтыя і іншыя прычыны могуць паслужыць падставай для таго, каб звярнуцца з аб'явай у створаны пры рэдакцыі нашага часопіса грамадскі аддзел «Узаемадапамога». Калі нейкія са змешчаных тут радкоў прымусяць вас звярнуць на іх увагу і вы захочаце адгукнуцца, просім у лістах да нас абавязкова пазначаць індэкс (лічба ў дужках) той аб'явы, якая вас зацікавіла. Гэта будзе спрыяць больш эфектыўнай арганізацыі ўзаемадапамогі, дазволіць нам у кароткі тэрмін звязаць вас з патрэбным чалавекам.**

**Аб'явы ў аддзел «Узаемадапамога» прымаюцца бясплатна.**

## З МАТЭРЫЯЛУ ЗАКАЗЧЫКА

Закончыла курсы кройкі і шыцця. Шмат чаму, вядома, я навучылася, але навыкі трэба ўдасканальваць. Тым больш, што я не надта ўпэўнена ў сваім уменні добра шыць. Вось чаму гатова бясплатна пашыць з матэрыялу заказчыка сукенку ці штаны. (22)

Фота Ільі МАГІЛЯНСКАГА (Мінск).



## ШУКАЮ «СМАЧНЫЯ ЛЕКІ»

Урачы парэкамендавалі мне сярод іншых лекаў лапуховы мёд. Прычым мёд павінен быць высокай якасці. Хадзіў некалькі разоў на рынак, але лапуховага мёду не бачыў.

У рэспубліцы многа пчаляроў. Няўжо ніхто з іх не мае такіх салодкіх «смачных лекаў»? (21)

## ХАЧУ ПАЧАЦЬ СПАЧАТКУ

Здарылася так, што мяне пакінуў муж. Мы скасавалі шлюб год назад.

Маю траіх дзяцей, ёсць чатырохпакаёвая кааператыўная кватэра ў Мінску, працую прадаўцом у гародніннам магазіне.

Хацелася б сустрэць добрага айчыма сваім дзецям і пачаць сямейнае жыццё спачатку. (20)

## ПАМЯНЯЕМСЯ КВАТЭРАМІ

Наша сям'я жыве ў Ленінградзе.

У жніўні ў нас адпачынак. Хочам адпачыць у Мінску. З'явілася такая ідэя: калі хто-небудзь з мінчан хоча правесці водпуск у Ленінградзе, то мы зможам на гэты перыяд памяняцца кватэрамі. (23)

## СТАРАДАЎНЯЕ СТАЛЯРСКАЕ НАЧЫННЕ

Збіраю сталярскі інструмент майстроў XIX стагоддзя. Я — патомны сталяр. У мяне ўжо каля 100 такіх рубанкаў, фуганкаў, піл... Тым не менш гэту калекцыю хацеў бы пашырыць. Таму з задавальненнем куплю старыя (нават у дрэнным стане) інструменты. (13)

## ПАКУЛЬ ДЗІЦЯ СПІЦЬ

Нядаўна я выйшла на пенсію. Хацела б стаць нянькай для дзіцяці ад аднаго года да пяці гадоў. Але ў мяне ёсць умова: каб у бацькоў малога была добрая бібліятэка. Пакуль дзіця спіць, я магла б чытаць. (14)

## НАПЯРЭДАДНІ ЗВАЛЬНЕННЯ Ў ЗАПАС

Восенню звальняюся ў запас з Узброеных Сіл СССР. За час службы ў Беларусі палюбіў гэтую зямлю і хацеў бы застацца тут жыць і працаваць.

Я вадзіцель, нарадзіўся ў Казахстане. Буду рады запрашэнню працаваць у якой-небудзь з гаспадарак Гродзенскай вобласці. (15)

## КУПІЦЕ «КВАРЦ»

Прадаю фотаапарат «Зеніт-Е» і кінакамеру «Кварц». Усёй гэтай фотатэхніцы патрэбен нескладаны рамонт. (16)

## АДДАЮ ДАРМА!

Жыву ў Мінску, у мікрараёне Зялёны Луг. Кладоўка кватэры запоўнена шклянымі слоікамі 0,5 і 0,7 л. У бліжэйшых прыёмачных пунктах гэты шклапосуд не прымаюць. Выкідваць — шкада. Напэўна, яны каму-небудзь спатрэбяцца, аддаў бы дарма. (17)

## РАДУЖНАЯ РЫБКА

Ёсць такая акварыумная рыбка — радужная. Яе я бачыў толькі на слайдах, а хацеў бы мець у сваім акварыуме. Мажліва ў каго-небудзь ёсць магчымасць дапамагчы мне зрабіць такую пакупку. Я маю на ўвазе людзей, якія разводзяць рэдкіх рыбак. (18)

## ПАДЛЕТКУ ПАТРЭБЕН СЯБАР

Нашаму сыну Андрэю — 13 гадоў. Ён трымаецца неяк убаку ад аднагодкаў. Часта бывае маўклівы, апатычны. Нас гэта трывожыць.

Усё лета ён праводзіць у бабулі ў Рагачоўскім раёне. Вельмі нам хацелася б, каб ён там адпачываў не адзін, а з адным-двума равеснікамі. Яны, не знаёмыя раней, магчыма, моцна пасябруюць. Адзіная ўмова для хлопчыка, які хацеў бы адпачыць з нашым сынам: ён павінен любіць спорт і чытаць, дапамагаць разам з Андрэем бабулі. (19)

## ПАТРЭБНА ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ!

Мяняю збор твораў Купрына на «Педагагічную энцыклапедыю». Калі абмен не задавальняе ўладальніка энцыклапедыі — магу купіць яе (24).



КАЛЯНДАР САДОЎНІКА

# ПАД БУДУЧЫ ЎРАДЖАЙ

Навум МЕЛЬНІК,
кандыдат сельскагаспадарчых навук.

Не варта засмучацца, калі ваш садовы ўчастак размешчаны на пясчанай малаўрадлівай глебе. І на гэтай зямлі можна атрымліваць устойлівыя высокія ўраджаі садавіны і гароднiны.

Трэба толькі як след падкормліваць нашу карміцельку.

У якасці арганічнага ўгнаення ўжываецца гной хатніх жывёл і птушак. Аднак кожны садавод-аматар імкнецца выкарыстаць арганічныя ўгнаенні, якія можна назапасіць на месцы. Найлепшае з іх — кампост. Для кампаставання выкарыстоўваецца трава, пустазелле, лісце, прэлая салома і сена, драўлянае пілавінне, смецце, шматкі паперы, а таксама кухонныя адходы. Вось чаму не трэба спальваць нічога з таго, што ўтрымлівае арганічныя рэчывы.

Існуе памылковая думка, што насенне пустазелля, трапляючы разам з кампостам у глебу, прарастае. У масе кампосту адбываюцца працэсы самаразагравання, у выніку якіх насенне пустазелля губляе ўсходжасць, а споры хваробатворных грыбоў гінуць.

Кампостную кучу закладваюць на ўзвышшы, каб яе не залівала вадой, пажадана ў зацененым месцы. У аснову насыпаюць пласт торфу або рачнога глею таўшчынёй 20—25 см. Можна выкарыстоўваць і «арэхавую» зямлю, якая назапашваецца ў нізкіх мясцінах лісцевых лясоў з падлескам ляшчыны і алешыны. Далей пластамі кладуць розны матэрыял для кампаставання. Пры гэтым пажадана ўнесці 20—30 працэнтаў свежага гною або 7—10 працэнтаў курынага памёту. На 1 $м^3$ масы даюць 4 кг суперфасфату і 2 кг калійнай солі, а таксама 5—6 кг вапняковых матэрыялаў: мелу, мергелю, даламітавай мукі, попелу (лепш драўніннага) або вапняковага смецця. Шырыня кампостнай кучы павінна быць 1,5—2 м, вышыня 1 м, а даўжыня — 1,5—3 м. Ёй надаюць форму ўсечанага конуса з увагнутай паверхняй. Зверху накрываюць пластом зямлі або торфу 10—15 см.

Кампост перыядычна паліваюць кухоннымі памыямі і мыльнай вадой, на працягу лета 2—3 разы пералапачваюць і сочаць, каб ён не перасыхаў. Звычайна к восені гэта ўгнаенне гатова да ўнясення ў глебу, уяўляе сабой аднародную рассыпістую масу цёмнага колеру з пахам перагнойнай зямлі. Кампост ужываюць для ўгнаення капусты, агуркоў, таматаў, бульбы, а таксама ягадных і кветкавых культур па аднаму вядру на 1,5—2 $м^2$.

Прыгатаванне кампосту не толькі з'яўляецца істотным рэзервам назапашвання арганічных угнаенняў, але і папярэджвае забруджванне навакольнага асяроддзя.

# ЖАМЧУЖЫНА НАШЫХ САДОЎ

Хто з нас не ведае антонаўку? Сапраўдны знаўца заўсёды выбера сярод груд чырванашчокіх яблыкаў, шчодра рассыпаных на рыначным прылаўку, залацістую крамяную, з непаўторным смакам антонаўку. Вяскоўцу ж адно гэта слова адразу нагадае гады маленства, росную восеньскую раніцу, старыя яблыні ў бацькоўскім садзе, якія прыгнуліся пад цяжарам буйных, бурштынавага колеру пладоў... Хлебароба заўсёды радаваў багаты ўраджай у садзе, бо, як пісаў І. А. Бунін, «Вясковыя справы ідуць добра, калі антонаўка ўрадзіла: значыць, і жыта ўрадзіла...»

Гатунак гэты з назапамятных часоў вырошчваюць на шырокай тэрыторыі ад Польшчы да Курскай вобласці і ад Украіны да Прыбалтыкі. Цэнтр гэтага арэала — Беларусь.

Антонаўка паходзіць ад мясцовай лясной яблыні, таму і вызначаецца даўгалеццем і марозаўстойлівасцю. Адны лічаць, што першую антонаўку вывеў садавод па імені Антон, другія месцам яе нараджэння называюць вёску Антонаўка. Але ж на Беларусі дзесяткі вёсак з такой назвай...

З цягам часу ад першапачатковай антонаўкі атрымана шмат гатункаў. На пачатку гэтага стагоддзя прафесар сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках Магілёўскай вобласці М. В. Рытаў апісаў 17 гатункаў антонаўкі. Найбольшую вядомасць набыла антонаўка буйная магілёўская. Перад пачаткам збору гэтых каштоўных пладоў рабочых прымушалі старанна састрыгаць ногці, каб выпадкова не пашкодзіць яблыкі. Сабраныя плады перавозілі на драбінах, засланых саломай, на баржы. Затым па Дняпры, Бярэзіне і Сажы іх сплаўлялі ў Кіеў, а таксама ў буйныя гарады на поўдні Расіі. Па чыгунцы антонаўку вывозілі ў Маскву, Пецярбург і Заходнюю Еўропу.

Дзякуючы антонаўцы Беларусь стала буйным цэнтрам прамысловага садаводства. У сваёй рабоце «Развіццё капіталізму ў Расіі» У. І. Ленін адзначаў: «...Прамысловае садаводства развівалася, напрыклад, у губернях Ковенскай, Віленскай, Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Ніжагародскай побач з пашырэннем рынкаў збыту...». У выніку чаго значна паменшыўся ўвоз садавіны з-за мяжы. Пералічаныя губерні, за выключэннем Ковенскай і Ніжагародскай, ахоплівалі ўсю цяперашнюю тэрыторыю Беларусі.

За гады Савецкай улады было закладзена шмат вялікіх грамадскіх садоў, у якіх антонаўка займала больш як 80 працэнтаў. У цяжкія пяцідзесятыя гады гэта галіна займала вядучае месца, садзейнічаючы аднаўленню калгасаў і саўгасаў у пасляваенны перыяд.

Антонаўку можна ўжываць не толькі ў свежым выглядзе. Цудоўная антонаўка сушаная, печаная з цукрам, непаўторная ў мароженым выглядзе. Памятаеце, як некалі ў маленстве, віхурыстым зімовым вечарам, маці падавала на печ міску з марожанымі яблыкамі? Пацямнелыя і зморшчаныя з выгляду, яны напаўнялі рот жыватворным кісла-салодкім сокам, з якім па смаку нельга параўнаць ні апельсіны, ні мандарыны, ні іншыя заморскія далікатэсы.

Антонаўка — найлепшая сыравіна для яблычнага цеста, з якога атрымліваюць зефір і пасцілу. Яшчэ 20 гадоў назад мы не толькі забяспечвалі ўласныя патрэбы ў гэтым прадукце, але і вывозілі яблычнае цеста з антонаўкі ў Англію. А зараз мы прывозім гэта цеста з паўднёвых абласцей і з-за мяжы, але яно ў многім уступае ранейшаму.

М. В. Рытаў у сваёй кнізе «Рускія яблыкі», выдадзенай у 1914 годзе, пісаў пра антонаўку: «...яе поспех у гандлі тлумачыцца надзвычайнай прыгоднасцю яблыкаў для гаспадарчых і тэхнічных мэт, а кісла-салодкая мякаць без лішняй слодычы робіць гэты яблык самым жаданым на рускіх рынках, дзе цэняцца яблыкі з так званым «кваском», мілым рускім спажыўцам... Галоўнае спажыванне яблыкаў антонаўкі — для мачэння: у квашаным выглядзе яна з'яўляецца танным ласункам для простага народа...»

Сапраўды, іншыя гатункі малапрыдатныя для мачэння, таму мочаныя яблыкі з даўніх часоў можна было сустрэць толькі на Беларусі. Тэхналогія прыгатавання гэтага ласунку нескладаная. Вось адзін са старадаўніх рэцэптаў мачэння антонаўкі, якім з поспехам карыстаюцца да нашых дзён.

**Знятыя яблыкі вытрымліваюць на працягу двух тыдняў у халаднаватым памяшканні. Заліўку рыхтуюць з разліку 200 г цукру, 100 г солі і 100 г аржаной мукі на 10 кг яблыкаў. Муку папярэдне разводзяць у невялікай колькасці вады. У заліўку добра дадаць сталовую лыжку мёду. Яблыкі можна мачыць у шкляным або эмаліраваным посудзе, а таксама ў драўляных бочках. Пажадана выслаць дно і бакі бочкі прапаранай саломай.**

Зараз многія старыя сады аказаліся запушчанымі, зараслі шматгадовым дзірваном і нярэдка выкарыстоўваюцца як паша для жывёлы. Дрэвы не абразаюцца і не ўгнойваюцца, таму рэдка пладаносяць, хварэюць і заўчасна адміраюць. Яблыкі ў такіх садах растуць дробныя, пашкоджаныя паршой, і гэта дае падставу для распаўсюджанага меркавання, што антонаўка ў нас, маўляў, вырадзілася. З усёй пэўнасцю магу зазначыць, што там, дзе за садам ёсць належны догляд, антонаўка мае былую сілу і якасць пладоў.



СПОРТ

АЛІМПІЙСКІЯ КОНТУРЫ

# „ЗОРКІ" ФУТБОЛЬНАЙ РАНІЦЫ

Памятаеце фільм «Варатар»? Выдатная карціна. Можна сказаць — непаўторная: зрабіць падобную кінааповесць аб спорце ўжо нельга.

Гуляць у сучасны футбол — і гуляць паспяхова — трэба вучыцца некалькі гадоў. Хай ты нават звышталенавіты нападаючы ці абаронца — усё роўна за колькі трэніровак да сур'ёзнага выпрабавання сваіх сіл і магчымасцей, да сур'ёзнага матча не падрыхтуешся. Вось так...

Няхай прабачаць мне Алейнікаў, Зыгмантовіч і Бароўскі за тое, што раскрываю маленькую тайну: гэтыя трое (як і яшчэ некалькі сучасных «зорак» скуранога мяча) па-сапраўднаму раскрыліся толькі ў канцы шматгадовага навучання. А пазнавалі яны футбольную навуку ў пятай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе алімпійскага рэзерву. Разам з Янушэўскім, Гурыновічам, Шаліма...

Цяпер іх месцы ў класах, лаўкі ў раздзявальнях займаюць іншыя. Хлопчыкі 12—16 гадоў. Змена, рэзерв, надзеі балельшчыкаў.

— З якіх вашых выхаванцаў могуць атрымацца выдатныя спартсмены? — пытаю кіраўніка аддзялення футбола школы Валерыя Пятровіча Чараватага.

— Спачатку аб тых, хто толькі што ўсур'ёз прымусіў гаварыць пра сябе спецыялістаў і трэнераў. Гэта Алег Хмяльніцкі, Сяргей Бараноўскі, Андрэй Сацункевіч... Дарэчы, Андрэй ужо ў асноўным саставе галоўнага футбольнага клуба рэспублікі. Ён — варатар. Дублёр Івана Жэкю.

Цяпер назаву некалькі прозвішчаў, якія — хачу верыць — праз 5—8 гадоў будуць на вуснах спартыўных каментатараў. Гэтыя ўзыходзячыя «зоркі» — яшчэ зусім хлопчыкі. Але ўжо могуць аказацца сур'ёзнымі праціўнікамі на полі іншым дарослым ігракам. Напрыклад, вельмі перспектыўныя Гена Мігалёў, Ігар Селькін, Андрэй Падрэз, Вадзім Юнчык, Алег Пуціла.

Наколькі абгрунтаваны прагноз В. П. Чараватага? Мяркуйце самі: у васьмідзесятым ён назваў імёны і дабавіў:

— Хутка яны будуць гуляць за мінскае «Дынама».

І што ж? Яны гуляюць... А цяпер пакінем інтуіцыю, прагнозы і паведамім цікавыя для прыхільнікаў аднаго з самых папулярных відаў спорту факты. Нядаўна 24 выхаванцы школы запрошаны ў розныя зборныя каманды Беларусі, сярод іншых — пераможцы рэспубліканскіх спаборніцтваў на прыз «Скураны мяч» і тыя, каму даверана ўдзельнічаць у першынстве СССР сярод ДЮСШ пры камандах майстроў...

Поспеху любой каманды абавязкова папярэднічае карпатлівая творчая работа яе трэнера і саміх ігракоў. Зразумела, што чым вышэй кваліфікацыя спартыўнага спецыяліста, чым больш часу ён займаецца з таленавітымі хлопчыкамі — тым мацнейшай становіцца віхрастая футбольная дружына. У СДЮСШАР — вопытныя трэнеры. Іх выхаванцы кожны тыдзень праводзяць на футбольным полі ці ў спартзале не менш як 20 гадзін. Аднак «праводзяць» — слова не зусім дакладнае. Школьнікі вучацца разумець прыгажосць папулярнай гульні, раскрываюць для сябе яе сакрэты, загартоўваюцца, становяцца больш вынослівымі і дужэйшымі.

У школе шэсць спецкласаў.

У іх вучацца з 8 да 17 гадоў. Прычым гуляюць не толькі ў футбол, але і ў іншыя спартыўныя гульні. Бо фізічная падрыхтоўка павінна быць рознабаковай. І ўмовы тут створаны для выхавання сапраўды выдатных, высакакласных ігракоў. Трэніроўкі не спыняюцца нават у дні канікулаў.

— Вы прымаеце толькі найбольш таленавітых дзяцей? — задаю апошняе пытанне В. Чараватаму.

— У нас ёсць класы, у якіх большасць так званых «неперспектыўных». Мы не хочам пазбаўляць радасці навучыцца добра гуляць у футбол усіх жадаючых хлопчыкаў. А не толькі — здольных, таленавітых. Дарэчы, набор у школу аб'яўляецца ў верасні і працягваецца месяц.

**Валерый ЛАРЫН.**

**Фота Генадзя Сямёнава.**






Пад рэдакцыяй міжнароднага гросмайстра Віктара КУПРЭЙЧЫКА.

Матэматыка ці шахматы? Пытанне паўставала складанае.

— Перавага на той час была на баку матэматыкі,— прыгадвае з усмешкай Вячаслаў Дыдышка.— Але і шахматы

# МАТЭМАТЫКА І... МАТ

Звычайна мяркуюць, што для гульні ў шахматы патрабуюцца, як мінімум, два кампаненты: дошка з поўным кампілектам фігур і партнёр па процілеглы бок тае дошкі.

Намеснік дырэктара па матэматычных метадах Рэспубліканскага вылічальнага цэнтра ЦСУ БССР Вячаслаў Дыдышка з такім пунктам гледжання не зусім згодзен і таму пярэчыць:

— Для гульні патрэбен яшчэ адзін кампанент — вольны час...

Дыдышка, канечне, мае рацыю. Пасада ў яго адказная, і шахматы для яго, як цяпер гавораць, толькі хобі.

«Хобі — у міжнароднага майстра?»— удакладняеце вы. Так, так — менавіта — хобі, і ніякай памылкі тут няма.

...Цяжка адказаць дакладна, калі ў лексіконе вясковага хлопчыка Славы Дыдышкі побач са словам «матэматыка» з'явіліся крыху таямнічыя тэрміны— «эндшпіль» і «цугцванг», «шах» і «мат». Можа тады, калі хлопчык з вёскі Ліпск, што на Брэстчыне, пачаў перамагаць і бацьку, і братоў на «сямейных турнірах»? А можа тады, калі ў 12-гадовым узросце Слава дэбютаваў у першых сваіх спаборніцтвах? Вясковы хлапчук, праўда, у часе турніра не, дый пачынаў «плаваць»: шахматных падручнікаў у Ліпску было няшмат, а пра трэнераў тады і гаворкі не вялі — юныя шахматысты самі выступалі ў ролі «гуляючых трэнераў».

Бадай, самы памятны год у жыцці Славы Дыдышкі — 1966-ты. На Усесаюзным першынстве сярод школьнікаў беларускі хлопец стаў прызёрам і падзяліўся з будучымі гросмайстрамі — Анатолем Карпавым і Рафаэлем Ваганянам.

паражэнне не пацярпелі. Пасля заканчэння матэматычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна я пачаў працаваць у Рэспубліканскім вылічальным цэнтры ЦСУ БССР. Але і з шахматамі не развітаўся. І нават займеў сякія-такія поспехі...

Зловім, як кажуць, Дыдышку на слове. Нічога сабе «сякія-такія поспехі» — Вячаслаў неаднойчы станавіўся чэмпіёнам рэспублікі, выступаў (і паспяхова!) на Спартакіядзе народаў СССР і ў турнірах на Кубак краіны, а ўлетку 1981 года на міжнародным шахматным турніры ў Індыі займеў першы бал міжнароднага майстра.

Вячаслаў Дыдышка любіць паразважаць за шахматнай дошкай. Палічыць варыянты, а потым — зноў іх пералічыць, знойдзе памылку ў разліках — пачаць пералік спачатку (матэматыка і тут бярэ сваё!). Падчас гэтая «задуменнасць» заводзіць майстра ў цэйтнот, адбірае неабходныя ачкі ў табліцы, але задуменнасць і шмат што вызначае ў ягонай творчай лабараторыі. У творчай лабараторыі матэматыка па прызванню. І шахматыста па натуры.

А зараз, паважаныя чытачы, мы падаём фрагменты паядынкаў з удзелам шахматных каралёў свету — М. Бацвінніка і Х. Р. Капабланкі, Т. Петрасяна і Б. Спаскага.

На «конкурсе прыгажосці», які прайшоў пад патранажам югаслаўскага тэлебачання, амаль два мільёны аматараў шахмат — удзельнікаў конкурсу — лепшай партыяй ХХ стагоддзя прызналі паядынак паміж савецкім гросмайстрам М. Бацвіннікам і кубінцам Х. Р. Капабланкам.



Пасля 29-га ходу савецкі гросмайстар (ён гуляў белымі) пачаў прыгожую камбінацыю:

30. Са3! Ф:а3 31. Kh5+gh 32. Фg5+ Kpf8 33. Ф:f6+Kpg8 34. e7 Фс1+ 35. Kpf2 Фс2+36. Kpg3 Фd1+37. Kph4 Фe4+38. Kp:h5 Фe2+39. Kph4 Фe4+40. g4 Фe1+41. Kph5. Чорныя капітулявалі.



Гэта пазіцыя ўзнікла пасля 29-га ходу чорных у паядынку Т. Петрасян — Б. Спаскі, які адбыўся ў 1966 годзе ў Маскве.

Тыгран Петрасян зрабіў толькі адзін ход — 30. Фh8+!!, і Барыс Спаскі спыніў шахматны гадзіннік. А што заставалася ў яго становішчы? Пасля 30... Кр:h8 31. К:f7+ і 32. К:g5 чорныя гублялі фігуру.

Цікавы і таямнічы, гэты шахматны свет!

# ГУМАР

## ЛІРЫКА САТЫРЫКА

### ЭГАІЗМ

**Ёсць свой нораў**
**У яго,**
**Нават логіка**
**Свая.**
**Дзе пачаць патрэбна**
**З «Мы»,**
**Ён пачне заўсёды**
**З «Я».**

**Леанід ШЫРЫН.**

### ПРАБАЧЦЕ ЗА ВЫСЛОЎЕ

● **Іншы раз, каб зрабіць адкрыццё, даводзіцца адкрываць дзесяткі дзвярэй.**

● **Каб узляцець, трэба ісці супраць ветру.**

● **На літаратурным штампе няма пячаткі таленту.**

**Уладзімір ФІЛЬЧАНКА.**



**Без слоў.**
**Малюнак Яўгена ЦАРКОВА.**

### ФІНІШНАЯ ПРАМАЯ

● **Са шпагаглытальнікам не фехтуюць.**

● **Пераможцам можа стаць кожны, а экс-чэмпіёнам — толькі чэмпіён.**

**Міхаіл КУЗЬМІН.**

# КРАСВОРД

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 4. Востраў у Міжземным моры. 7. Птушка сямейства чаек. 8. Млекакормячае сямейства псовых. 9. Травяністая расліна сямейства парасонавых. 12. Лісцевае дрэва. 16. Грызун — шкоднік пасеваў. 18. Парода пакаёвых сабак. 19. Ядомы грыб сямейства радоўкавых. 20. Травяністы дэкаратыўны даўгацвет сямейства складанакветных. 22. Возера ў Браслаўскім раёне Віцебскай вобласці. 23. Гіганцкае трапічнае лісцевае дрэва з ядомым плодам. 25. Насякомае атрада прамакрылых. 29. Сузор'е паўночнага паўшар'я. 30. Дзённы матыль, занесены ў Чырвоную кнігу БССР. 31. Вадаскат у Фінляндыі. 32. Марское млекакормячае сямейства дэльфінавых.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Жук сямейства даўганосікаў. 2. Вадаплаўная птушка. 3. Адтуліна на вяршыні вулкана. 5. Перапончатакрылае насякомае. 6. Прэснаводнае возера ў Сібіры. 10. Жывёліна атрада грызуноў. 11. Млекакормячая жывёліна з доўгімі заднімі нагамі і хвастом. 13. Прыток Прыпяці. 14. Промыславая рыба сямейства карпавых. 15. Сорт вінаграду. 17. Каштоўны празрысты камень ярка-зялёнага колеру. 21. Сукупнасць птушак пэўнай тэрыторыі. 24. Рыба-паўзун атрада акунёвых. 26. Мохавае балота. 27. Буйны сакавіты трапічны плод. 28. Павышэнне тэмпературы пасля марозу зімой.

**Склаў Міхаіл ТОП.**



### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 5.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 4. Даватар. 7. Артылерыя. 8. Плібў. 10. Глоба. 16. Тайна. 17. Якаўлеў. 18. Агонь. 19. Воін. 20. Акоп. 21. Шчорс. 22. Петарда. 24. Віраж. 27. Адчал. 28. Браня. 31. Амбразура. 32. Токарай.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Вахта. 2. Харламаў. 3. Кадры. 5. Казеі. 6. Пятля. 9. Ленінград. 11. «Баграціён». 12. Малодчы. 13. Скрэпер. 14. Легенда. 15. Антонаў. 23. Аператар. 25. Марак. 26. Ярмак. 29. Абход. 30. Жукаў.

# КВЕТКА НА ДАЛОНІ РАСІІ

(Заканчэнне. Пачатак на 14-й стар.)

Ён у курсе вытворчых клопатаў хімікаў і шыннікаў. У чым тут справа? Здабыча нафты ў Татарыі сёння стабілізуецца. А якасць не паляпшаецца. Нічога не зробіш: прырода дае толькі тое, што можа і колькі можа даць. А каўчуку патрабуецца ўсё больш і больш, прытым лепшай якасці.

Ніжнякамскія нафтахімікі, як мы ўжо гаварылі, навучыліся рабіць такі каўчук. Але шыннікі не ўзрадаваліся, бо да работы з такім каўчуком пакуль не падрыхтаваны ні іх тэхналогія, ні іх абсталяванне. Наглядны прыклад таго, калі навукова-тэхнічны прагрэс у адной галіне адстае ад развіцця другой.

— Патрэбен навуковы цэнтр, які б займаўся міжгаліновымі рашэннямі,— пераканана гаворыць мой субяседнік.— Мажліва нават у нас, у Ніжнякамску.

Ён прымае заклапочаны выгляд:

— Бачыце, колькі праблем. А той-сёй лічыць: маўляў, што можа быць прасцей кола!

У Альмецьеўску пачынаецца нафтаправод «Дружба», які праходзіць і па беларускай зямлі. Мы пабывалі ля ўказальніка з надпісам «Нулявы кіламетр», памацалі гарачыя трубы з нафтай, адчулі, як пульсуе там «чорнае золата». З дапамогай нафтавікоў паспрабавалі ўявіць, што паказала б велізарная тэрыторыя нафтавых раёнаў Татарыі, калі б накіраваць на яе гіганцкі рэнтгенаўскі апарат. Усё цела зямлі аказалася б зрэзаным артэрыямі. Гэта металічныя трубы. Па іх бяжыць нафта. Ад шчыліны да таварных паркаў, ад іх — да помпавых збудаванняў на перапрацоўчыя заводы на ўсе чатыры часткі свету: усход, захад, поўдзень, поўнач. «Чорнае золата» Татарыі ідзе на Горкаўскі перапрацоўчы завод. Тут трубаправод раздзяляецца на два рукавы: адзін накіроўваецца да старажытнага горада на Волзе — Яраслаўля, другі — да Масквы.

Магістраль Альмецьеўск — Куйбышаў — Сызрань — Пенза складае галоўны ўчастак нафтаправода «Дружба». Працягласць усёй трасы — 5500 кіламетраў. Ад берагоў Волгі траса ідзе да Дуная, Віслы, Одэра. На захад яе шлях ляжыць праз цэнтральныя вобласці Расійскай Федэрацыі да Беларусі. Каля Мазыра яна разгаліноўваецца. Паўночная галіна ідзе да Брэста — тут пачынаецца польская частка нафтаправода, якая заканчваецца ў ГДР. Паўднёвая нітка нафтаправода праходзіць праз Украіну і Карпаты да Ужгарада. Тут пачынаецца чэхаславацкая частка.

У музеі нафтавікоў Альмецьеўска маю ўвагу прыцягнулі тры фатаграфіі. На першай быў адлюстраваны немалады ўжо чалавек. З подпісу вынікала, што гэта брыгадзір буравікоў Ахат Губайдулін, ветэран нафтапрамыслаў Татарыі. Ён быў зняты побач з буравіком Мікалаем Сяргейчыкам — нафтавіком з Беларусі, якога Ахат вучыў свайму майстэрству ў пачатку шасцідзесятых гадоў, калі прыязджаў на дапамогу беларускім сябрам. На другім здымку, што размешчаны крыху ніжэй, зноў яны — Губайдулін і Сяргейчык, але нейкія ўжо занадта маладыя. Мо былі знаёмы раней, да таго, калі славуты татарскі буравік, пачуўшы, што ў Беларусі знойдзены залежы нафты, паехаў туды? Але ж чаму ў іх розныя імёны?

— Гэта іх сыны,— тлумачыць экскурсавод.— Рэнат Губайдулін і Пётр Сяргейчык. Таксама буравікі і працуюць у Альмецьеўску.

На трэцім здымку твары быццам новыя. І толькі добра прыглядзеўшыся, заўважаеш падабенства. Унукі Ахата Губайдуліна і Міколы Сяргейчыка Мунір Нуфутдзінаў і Іван Кляўчэня! Яны працуюць у аб'яднанні «Цюменьнафта» — туды, у раёны Заходняй Сібіры, перамясціўся сёння цэнтр здабычы «чорнага золата».

З заходнесібірскімі промысламі звязваюць сваю будучыню рабочыя Ніжнякамскага тэрытарыяльна-вытворчага комплексу. Магутны нафтахімічны канвеер пераўзышоў першапачатковыя разлікі ў тры разы. Магчымасці трубы, якая звязвае Ніжнякамск з месцараджэннямі Татарыі, падаюць, на грузавых эстакадах павялічваецца паток цыстэрнаў з іншых промыслаў краіны. А мо варта праклясці трубаправод Саматлор — Альмецьеўск? Спецыялісты, эксперты, з якімі давялося гутарыць, сярод іншых распрацоўваюць і такі варыянт, які прадугледжвае глыбокі гідракрэкінг нафты на Ніжнякамскай пляцоўцы. Ёсць і другі: а ці нельга перакінуць у еўрапейскую частку краіны заходнесібірскі газ? Зараз там у факелах згарае палавіна спадарожнага нафтавага газу. А яшчэ Мендзялееў папярэджваў: спальваць нафту — тое ж самае, што паліць грашовымі асігнацыямі. Праклясці праз Урал трубу — і каштоўны заходнесібірскі газ прыйдзе на газаперапрацоўчыя гіганты Паволжа. І эканамічна, і выгадна, бо харчаваць магутны нафтахімічны канвеер цыстэрнамі (а сёння іменна такім чынам паступае ў Ніжнякамск кожная чацвёртая тона сыравіны) — тое ж, што карміць слана з чайнай лыжачкі.

Гіпотэзы, прапановы, разлікі. Праекты — і рэалістычныя, і, прама скажам, фантастычныя. А мо яны здаюцца неажыццявімымі, што не ўкладваюцца ў прывычныя рамкі ўяўленняў? Аб'яўляліся ж нерэальнымі пошукі нафты ў Татарыі, бралася пад сумненне мэтазгоднасць намаганняў акадэміка Губкіна, які шукаў тут нафту яшчэ ў трыццатыя гады. Колькі людзей — гэтулькі ж і пунктаў гледжання. Яны гучалі ўсюды: у кабінетах партыйных работнікаў і кіраўнікоў нафтахімічных прадпрыемстваў, на буравых і ў аўтобусах, што везлі рабочых са змены. І гэта надзвычай важна, бо найлепшым чынам характарызуе сучасных працаўнікоў Савецкай Татарыі — сапраўдных гаспадароў багаццяў свайго краю.

Ім да ўсяго справа — і да таго, якім павінен быць абрус-самабор магутнага ТВК, каб мог кожны дзень дакладна ведаць, колькі народу накарміць, чаго, колькі і ў якім выглядзе падаваць да стала. Гэтым, відаць, выклікана вялікая зацікаўленасць гараджан у рабоце падсобных гаспадарак сваіх прадпрыемстваў, іх шэфская дапамога ў павелічэнні вытворчасці мяса і малака. Ці не таму абрус-самабор Ніжнякамскага ТВК сёння больш смачны і танны, чым у іншых?

Пераначаваўшы ў Азнакаеве — апошнім раённым цэнтры Татарскай АССР на граніцы з Башкірыяй, мы праз Альмецьеўск падаліся ў старажытную Бугульму, вядомую па біяграфіі Яраслава Гашака. З Бугульмы крылатая машына даставіла нас у Казань.

На жаль, сустрэцца з Раісам Кіямавічам Бяляевым тады не ўдалося — ён быў у камандзіроўцы. Ужо дзён праз колькі, вярнуўшыся дадому, пачуў у тэлефоннай трубцы яго бадзёры голас:

— Ну, як вам спадабалася Татарыя? Што цікавага ўбачылі, пачулі? Татарыя, Татарыя, Татарстан...

У вушах зноў загучаў стук вагонных колаў фірменнага цягніка. Колькі часу прайшло, а пры слове Татарыя ажывае незвычайны рытм, які нарадзіўся ў дарозе. Справа ў тым, што жыхары гэтай рэспублікі яе назву вымаўляюць з націскам на перадапошнім складзе. І тады ўспамінаюцца галасы людзей, з якімі пазнаёміўся і пасябраваў там, у краі, які стаў больш блізкім і зразумелым.

Татарыя, Татарыя, Татарстан...

— Волга — гэта прыгожа, магутна. Але ў нас яшчэ каля тысячы маленькіх рачулак.

Татарыя, Татарыя, Татарстан...

— Рэспубліка ў гады Вялікай Айчыннай дала прытулак дзесяткам тысяч эвакуіраваных савецкіх людзей, сямідзесяці прадпрыемствам. Не было ніводнай фабрыкі, ніводнай майстэрні, якія б не выконвалі франтавых заказаў. Месцы мужоў, сыноў, братоў, якія пайшлі на фронт, занялі жанчыны. Яны пастаўлялі для патрэб арміі каля 600 відаў зброі, боепрыпасаў. Прадпрыемствы Татарыі штодзённа апраналі полк, абувалі цэлую дывізію. Дарэчы, у састаў абутковай фабрыкі казанскага камбіната «Спартак» улілася фабрыка «Праца», эвакуіраваная з Гомеля. У штат камбіната былі залічаны і пасслены ў Казані 300 беларускіх абутнікаў. Адзення і абутку, выраблены ў рэспубліцы ў гады вайны, было б дастаткова, каб забяспечыць трохмільённую армію. У шпіталях Татарыі прайшлі курс лячэння каля 334 тысяч раненых воінаў. 207 тысяч з іх вярнуліся ў строй. Гэта больш як 20 паўнакроўных дывізій. К канцу 1943 года працоўныя Татарыі сабралі ў фонд абароны краіны 51 мільён рублёў, пабудавалі танкавыя калоны «Калгаснік Татарыі», «Чырвоная Татарыя».

Татарыя, Татарыя, Татарстан...

— Больш як 200 нашых землякоў удастоена звання Героя Савецкага Саюза, 50 з'яўляюцца поўнымі кавалерамі ордэна Славы, амаль 200 тысяч узнагароджана ордэнамі і медалямі. Пад Масквой у 1941 годзе гераічна змагаліся сфарміраваныя ў Татарыі 334-я, 146-я Казанская і 352-я дывізіі. Казанскі рабочы Анатоль Чэхаў, стаўшы снайперам, знішчыў у Сталінградзе 265 гітлераўцаў. Нашы слаўныя землякі Газінур Гафіятулін, Бары Шавалееў, Аляксей Ісаеў, Мікалай Ліпатаў і Арсен Карташоў паўтарылі подзвіг Аляксандра Матросава. За фарсіраванне Дняпра 40 ураджэнцаў Татарыі атрымалі званне Героя Савецкага Саюза. Маршал І. С. Конеў зазначыў: «Ураджэнцы Татарыі змагаюцца, як ільвы...»

Татарыя, Татарыя, Татарстан...

— За 113 гадоў дарэвалюцыйнага існавання Казанскага універсітэта яго закончылі толькі 20 татараў. У 1906 годзе часопіс «Веснік выхавання» пісаў, што пры тагачасных тэмпах развіцця адукацыі патрабавалася б 4—5 тысяч гадоў, каб пакончыць з непісьменнасцю малых народаў. Да Кастрычніка Казанская губерня па пісьменнасці займала 44-е месца сярод 50 губерань еўрапейскай часткі Расіі. На кожную тысячу чалавек 821 тут быў непісьменны. Сёння Савецкая Татарыя — рэспубліка высокай адукаванасці, культуры, навукі.

Татарыя, Татарыя, Татарстан...

— Татарская нацыянальная культура заўсёды развівалася і развіваецца ў цеснай творчай сувязі з культурамі брацкіх народаў СССР і перш за ўсё з рускай культурай. Немагчыма ўявіць Габдулу Тукая без Пушкіна і Лермантава, Галіяскара Камала без Гогаля і Астроўскага, Гафура Кулахметава і Галімджана Ібрагімава без Горкага. Сённяшні высокі ўзровень культуры татарскага народа — вынік нястомнага клопату партыі аб развіцці духоўных сіл кожнай нацыі, культур усіх народаў СССР, паслядоўнага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Гучаць галасы Г. Усманава і Ф. Булатава, Т. Мінуліна і М. Салімзянава... Першы сакратар абкома партыі і генерал-маёр у адстаўцы, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў і галоўны рэжысёр Татарскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра, дзесяткі іншых вядомых і простых людзей, з кім давялося сустрэцца ў дарозе.

Бывай жа шчаслівы, край былінных прастораў і руплівых працаўнікоў. Ты застанешся ў маёй памяці яркай кветкай на ласкавай і цёплай далоні Расіі.

Працяг.

Георгій КРАСНОЎ (Кобрын).



25

# У СВЯТЛЕ ЮПІТЭРАЎ І РАМПЫ



Яго дэбют на мінскай сцэне адбыўся некалькі гадоў назад у спектаклі Тэатра-студыі кінаакцёра «Усё яго жыццё» (паводле сцэнарыя Я. Габрыловіча «Камуніст»). Аднак імя «дэбютанта», які сыграў у тым спектаклі ролю камуніста Васіля Губанава, ведалі ўжо мільёны кінагледачоў. Ведалі па рабоце ў фільме рэжысёра Л. Шапіцька «Узыходжанне». Мінчанам апошнім часам не выпадае ўбачыць гэтага адметнага акцёра ў спектаклях Тэатра-студыі. Бо ён, перш за ўсё, артыст кіно. І калі мы не бачым яго на сцэне, значыць, Уладзімір Гасцюхін без творчых прастояў працуе на здымачных пляцоўках: яму ахвотна прапануюць ролі ў сваіх карцінах рэжысёры розных кінастудый краіны. Мінае час — і з'яўляюцца на экране жывыя вострахарактарныя вобразы, увасобленыя акцёрам у фільмах «Паляванне на лісіц», «Старшына», «Вазьму твой боль», «Магістраль», «Бераг»... Дарэчы, за ролю Мяжэніна ў кінакарціне «Бераг» заслужаны артыст Беларускай ССР Уладзімір Гасцюхін удастоен летась Дзяржаўнай прэміі СССР.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ.

Фота Уладзіміра ШУБЫ.